Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!




# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б


№ 2-3
ЛЮТЫ









МЕНСК — 1929




А. Хацкевіч.

# Папярэдняе аб падрыхтоўцы і перавыбарах саветаў[1]).

У сёлетнюю перавыбарчую кампанію мы маем надзвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы ў горадзе і ў вёсцы, што было выяўлена ў самым пачатку падрыхтоўчай кампаніі. Таму перад КП(б)Б асабліва важнай стала задача арганізацыі і падрыхтоўкі пралетарскіх, батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас для адпору ўзросшай актыўнасьці кулака і нэпмана, мабілізацыя ўвагі і актыўнасьці працоўных мас навакол усіх пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва, абароны краіны і ўзмацненьня дыктатуры пралетарыяту.

У першую чаргу была завострана ўвага на партыйнай і савецкай лініі па выпраўленьні памылак мінулай кампаніі ў частцы недастатковай працы сярод беднаты. *Быў ужыты шэраг арганізацыйных мер да таго, каб поўнасьцю ахапіць бедноту і батрацтва падрыхтоўчымі сходамі як перад справаздачамі, гэтак і перад выбарамі саветаў; замацаваць блёк беднаты з серадняком у саюзе і пад кіраўніцтвам пралетарыяту і гэтым самым паралізаваць узросшую актыўнасьць кулака і нэпмана.*

Другой важнай задачай пры падрыхтоўцы да перавыбараў саветаў было ўзмацніць удзел жанчын як у самой кампаніі, гэтак і ў складзе абраных саветаў. Гэтае пытаньне досыць востра стаяла ў Беларусі, таму што ў працягу трох апошніх кампаній мела месца сыстэматычнае зьніжэньне ліку абраных у саветы жанчын. У адпаведнасьці з гэтым быў створаны рашучы пералом у галіне ўцягненьня жанчын у саветы ў самым пачатку падрыхтоўчай кампаніі. Агульнай-жа ўстаноўкай у бягучую выбарчую кампанію было, *як мага паўней прыцягнуць усіх працоўных наогул і на ўсе 100 проц. прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў перавыбарах прафэсыянальныя і грамадзкія арганізацыі гораду і вёскі.* Рабілася ўсё гэта дзеля таго, каб сапраўды зрабіць кампанію перавыбараў саветаў генэральным аглядам усяе працы саветаў і савецкага апарату пад кутом шырокай крытыкі і самакрытыкі працоўных мас гораду і вёскі.

Гэтая выбарчая кампанія адрозьніваецца ад мінулай кампаніі тым, што ў яе быў унесены ўпяршыню альбо больш выпучаны, калі параўнаць з мінулымі гадамі, шэраг арганізацыйных момантаў. Галоўныя з гэтых момантаў наступныя: сваечасовая падрыхтоўка кандыдатур у склад саветаў і выканкомаў; праверка выкананьня наказаў выбаршчыкаў і выкананьне дырэктыў зьездаў саветаў; *прыцягненьне да ўдзелу як у падрыхтоўцы да кампаніі, гэтак і яе правядзеньні ўсіх грамадзкіх і прафэсыянальных арганізацый, ведамсьцьвеных органаў і ўстаноў; пастаноўка больш шырокай справаздачнасьці саветаў і іх дэпутатаў перад сваімі выбаршчыкамі.*

[1]) У гэтым артыкуле даецца папярэдняя характарыстыка падрыхтоўкі і ходу перавыбараў саветаў. Палітычныя і дзелавыя вынікі перавыбараў яшчэ ўперадзе. А. Х.

Папярэдняя падрыхтоўка ў гэтую кампанію пачата дырэктывай яшчэ ў чэрвэні 1928 г. У гэтай дырыктыве быў высунуты шэраг практычных мерапрыемстваў, якія неабходна было на мясцох безадкладна праводзіць у жыцьцё ў парадку папярэдняй падрыхтоўкі да выбараў. Пытаньні ўсяе папярэдняе падрыхтоўкі да перавыбараў былі таксама своечасова разгледжаны акруговымі выканаўчымі камітэтамі на паседжаньнях пленумаў альбо прэзыдыумаў з удзелам прадстаўнікоў раённых выканаўчых камітэтаў і гарсаветаў у канцы ліпеня альбо ў пачатку жніўня мінулага году. У працягу жніўня-верасьня пытаньні падрыхтоўкі перавыбараў саветаў былі абгавораны ўсімі райвыканкомамі з удзелам сельсаветаў, якія і атрымалі неабходныя практычныя паказаньні.

Загадзя былі вызначаны дакладныя тэрміны правядзеньня справаздачнай і перавыбарчай кампаніі і зьездаў саветаў, якія выявіліся ў наступным: для правядзеньня справаздачнай кампаніі быў вызначан тэрмін з 1-га сьнежня 1928 году па 1 студзеня 1929 г., перавыбараў сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў неакруговых гарадоў, з 1 студзеня па 15 лютага 1929 г., перавыбараў гарадзкіх саветаў акруговых гарадоў, а таксама скліканьня раённых і акруговых зьездаў саветаў з 15 лютага па 1 красавіка 1929 г. Пры гэтым былі прыняты і дадзены мясцом вычэрпваючыя паказаньні па правядзеньні справаздачнай выбарчай кампаніі, падкрэсьліваючы важнае палітычнае яе значэньне.

Сыстэматычная і плянавая работа па падрыхтоўцы к выбарчай кампаніі была пачата ва ўсіх акругах у канцы верасьня і ў пачатку кастрычніка; у гэты-ж самы пэрыяд былі арганізаваны акруговыя выбарчыя камісіі. У акругох былі праведзены спэцыяльныя пашыраныя нарады па пытаньнях перавыбараў з удзелам работнікаў нізавых партыйных і савецкіх органаў і грамадзкіх арганізацый. Па гэтаму прыкладу на мясцох у раёнах таксама быў праведзен шэраг нарад работнікаў Райкому, ячэек КП(б)Б і саветаў з вясковым актывам, жанчынамі-дэлегаткамі, прадстаўнікамі батрацтва, камсамолу, прафсаюзаў і інш. арганізацый. На гэтых нарадах абгаварваліся пытаньні арганізацыйнага характару; былі прапрацаваны параённыя пляны правядзеньня справаздачнай і перавыбарчай кампаніі для кожнага сельскага і местачковага савету ў паасобку, даючы апошнім неабходныя практычныя паказаньні.

Да арганізацыйных недахопаў падрыхтоўчых мерапрыемстваў у раёнах адносяцца, галоўным чынам, назначэньне ў некаторых выпадках сходаў беднаты, батрацтва і жанчын-дэлегатак пасьля справаздачнай кампаніі (Чырвонапольскі і Журавічскі раёны, Магілёўскай акр.), спазьненьне складаньнем плянаў кампаніі і плянаў работ выбарчых камісій; пры гэтым былі выпадкі, калі паасобныя раёны ня мелі пляну справаздач і выбараў да пачатку сьнежня мес. (Гомельскі раён, Гомельскай акр., Межанскі раён, Віцебскай акр., Старадароскі раён, Бабруйскай акр.), недастатковы адбітак у плянах райвыбкамісій практычных мерапрыемстваў па кіраўніцтву кампаніяй у вёсках на выбарчых вучастках. Па некаторай частцы сельскіх і местачковых саветаў, дзякуючы нядосыць поўнаму своечасоваму кіраўніцтву з боку адпаведных райвыканкомаў, падрыхтоўка да перавыбараў пачалася з вялікім спазьненьнем. Так, напрыклад, па Гомельскай акрузе шэраг сельскіх выбкамісій былі арганізаваны толькі ў другой палове лістападу. Спазьненьне ў падрыхтоўцы наглядалася таксама і па некаторай частцы саветаў неакруговых гарадоў.

Пры арганізацыі нізавых выбарчых камісій у акругах *мелі месца выпадкі адхіленьня ад інструкцыі*, якія выявіліся ў неўвядзеньні ў выбкамісію прадстаўнікоў ад нацменшасьцяй, ад жанарганізацый, КСМ

і Камітэтаў Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, а з другога боку былі выпадкі ўвядзеньня ў склад камісій асоб не прадугледжаных па інструкцыі. Пры гэтым у склад сельскіх выбарчых камісій пралазілі чужыя Савецкай уладзе элемэнты і нават асобы, ня маючыя выбарчага права, як, напрыклад, у Саломенскім с-савеце, Талочынскага раёну, Аршанскай акругі ў выбкамісію была ўведзена жанчына-кулачка; у Палыкавіцкім с-с Магілёўскага раёну і акругі—быў уведзены арандатар млыну; у Брагінскім раёне, Гомельскай акругі—быў уведзены ў сельвыбкамісію сын быўш. абшарніка, які пралез у прафсаюз і г. д. Найбольш характэрным недахопам пры арганізацыі выбкамісій (сельскіх, местачковых) наглядалася недастатковае ўвядзеньне ад прафсаюзаў батракоў і рабочых; так, напрыклад, па 1404 сельскіх і местачковых выбкамісіях з 1256 прадстаўнікоў ад прафсаюзаў уведзена толькі 420 рабочых і 276 батракоў. Такім чынам, ясна, што галоўная пралетарская маса вёскі па лініі прафсаюзаў аказалася недастатков поўна ўцягнутай у выбарчыя камісіі.

Для зьнішчэньня гэтых недахопаў Цэнтрвыбкамісія яшчэ ў ліста падзе месяцы прапанавала ўсім акруговым і раённым выбкамісіям правесьці абгляд складу сельскіх і местачковых выбарчых камісій і выправіць дапушчаныя памылкі. Пры праверцы, шляхам спэцыяльных выездаў членаў выбарчай камісіі і інструктароў, выявіліся значныя дэфэкты ў працы па стварэньні камісій, часам груба парушаючыя клясавую лінію з адступленьнем ад элемэнтарных правілаў інструкцыі. Гэтыя памылкі пры масавай сваечасовай праверцы ў большай меры зьнішчаны.

Складаньне сьпісаў выбаршчыкаў і асоб пазбаўленых выбарчага права па пляну кампаніі павінна было скончыцца да 1 сьнежня, г. зн. да пачатку справаздачных сходаў. Аднак, па шмат якіх саветах складаньне гэтых сьпісаў было скончана ў пачатку сьнежня і ў гэтай працы было на мясцох таксама шмат памылак, галоўным чынам, дзякуючы некатораму спазьненьню, а потым пасьпешнасьці пры складаньні сьпіскаў і часткай дзякуючы нядбайнасьці пры складаньні гэтых сьпісаў. У выніку гэтага мела месца непазбаўленьне выбарчага права нават у такіх асоб, як папоў, былых паліцэйскіх, кулакоў, эксплёататараў і гандляроў-нэпманаў; побач з гэтым былі выпадкі ўнясеньня ў сьпісы лішэнцаў асоб маючых выбарчае права, як, напрыклад: баптыстаў, за патраву пасеваў, судзіўшыхся, але не пазбаўленых у правах і інш. Наогул неабходна ўсё-ж адзначыць, што вучот пазбаўленых выбарчага права ў сёлетнюю кампанію праведзен значна паўней чымся ў мінулыя гады з выяўленьнем шмат няўлічаных у мінулую кампанію лішэнцаў. На падставе арт. 33 інструкцыі аб выбарах пазбаўлены выбарчага права толькі 27 чалавек па ўсёй БССР. Сярод іх мы маем: кантрабандыстаў, кулакоў, рэцыдывістых-крымінальнікаў і наогул асоб, выкарыстаўшых выбарчае права на шкоду сацыялістычнай рэволюцыі. Побач з гэтым мы мелі выпадкі ўпартага хадайніцтва ад быўшых розных чыноўнікаў, паліцэйскіх, служнікаў рэлігійнага культу, гандляроў аб аднаўленьні іх у выбарчых правох.

Для найбольшага набліжэньня выбарчых вучасткаў да насельніцтва ў мэтах забясьпечаньня працоўным больш шырокага доступу да перавыбараў, сваечасова была дадзена дырэктыва мясцом аб арганізацыі адпаведных выбарчых вучасткаў з такім разьлікам, каб у сярэднім на вучастак прыходзілася ня больш 200—300 жыхароў супроць 500—600 мінулай выбарчых кампаніі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на павялічэньне ліку выбарчых вучасткаў для нацменшасьцяй, пражываючых больш-менш кампактнай масай у вёсцы.

*У сілу гэтага мы маем значнае павялічэньне колькасьці выбарчых вучасткаў.* Напрыклад, у Магілёўскай акр. арганізавана 1774 вучасткі з павялічэньнем на 33,6 проц. супроць мінулай кампаніі; у Бабруйскай акрузе па некаторых раёнах маецца павялічэньне выбарчых вучасткаў на 100 працантаў.

Загадзя да справаздачнай кампаніі для ажыўленьня і паглыбленьня работы рэвкамісій, як органаў грамадзкага кантролю матар'яльна-фінансавай дзейнасьці сельскіх і местачковых саветаў і райвыканкомаў, Прэзыдыумам ЦВК прадастаўлена права сельскім рэвізійным камісіям *праводзіць праверку выкананьня наказаў выбаршчыкаў*, а раённым—праверку *пастаноў райзьездаў саветаў.* Дзякуючы гэтаму, рэвізійныя камісіі ў сучасную кампанію былі больш уцягнуты ў сваю дзейнасьць да перавыбараў саветаў. Большасьць рэвізійных камісій зрабіла праверку выкананьня наказаў і работы саветаў з пастаноўкай сваіх дакладаў перад выбаршчыкамі ў справаздачную кампанію.

Пры перавыбарах саветаў у мінулым наказы дэпутатам даваліся нізам зьверху ў цэнтралізаваным парадку. Зразумела, што гэтыя наказы былі больш агульны, неканкрэтны і малазразумелы выбаршчыкам. У сучасную выбарчую кампанію складаньне наказаў па Беларусі *было дэцэнтралізована аж да раёнаў.* Наказы складаліся ў раёнах на падставе агульных задач, пастаўленых партыяй, палітычных установак акруг, канкрэтных мерапрыемстваў сацыялістычнага будаўніцтва і тых дзелавых прапаноў выбаршчыкаў, якія рабіліся імі на справаздачных сходах. Прапановы, якія мелі месца на справаздачных сходах, прапрацоўваліся ў сельсавеце ў камісійным парадку, пасьля чаго наказы ўносіліся для прыняцьця на выбарчыя сходы. Гэтакія наказы зьўляліся ў большасьці выпадкаў канкрэтнымі і зразумелымі па сутнасьці з дастатковым вучотам умоў, матар'яльных сродкаў і сіл для іх ажыцьцяўленьня. *Гэтыя наказы бязумоўна будуць служыць канкрэтным плянам практычнай работы саветаў і формай для справаздач дэпутатаў у іх працы перад выбаршчыкамі.*

Для больш шырокага ўцягненьня ў перавыбары саветаў жанчын былі дадзены катэгарычныя паказаньні мясцом, на падставе чаго ва ўсіх раёнах, сельскіх і местачковых саветах праходзілі жаночыя прадвыбарчыя масавыя сходы, на якіх абгаварваліся пытаньні аб выбарах, аб актыўным удзеле жанчын у перавыбарчай кампаніі, абгаварваліся кандыдатуры ў саветы, наказы новаму складу саветаў, заслухоўваліся папярэднія справаздачы саветаў і г. д. Перад правядзеньнем агульных жаночых сходаў у большасьці раёнаў склікаліся спэцыяльныя канфэрэнцыі і нарады дэлегатак і актывістак, напрыклад, на 308 жаночых прадвыбарчых сходах удзельнічала 15.294 жанчыны. З агульнага ліку ўдзельных на гэтых сходах жанчын было: сялянак—93 проц., работніц і батрачак—3,4 проц. і служачых—3,6 проц.

З агульнага ліку прысутных жанчын на гэтых сходах выступала 10,5 проц, з іх: сялянак—9 проц., работніц і батрачак—20,5 проц. і служачых—4 проц. у адносінах да адпаведнай групы прысутных.

Гэтыя даныя паказваюць, што яшчэ недастаткова прыцягваліся на жаночыя сходы работніцы і батрачкі. Праробленая падрыхтоўчая праца ў гэтую кампанію значна зьнішчыла адмоўныя адносіны да жанчын выбаршчыц і да жаночых сходаў з боку ўсяго насельніцтва, акром паасобных выхадак з боку кулацтва і хуліганаў.

Практычны ўдзел прафсаюзаў і іншых грамадзкіх арганізацый у падрыхтоўцы да перавыбарчай кампаніі ня быў дастатковым у зьвязку са спазьненьнем і цяжкім раскачваньнем усяе масы арганізацый на мясцох. Толькі ў час справаздачнай кампаніі па лініі праф-

саюзаў былі праведзены спэцыяльныя нарады прафактыву па пытаньнях перавыбараў саветаў. У гэтых адносінах трэба толькі адзначыць сваечасовую здавальняючую працу з боку саюзу сельгасрабочых, па лініі якога, напрыклад, толькі ў аднэй Бабруйскай акрузе было намечана і высунута ў склад саветаў і выканкомаў каля 500 кандыдатур. Работа-ж сярод усіх прафсаюзаў па ўдзелу ў кампаніі асабліва ўзмацнілася з моманту разгортваньня рабочай пераклічкі на лепшыя выбары і дапамогу вёсцы ў перавыбарах. Гэта выразілася ў рэальнай пасылцы па лініі прафсаюзаў рабочых брыгад у колькасьці 320 чалавек рабочых розных прадпрыемстваў.

Сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі і каапэрацыі, як масавыя арганізацыі, слаба праявілі сябе ў справаздачнай і перавыбарчай кампаніі. Прыкладам для ўсіх масавых арганізацый—арганізавана і актыўна ўдзельнічаў ва ўсёй працы па перавыбарах саветаў камсамол, пачынаючы з удзелу ў складаньні сьпіскаў выбаршчыкаў, арганізацыі беднаты, батрацтва і праходзячымі перавыбарамі.

Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй з часу яе арганізацыі распрацаваны шэраг праэктаў дырэктыўнага характару, а таксама канкрэтныя паказаньні арганізацыйных і тэхнічных мер, неабходных для забясьпечаньня ўсёй кампаніі. Цэнтрвыбкамісіяй праведзены тры пашыраных пленарных пасяджэньні з удзелам прадстаўнікоў акруг, цэнтральных ведамстваў і грамадзкіх арганізацый. На гэтых пасяджэньнях былі прапрацаваны важнейшыя пытаньні і заслуханы даклады ўсіх акруговых выбарчых камісій, а таксама даклады некаторых наркаматаў і цэнтраў прафсаюзаў і грамадзкіх арганізацый. Цэнтрвыбкамісіяй, праз сваіх членаў і інструктароў ЦВК праведзена праверка падрыхтоўчай і арганізацыйнай работы ў акругах і выкананьне дырэктыў па перавыбарах.

Акром таго, мясцом былі сваечасова дадзены паказаньні аб парадку і формах арганізацыйна-тэхнічнага абслугоўваньня кампаніі: разаслана было ў дастатковай колькасьці для ўсіх саветаў і выканкомаў інструкцый аб выбарах у саветы і спэцыяльная брашура з дырэктывамі і кіруючымі артыкуламі „Да перавыбараў саветаў", разасланы былі ў дастаковай колькасьці агітацыйныя плякаты па ўцягненьні жанчын у справаздачна-перавыбарчую кампанію, а таксама плякат-інструкцыя; перад справаздачнай кампаніяй паслана па ўсіх саветах і выканкомах брашура „Папярэднія вынікі працы Ураду БССР".

Зьвяртаючы выключную ўвагу падрыхтоўцы і шырокаму ўцягненьню працоўных нацменшасьцяй у перавыбарчую кампанію, у гэтым пытаньні сваечасова дадзены падрабязныя паказаньні Райкомам, ячэйкам КП(б)Б, саветам і выканаўчым камітэтам. Раней усяго значна пашырана сетка выбарчых вучасткаў як на тэрыторыі нацсаветаў, гэтак на тэрыторыі ўсіх саветаў па БССР. Мясцом дадзены лёзунгі на роднай мове ўсіх нацменшасьцяй, якія насяляюць Беларусь, і таксама плякаты і запрашальныя позвы друкаваліся і пасылаліся на мовах нацыянальных меншасьцяй. Справаздачнасьць аб працы саветаў на мовах нацыянальных меншасьцяй шырока праводзілася ня толькі ў нацсаветах, але і ўсюды, дзе пражывала больш-менш кампактная маса насельніцтва нацменшасьцяй. *Пры гэтым зьвернута асаблівая ўвага на папярэднюю працу сярод беднаты, батрацтва і жанчын нацменшасьцяй па ўцягненьні іх у саветы.*

У сучасную выбарчую кампанію было дастаткова зьвернута ўвагі пытаньню арганізацыі батрацтва і беднаты і падрыхтоўцы іх да перавыбараў саветаў. Па ўсіх раёнах праведзены нарады і канфэрэнцыі груп беднаты, батрацтва і сельгасрабочых, дзе прапрацаваны арганізацыйныя і практычныя мерапрыемствы па ўдзелу батракоў і беднаты

ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі. У вёсках і мястэчках шырока праводзіліся сходы беднаты, батрацтва, сельгасрабочых, на якіх вялася растлумачальная праца аб ролі і задачах беднаты і батрацтва ў кампаніі, абгаварваліся кандыдатуры ў новы склад саветаў, заслухоўваліся даклады саветаў і паасобных членаў іх. Гэткая-ж праца праведзена і сярод гарадзкой беднаты (сярод неарганізаваных у прафсаюзы выбаршчыкаў) па частцы неакруговых гарадоў.

*Побач з павялічэньнем, у параўнаньні з мінулай кампаніяй, праведзеных сходаў беднаты, батрацтва і сельгасрабочых, гэтыя сходы характарызуюцца таксама значным павышэньнем ліку іх і актыўнасьці іх удзельнікаў,*

Бядняцкія сходы ў гэтую кампанію дастаткова характарызуюць павышэньне клясавай сьвядомасьці, поўнае зразуменьне ў большасьці выпадкаў значэньня бядняцкіх сходаў. *Аднак, наглядаліся паасобныя выпадкі і абыякіх адносін да кампаніі з боку часткі беднаты, а таксама боязкасьці актыўных наступленьняў супроць кулацтва з боку паасобных беднякоў у гэтую выбарчую кампанію.*

Як агульнае зьявішча, замацаваньне блёку батрацтва і беднаты ў гэтую кампанію яшчэ больш узмацнілася. У большасьці выпадкаў сераднякі праяўлялі вялікі інтарэс да бядняцкіх сходаў і станоўча да іх адносіліся; прыходзілі на гэтыя сходы ў значнай колькасьці і актыўна ўдзельнічалі ў іх, а потым—бядняк-батрак у саюзе з серадняком, як правіла, дружна трымаліся на сумесных справаздачных і выбарчых сходах у барацьбе супроць кулацтва.

Недахопам у праведзенай працы сярод беднаты трэба адзначыць строгую ізаляванасьць у некаторых выпадках бядняцкіх сходаў ад серадняцтва (Астрашыцка-Гарадзецкі раён, Менскай акр, і Веткаўскі раён, Гомельскай акругі) альбо замена бядняцкіх сходаў у агульныя прадвыбарчыя сходы выбаршчыкаў усяго насельніцтва.

Перад справаздачнай кампаніяй былі дадзены дырэктывы мясцом, каб усе саветы і іх дэпутаты поўнасьцю адлічваліся перад сваімі выбаршчыкамі, каб справаздачы былі поўнымі, зьмястоўнымі, яснымі і канкрэтнымі, з удзелам пры справаздачах прадстаўнікоў усіх савецкіх устаноў і грамадзкіх арганізацый, якія вядуць працу на тэрыторыі саветаў. У гэтай справе нам дапамагла актыўнасьць працоўных мас—крытыка і самакрытыка, якая за гэты час шырока праводзілася нашай партыяй.

Калі раней ішло па шаблёну „савет працаваў здавальняюча“, дык у сёлетнюю справаздачную кампанію ў Беларусі нярэдка, калі агульны сход выбаршчыкаў пры справаздачы прадстаўніка сельсавету прызнае работу савету нездавальняючай. Вось, напрыклад, пастанова: „заслухаўшы справаздачу Бялевіцкага сельсавету, агульны сход вёскі Бялевічы лічыць працу сельсавету нездавальняючай, у зьвязку з тым, што саветам: не палoжаны грэблі і знаходзяцца ў дрэнным становішчы, масты разбураны, так што па іх езьдзіць амаль немагчыма, кампанія па выяўленьні аб'ектаў абкладаньня па сельгаспадатку за мінулы год у шмат якіх выпадках праведзена няправільна, самаабкладаньне поўнасьцю не пасыскванa, а пасысканыя сумы своечасова ня выкарыстаны; несваячасова пачата перабудова пажарнага сараю і ня відаць, калі ён будзе скончан; школа не забясьпечана дрывамі; амаль усе камісіі пры сельсавеце не працавалі акром падатковай; мала сельсаветам праводзілася справаздач перад насельніцтвам; слабая велася барацьба з патраўшчыкамі, дзякуючы чаму было шмат патраў; слабая праца па ўзысканьні страхоўкі; члены сельсавету, як абраныя, працавалі слаба і прэзыдыум сельсавету ня змог дастаткова ахапіць усю работу сель-

савету і г. д. У далейшым сельсавету неабходна зьвярнуць увагу на наступнае...“. Сход указвае на канкрэтныя дзелавыя моманты і робіць па іх шэраг адпаведных прапаноў. Альбо вось яшчэ адзін прыклад пастановы агульнага сходу: „Заслухаўшы справаздачны даклад па Зябкаўскаму выбарчаму пункту, Юзефскага сельсавету, агульны сход знаходзіць працу старога складу савету, у асобе старшыні Славецкай, шкоднай, што пацьвярджаецца наступнымі фактамі: т. Славецкая ведала аб тым, што 31/XII—28 г. павінен быў адбыцца агульны сход, на якім яна павінна была адлічыцца за сваю працу, як член сельсавету, але яна ня прышла, укрыла ад вучоту аб'ектаў абкладаньня па сельгаспадатку сьвіньню, пры разьмеркаваньні зямельнага фонду, сенажаці вуроч. „Средняя Гушча“, „Гуманіч“, апошняя была разьмеркавана сярод заможных, а не беднякоў, сымпатызыравала был. паліцэйскім пры разьмеркаваньні хлеба (напрыклад, Бачок і Вішнеўскі), тады як беднякі не атрымоўвалі хлеба (Ліпоўскі Ст. Міх.), пры разьмеркаваньні сенажаці была цеганіна—адзін кавалак даваўся двум“. Вось на гэткіх момантах грамадзкага і дзелавога характару агульны сход выбаршчыкаў правальваў дрэнны савет, робячы ацэнку не ў яго карысьць. Побач з гэтым ёсьць шмат пастаноў справаздачных сходаў, якія адзначаюць работу саветаў здавальняючай з шэрагу становучых фактаў сапраўды добрай працы савету і яго дэпутатаў.

У час справаздачнай кампаніі мы маем вельмі характэрныя выступленьні з клясавага пункту погляду сацыяльных слаёў вёскі. Вось, напрыклад, што гаварыў бядняк у сваёй большасьці: „Не даваць ходу кулаку, часьцей рабіць справаздачы перад насельніцтвам пра работу сельсаветаў, павялічыць суму крэдытаваньня, хутчэй каапэраваць насельніцтва; пашырыць справу калектывізацыі і арганізацыі тарпяных таварыстваў, правесьці самаабкладаньне насельніцтва і г. д.“ Далей гаварыў серадняк: аб пашырэньні школьнай сеткі па раёну, аб правядзеньні ўсеагульнага навучаньня дзяцей школьнага ўзросту, аб больш правільным правядзеньні самаабкладаньня на 1928-29 г., зьвяртаючы ўвагу на справу пабудовы школ, арганізацыю мэліярацыйных работ і дарожнага будаўніцтва, гаварыў аб пашырэньні працы агранаміі ў вёсцы, выказваў пажаданьні, каб заборныя кніжкі спажывецкай каапэрацыі былі адзіныя, па якіх можна было-б усюды атрымаць тавар, а ня толькі ў тэй каапэрацыі, якою выдадзена кніжка, і інш. Цікавыя выступленьні агульнай масы жанчын. Жанчыны сялянкі амаль усюды гаварылі, каб арганізоўвалі фабрыкі, якія-б перараблялі лён і тым самым давалі-б усім працоўным магчымасьць удзельнічаць у савецкім будаўніцтве, каб лепш была пастаўлена справа аховы здароўя, школьная справа і інш.; абгаварвалі таксама шмат бытавых пытаньняў. Заможны серадняк часам у сваіх выступленьнях праяўляў нездаволеньне. Напрыклад, адзін моцны серадняк гаворыць: „я плачу 40 рублёў падатку, мяне лічуць кулаком і дзяцей маіх ня прымаюць у сямігодку. К наступнаму году пакіну ў гаспадарцы адну карову, аднаго каня і ня буду абрабляць усю зямлю, тады запросяць мяне на сход беднаты“.

Асабліва вострымі ў гэтых адносінах былі выступленьні кулакоў: „нас душаць, дакуль толькі будзе гэта галыцьба, колькі дзе не гавары, усё роўна, што гарох аб сьценку—нічога нідзе ня прымаюць пад увагу, пры царскай уладзе лепш жылося, чым цяпер“. І далей: „самаабкладаньне—гэта пятля мужыку. Бедната—лодыры. Мы супроць іх (беднаты) рашэньняў. Улада хоча нас зьнішчыць падаткамі і самаабкладаньнем; дзяржава корміць лодыраў крэдытамі, ільготамі і д. п., з нас бяруць, а як дзяцей у школу, дык ня прымаюць, плаці за іх, бедната-ж вучыць сваіх дзяцей за нашыя грошы“. Альбо: „беднякі—лодыры,

грошы даюць ім дарма, прыватны гандаль зачынен, а каапэрацыя тавараў не дае; яўрэі ўластвуюць, яны ня могуць справіцца і задавоіць сялянства таварамі і не даюць хлеба". Далей гэты кулак гаворыць: „яны рабочыя і бедната маюць сваю партыю, няхай там і галасуюць", другі кулак робіць яму заўвагу: „не, голасу іх пазбавіць немагчыма, а вось абіраць у саветы іх ня трэба, тады паглядзім што ў іх выйдзе".

Трэба адзначыць, што клясавая барацьба ў вёсцы, у зьвязку з перавыбарамі саветаў, разгарнулася як ніколі.

Ужо ў час падрыхтоўкі да справаздачнай кампаніі кулацтва, члены рэлігійных культаў і розныя іншыя антысавецкія элемэнты пачалі рознымі спосабамі дамагацца свайго ўплыву на выбаршчыкаў. Наступы гэтых груп праяўляліся ў розных формах: агітацыя за сваіх кандыдатаў у саветы, скліканьне нелегальных сходаў для абгаварэньня сваіх кандыдатур, актыўныя выступленьні на сходах супроць беднаты і батрацтва, спайваньне некаторых асоб, заведама кампраментаваньне работнікаў саветаў, шляхам распаўсюджваньня непраўдзівых чутак, пагроз асабіста і пісьмова. Былі і ёсьць шэрагі выпадкаў кулацкіх падпалаў камун, савгасаў, калгасаў і маёмасьці вясковых актывістаў, замахаў на паасобных работнікаў, арганізацый кулацтвам хуліганскіх выступленьняў на справаздачных сходах, што гавораць аб палітычнай і арганізацыйнай слабасьці разлагаючага кулацтва і яго антысавецкай зграі.

Кулацка-нэпманскія групоўкі ў большасьці выпадкаў аб'ядналюцца навокала был. розных чыноўнікаў, багатыроў, клерыкалаў, уласьнікаў прадпрыемстваў. У пэрыяд падрыхтоўчай і справаздачнай кампаніі таксама даволі рэзка выявіліся нападкі кулацтва на правадзімыя гаспадарчыя мерапрыемствы, выступленьні супроць пазыкі індустрыялізацыі, хлеба-загатовак, самаабкладаньня і інш.

Актыўнасьці кулацка-нэпманскіх груповак былі сваечасова супроцьпастаўлены сілы батрацтва і беднаты ў саюзе з серадняком і пагэтаму можна проста сказаць, што кулацтва і іншыя варожыя элемэнты ў вёсцы не дасягнулі свайго посьпеху, як на справаздачных, гэтак і праходзячых перавыбарчых сходах. Акром таго, для прасячэньня тэрарыстычных актаў, забойств, падпалаў і розных варожных дзеяньняў кулацтва і антысавецкіх элемэнтаў былі ўжыты меры тэрміноваrа расьсьледваньня гэтых спраў і прыцягненьні віноўных да судовай адказнасьці.

Рашучыя меры барацьбы з кулацтвам на падставе рэвалюцыйнай законнасьці сустрэлі з боку асноўнай масы сялянства поўнае ўхваленьне. Спэцыяльнай пастановай ураду прадугледжваюцца ў крымінальным парадку пакараньне асоб, што карыстаюцца наёмнай працай, за недапушчэньне імі сваіх батракоў і рабочых на выбарчыя і справаздачныя сходы.

Падрыхтоўка кандыдатур у саветы, як ужо адзначалася, пачалася на мясцох яшчэ да арганізацыі выбарчых камісій. Кандыдатуры абгаварваліся партячэйкамі, камсамольскімі сходамі, мясцкомамі прафсаюзаў, групамі беднаты, на батрацкіх сходах і сходах вясковага актыву, што дала добрыя вынікі ўзгодненай падрыхтоўкі кандыдатур.

Адначасова абгаварваліся кандыдатуры для высоўваньня рабочых, батракоў, беднаты і сераднякоў—актывістых на сталую працу ў вышэйстаячыя савецкія органы. Пры абмеркаваньні кандыдатур на агульных выбарчых сходах наглядалася надзвычайная актыўнасьць як з боку беднаты, так і з боку кулацтва. Напрыклад, на некаторых выбарчых сходах (Аршанская акруга) па пытаньнях аб кандыдатурах у саветы выступала звыш 40 проц. удзельнікаў усяго сходу, пры гэтым высоўваліся сотні розных кандыдатур розных груповак з рашучымі адво-

дамі непажаданай кандыдатуры і абаронай свае кандыдатуры адпаведнай зацікаўленай групіроўкі.

У сучасны момант кампанія па перавыбарах саветаў у Беларусі ў поўным разгары. Яшчэ рана і цяжка поўнасьцю меркаваць аб выніках выбараў нізавых саветаў, але ўжо за 829 саветаў весткі паказваюць, што, не ўважаючы на праявы кулацкага тэрору, напады і кулакоў, і бандытаў на актывістаў вёскі, перавыбары саветаў наогул праходзяць здавальняюча. Апошняя сводка паказвае значнае павялічэньне, калі параўнаць з мінулай кампаніяй, яўкі выбаршчыкаў наогул (58,9 проц. супроць мінулай кампаніі 46,4 проц.) і асабліва жанчын (43,2 проц, супроць 26,2 проц.). Мы маем значнае павялічэньне процанту абраных у саветы жанчын: 19,9 проц.—супроць 7,2 проц. за мінулую кампанію. Мы маем стабільны процант з мінулай кампаніяй выбраных камуністаў і камсамольцаў. Але калі ўзяць на ўвагу, што ў гэтую выбарчую кампанію мы выбіраем аднаго дэпутата не на 200 душ насельніцтва, а на 100—агульны лік камуністаў павялічаны ў гэтым годзе ў саветах амаль што ў два разы. Сацыяльны склад сельсаветаў па папярэдніх даных можна характарызаваць здавальняючым, за выключэньнем паасобных памылак у адносінах да серадняка, што ў большасьці на мясцох выпраўлена.

Таксама досыць шырока разгорнута кампанія выбараў гарадзкіх саветаў. Па ўсіх гарсаветах, пры надзвычайна вялікім энтузіазьме рабочых, праводзіцца справаздачнасьць дэпутатаў, падрыхтоўваюцца праэкты наказаў, абгаварваюцца кандыдатуры. Уся праца па падрыхтоўцы праходзіць пад кутом погляду правядзеньня шырокай пралетарскай крытыкі і самакрытыкі. Ідзе падрыхтоўка да правядзеньня зьездаў саветаў. У прыватнасьці, вылучана больш за 30 раёнаў, дзе будуць пастаўлены даклады ўраду БССР.

Уся кампанія перавыбараў саветаў у БССР папаўняецца даволі рэальнай мерай ажыўленьня саветаў—конкурсам на лепшы сельсавет, лепшую камісію сельсавету і сэкцыю гарадзкога савету. Конкурснай кампаніяй маецца на ўвазе шырока выкарыстаць для аздараўленьня саветаў і савецкага апарату матар'ялы справаздачнасьці саветаў, вынікі шырокай крытыкі іх дзейнасьці і тую значную ўвагу партыі і савецкай грамадзкасьці, якая імі вызначана на саветы ў зьвязку з правядзеньнем выбарчай кампаніі. Ва ўсёй падрыхтоўчай і справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў мы наглядаем цьвёрдае і няўхільнае кіраўніцтва партыі ў цэлым і партарганізацый на мясцох.

А. Сянкевіч, А. Бэйлін.

# „Траянскі конь“ дацэнта Славіна[1]).

## „Нацыянал-дэмакратызм і правая небясьпека“

Пад такім загалоўкам быў зьмешчаны артыкул т. І. Славіна на старонках часопісі «Рэвалюцыя і Культура» (№ 2, 31 студзеня 1929).

Паставіўшы сваёй задачай—«асьвятліць гэтае зьявішча на матар'яле аднэй з саюзных рэспублік—Савецкай Беларусі» (І. С.), аўтар спрабуе паказаць сацыяльныя карэньні «нацыянал-дэмакратычнага ўхілу», спрабуе вызначыць тыя сацыяльныя пласты, якімі харчуецца гэты ўхіл, і сыгналізаваць аб прымірэнчых адносінах да нацыянал-дэмакратызму з боку КП(б)Б. Калі-б у аўтара быў-бы сапраўды добры намер папярэдзіць партыю і савецкую грамадзкасьць аб небясьпеках, заклікаць да пільнасьці таго, у каго не хапае яе, і адным словам дапамагчы партыі, тады ён выканаў-бы вялікую справу.

Мы перажываем паласу напружанай барацьбы на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва.

Наступленьне сацыялістычнага сэктару нашае гаспадаркі на сэктар капіталістычны ідзе побач з абвастрэньнем клясавай барацьбы па ўсім фронце, ускладненьнем мэтадаў гэтай барацьбы, павялічэньнем націску ўсякага роду варожых пралетарыяту ўплываў на менш стойкія элемэнты нашай партыі.

Тут патрэбна пільнасьць, патрэбна вострае клясавае пачуцьцё, цьвёрдасьць і рашучасьць, каб не прагледзець ворага, «у якое-б партыйнае і савецкае адзеньне ён не апранаўся» (І. С.), каб своечасова даць яму суровы адпор. Таму трэба было-б вітаць усякае выступленьне, якое дапамагае партыі не прагледзець ворага.

Але, на жаль, характар артыкулу тав. Славіна, падбор матар'ялаў і зробленыя аўтарам абагульненьні не гавораць аб гэтым.

Яны гавораць аб тым, што гутаркі аўтара аб нацыянал-дэмакратызьме зьяўляюцца для яго дымавой заслонай для прыкрыцьця выступленьня супроць лініі ў нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі Беларусі.

Пойдзем за тав. Славіным, разьбярэм яго асноўныя палажэньні.

Славін падае погляды партыі на рост нацыянал-дэмакратызму, як яны былі фармуляваны ў 1925 г. і на Х-м зьезьдзе КП(б)Б у 1927 г.

«Нацыяналістычная інтэлігенцыя ў пераважнай частцы працуе з намі. Далей—больш, яе актыўнасьць будзе ўзрастаць (курсыў тав. Славіна). Адначасова ў частцы яе будуць узмацняцца дробна-буржуазныя тэндэнцыі, у меру таго, як будзе расьці актыўнасьць заможнага сялянства»... (курсыў т. Славіна) і далей:

[1]) Гэты артыкул будзе друкавацца ў часопісі „Революция и культура“.

«наогул у сялянстве наглядаецца імкненьне прыняць актыўны ўдзел і заняць рашаючае становішча ва ўсім будаўніцтве, ва ўмовах «разгорнутага НЭП'у» з году ў год мы будзем адчуваць нарастаньне гэтай тэндэнцыі» (курсыў тав. Славіна).

Да гэтых часоў ішло ўсё гладка. Партыйныя цытаты з правільным вызначэньнем прыроды нацыянал-дэмакратызму і правільным устанаўленьнем прагнозу гэтай хваробы. Але для вучонага дацэнта гэтыя партыйныя фармулёўкі зьяўляюцца толькі прадпасылкамі для больш «глыбокіх» «умозаключений».

Нарастаньне тэндэнцый у сялянстве прыняць актыўны ўдзел і заняць «рашаючае становішча ва ўсім будаўніцтве» Славін ня толькі «адчувае», але і бачыць у яскравых канкрэтных формах.

Ён кажа:

«Зараз можна бачыць, што ва ўмовах 1928 году гэта імкненьне пачынае ператварацца ў жыцьцё ў вельмі значных формах». І там-жа «глыбокамысьлячы» дацэнт робіць адразу два «сногшибательныя» «адкрыцьці». Вось яны:

«Па сутнасьці справы тут мае месца некаторая перасоўка сялянства, пераважна серадняцкага яго пласту на кіруючае становішча ва ўсім будаўніцтве» (гэта першая «адкрыцьцё»—*С.* і *Б.*) з адначасовым адсоўваньнем рабочага, у даным выпадку яўрэйскага» (а гэта другое «адкрыцьцё»— *С.* і *Б.*). Спынімся пакуль што на гэтых двух адкрыцьцях.

Наконт «перасоўваньня» сялянства пераважна «серадняцкага пласту» т. Славін кажа нешта вельмі-вельмі знаёмае. Гады два назад з вуснаў трацкісцкай апазыцыі чуліся крыкі аб наступленьні тэрмідору, аб сялянскім патопе, які затапіў ніжнія паверхі будынку дыктатуры пралетарыяту.

Вашы думкі т. Славін «аб перасоўваньні клясавых сіл у БССР» затуманілі ваш розум і прымусілі забыць аб статыстыцы.

А ёсьць і лічбы, якія куды больш пераконваючыя за крыкі аб тэрмідоры. Калі возьмем сацыяльны склад ЦВК БССР сёмага і восьмага (апошняга) склікаHьня, дык атрымаем наступнае:

| СКЛІКАНЬНЯ | Усяго абрана членаў ЦВК | Усіх рабочых | Рабочых з вытворчасьці | Батракоў | Сялян |
|---|---|---|---|---|---|
| VII . . . . . | 154. (100%) | 42 проц. | 6 проц. | 0,4 проц. | 30 проц. |
| VIII . . . . . | 230. (100%) | 48,6 „ | 14 „ | 0,4 „ | 23 „ |

Сацыяльны склад членаў ЦК і ЦКК КП(б)Б, абраны XII-м зьездам КП(б)Б, па ЦК КП(б)Б на 77 членаў рабочых 49, з іх рабочых ад варштату 17 чалавек, сялян 7 чалавек і служачых 21 чалавек. Па ЦКК КП(б)Б на 76 членаў—рабочых 68, сялян 3 і служачых 5.

Паданыя лічбы як быццам не даюць поваду гаварыць аб захлёстваньні паверхаў пралетарскай дыктатуры сялянскім патопам.

Дарэчы, у нас па БССР толькі што скончыліся перавыбары сельскіх саветаў. Вось мы і паглядзім у «ніжні» паверх нашага савецкага «будынку».

Вось таблічка аб сацыяльным складзе членаў сельсаветаў па 270 сельсаветах, ад якіх атрыманы весткі:

### Сацыяльны склад Сельсаветаў

у 1929 г. і 1926-27 г. (весткі за 1929 г. даны па 270 сельсаветах).

| Час перавыбараў | Сяляне ў процантах | з іх: С-не вызв. ад с.-г. пад. у проц. | Ад 1 да 5 руб. | Ад 5 да 10 руб. | Ад 10 і вышэй | Без раб. жывёлы | С.-г. рабочых батр. і работн. | Усе іншыя рабоч. | Сам. і рамесьнікі | Настаўн., дактары і агран. | Усе іншыя служач. | Чырвонаармейцы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 г. . . . | 91,3 | 39,4 | 49,6 | 8,4 | 2,6 | 8,7 | 2,5 | 1,4 | 0,8 | 1,9 | 1,9 | 0,2 |
| 1926-27 г.. . | 91,5 | 22,8 | 62 | 10,2 | 5 | — | 1,1 | 1,4 | 1 | 2 | 2,5 | 0,5 |

Што мы бачым у гэтай табліцы? Сялян, вызваленых ад с.-г. падатку абрана ў сельсаветы 39,4 проц. з усяе колькасьці абраных сялян. Гэта-ж ёсьць узмацненьне бядняцкай праслойкі. Агульныя-ж вынікі перавыбарчай кампаніі бягучага году гавораць аб умацаваньні бядняцка-серадняцкага блёку пры ўзмацненьні ў цэлым кіраўніцтва ўсім будаўніцтвам рабочай клясай. Вось што гаворыць аб перавыбарах сакратар ЦК КП(б)Б т. Гамарнік у справаздачы на XII-м зьезьдзе КП(б)Б: «У перавыбарах у саветы ў вёсцы, што зараз адбываюцца, разгарнулася з усёй сілай клясавая барацьба за саветы. Клясавая барацьба абвастрылася і ў сяле, і ў горадзе, і на ўсіх франтох—палітычным, культурным, эканамічным, ідэалёгічным, і абвастрылася яна таму, што яшчэ мацней стаў рэжым пралетарскай дыктатуры, што ўзмацнелі сацыялістычныя элемэнты ва ўсіх галінах жыцьця краіны, што пралетарыят узмоцніў сваё наступленьне на капіталізм».

Такім чынам, лічбы і ўсе даныя рашуча абвяргаюць славінскую тэорыю аб «перасоўваньні серадняцкага пласту», якое адбылося.

Камуністычная партыя Беларусі досыць пільна сочыць, цьвёрда праводзіць ленінскую лінію, рашуча змагаючыся як з трацкістымі, так і з права-ўхіленцамі ў гэтым пытаньні.

У справаздачы ЦК КП(б)Б у разьдзеле «аб клясах і клясавай барацьбе і палітычным становішчы» тав. Гамарнік так характарызуе палітычнае становішча БССР: «Такім чынам, трэба зноў падкрэсьліць, што палітычнае становішча БССР за мінулы пэрыяд яшчэ больш узмацнілася; узмацнілася савецкая ўлада, узмацнілася роля пралетарыяту, мацнейшым зрабіўся яго саюз з працоўным сялянствам. І нашай далейшай задачай зьяўляецца—усё большае і большае ўмацаваньне пралетарскага атраду, узмацненьне яго кіруючай ролі ва ўсім будаўніцтве Савецкай Беларусі».

Але тав. Славін гаворыць ня толькі аб выпіханьні рабочага ад кіраўніцтва, ён адначасова спрабуе давесьці, што парткіраўніцтва, выступаючы на словах супроць лёзунгу «Беларусь для беларусоў», на справе-ж:

«Кідаецца ў вочы, асабліва ў гарадох Беларусі, дзе яўрэйскі пралетарыят колькасна часта складае пераважную большасьць, што яўрэй-рабочы фактычна амаль ніколі не займае адказнага і кіруючага становішча ў органах дыктатуры пралетарыяту» (І. С.).

Перш за ўсё цікава было-б даведацца ў тав. Славіна, чаму ён гаворыць толькі аб яўрэйскім рабочым. А рабочыя іншых нацыянальнасьцяй дзе? Паглядзім-жа на нацыянальны склад нашых рабочых і членаў прафсаюзаў.

Вось таблічка. Можа быць, яна і ня зусім дакладная, бо перапіс быў у 1926 г. Усё-ж мы мяркуем, што яна блізка да сапраўднасьці.

Нацыянальны склад рабочых і членаў прафсаюзаў сярод усяго гарадзкога і сельскага насельніцтва БССР паводле даных дэмаграфічнага перапісу 1926 г.

| Нацыянальнасьць | Рабочых | | Член. прафсаюзаў | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| | Абсалют. колькасьць | У процантах | Абсалют. колькасьць | У процантах | |
| Беларусы | 71.763 | 59 | 114.890 | 52,5 | Весткі ўзяты з кніжкі „Практ. вырашэньне нацыянальнага пытаньня БССР да X гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі", ч. II, выд. 1928 г. (стар. 24, 30 і 31). |
| Яўрэі | 25.214 | 20,7 | 55.131 | 25,2 | |
| Вялікарусы | 16.250 | 13,3 | 21.198 | 9,7 | |
| Палякі | 4.304 | 3,5 | 6.488 | 3,0 | |
| Іншыя і нявысьветленыя | 4.382 | 3,5 | 21.098 | 9,6 | |
| Усяго | 121.913 | 100 | 218.805 | 100 | |

Мы думаем, што гэтыя даныя не патрабуюць асаблівых тлумачэньняў. Пойдзем далей.

Перш за ўсё мы пазволім сабе ўсумніцца, каб калі-небудзь, дзенебудзь сьвядомыя рабочыя падтрымлівалі-б тэорыю аб «няроўнацэннасьці» ці «няпоўнацэннасьці» рабочага аднэй нацыянальнасьці параўнальна з рабочымі іншай нацыянальнасьці.

А тав. Славін гэта робіць. Парашыў аказаць паслугу. Што-ж, бывае, што іншы раз крылоўскія словы падыходзяць і да дацэнта. Аказаўся «услужливый доцэнт опаснее врага».

І сапраўды, тактыка «абароны яўрэйскага рабочага», якую скарыстаў у сваім артыкуле т. Славін, зусім не падыходзіць партыйцу, ды яшчэ і «без пяці хвілін прафэсару». Мы ўжо ня будзем гаварыць аб тым, што т. Славін «абараняе» рабочага і ў даным выпадку яўрэйскага ад савецкай улады, якая, паводле яго думкі, «няўхільна коціцца да тэрмідору». «Пэсымізм» і «змрок» у нашай партыі словы чутыя, а некаторымі і моцна ўспрынятыя.

Нас цікавіць больш славінская тактыка «абароны».

Зноў ён пачынае з партыйнай пастановы.

«Ставячы работу па вылучэньні беларускіх таварышоў, тым ня менш не проціставіць іх ніколі (падкрэсьлена тав. Славіным) тым працаўнікам, небеларусам, якія вывучылі беларускую мову і мясцовыя ўмовы» (рэз. ЦК КП(б)Б, 25—29 студзеня 1925 г.). Гэта зусім правільна. Такое папярэджаньне партыя дае пры правядзеньні карэнізацыі. Тав. Славіну, бадай, вядома, што «процістаўленьне» інтарэсаў аднэй нацыянальнасьці інтарэсам другой нацыянальнасьці шкодна і ў больш шырокім разуменьні. У рэзалюцыі студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б (1925 год) мы чытаем:

«...небясьпека заключаецца ў тым, што нарастаючы нацыяналізм беларускі, яўрэйскі, настроі абасобленасьці палякаў, могуць з радоў нацыяналістычнай інтэлігенцыі па-за партыяй прабівацца ў партыю, у форме процістаўленьня інтарэсаў аднэй нацыянальнасьці другой».

Чым-жа патыхаюць такія заявы тав. Славіна, як «нізьвядзеньне яўрэйскага пралетарыяту, які зьяўляецца фактычным адным са

зьвеньняў пралетарскай дыктатуры ў Беларусі, да становішча ніжэйшага «другараднага» пралетарыяту?».

Ці заявы аб «няроўнацэннасьці» ці «няпоўнацэннасьці» яўрэйскага рабочага праўнальна з рабочым другой нацыянальнасьці?

Гэта-ж ні больш, ні менш, як шавіністычнае процістаўленьне аднэй нацыянальнасьці другой.

Вось табе і абарона.

Аднак-жа некалькі лічбаў ня шкодзіць падаць для тав. Славіна (спэцыяльна для яго), а то ён яшчэ пакрыўдзіцца, што супярэчнасьці супроць яго, як «абаронцы», падбіты ветрам.

Спачатку адносна нацыянальнага складу ўсяго насельніцтва. Па перапісе 1926 г. у БССР налічваецца 4.983.240 чалавек, з якіх: беларусаў—80,6 проц., вялікарусаў—7,7 проц., яўрэяў—8,2 проц., палякаў—2 проц., латышоў—0,3 проц., літоўцаў—0,1 проц. і іншых—1,1 проц. А цяпер возьмем хаця-б нацыянальны склад цэнтральных савецкіх органаў БССР:

Нацыянальны склад працаўнікоў цэнтральных савецкіх устаноў (адказныя працаўнікі)—(весткі ў процантах на 1927 г.).

| Установы | Беларусы | Вялікарусы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Адміністрацыйн. | 51,3 | 18,0 | 24,8 | 0,1 | 5,8 |
| Гаспадарчыя . | 30,8 | 13,1 | 49,3 | 1,1 | 5,7 |
| Судовыя . . | 26,3 | 21,1 | 42,1 | — | 11,5 |
| Зямельныя . . | 59,5 | 24,1 | 10,1 | — | 6,3 |

Гэта табліцка, па нашай думцы, досыць ясна пярэчыць супроць тых страхаў, якія расказвае тав. Славін.

А можа быць пры прыёме ў школы пакрыўджан яўрэйскі рабочы? Возьмем лічбы хаця-б па нашых ВНУ:

Нацыянальны склад студэнтаў беларускіх ВНУ.

| Гады | Беларусы | Яўрэі | Вялікарусы | Палякі | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1926-27 г. . . | 61,6 | 22,9 | 9,4 | 1,8 | 4,3 |
| 1927-28 г. . . | 61,9 | 27,3 | 7,5 | 6,9 | 2,4 |
| 1928-29 г. . . | 62,9 | 28,3 | 6,2 | 1,9 | 1,9 |

Ня добра, тав. Славін, уводзіць у зман савецкую грамадзкасьць заявою, што быццам-бы Наркамасьветы БССР праводзіць нейкае «выраўноўваньне» нацыянальнага складу ВНУ шляхам «скарачэньня яўрэяў і павялічэньня беларусаў». І самакрытыкай у тым сэнсе, у якім яе разумее наша партыя, славінскую «абарончую прамову» назваць нельга. Савецкая грамадзкасьць БССР ужо дае належны адпор такой «самакрытыцы».

Ці ведае т. Славін, на чые млыны льле ваду? Калі ня ведае, то няхай наведаецца ў вёску і мястэчка і паслухае. Ён пачуе там, як ва ўнісон усякаму процістаўленьню аднэй нацыянальнасьці другой гудуць кулацкія і нэпманскія турбіны антысэміцкіх настрояў і мелюць жорны мяшчанскіх языкоў старыя песьні дробна-буржуазнай нэпманскай яўрэйскай вуліцы.

У газэце «А к ц я б р» (выдаецца на яўрэйскай мове) за 24 лютага зьмешчаны артыкул т. Агурскага «Аб барацьбе з нацыяналізмам у Беларусі». Там мы чытаем:

«Замест таго, каб дапамагчы барацьбе супроць яўрэйскага нацыяналізму, ён (Славін—*С.* і *Б.*) у паказаным артыкуле прымае на сябе ролю «абаронцы» яўрэйскіх рабочых, якія, нібы, не дапушчаюцца на адказныя посты ў кіруючых дзяржаўных органах і іншых установах. Гэтай сваёй абаронай ён дапамагае фактычна ўзмацненьню нацыяналізму сярод некаторай часткі яўрэйскага працоўнага насельніцтва. Няма ніякага сумненьня, што такія артыкулы могуць павялічыць лік «камсамольцаў» накшталт Баданіна і Ко, якія праславіліся ў Беларусі сваімі шавіністычнымі ўчынкамі ў Бабруйскай і Аршанскай акрузе».

А «З ь в я з д а» (Ц.О. КП(б)Б) зьмясьціла арт. т. Д. М і р о н ч ы к а, ў якім угрунтавана гаворыцца аб памылках т. Славіна.

Мы спыніліся падрабязна на аналізе двух «адкрыцьцяў» т. Славіна з тым, каб прадставіць, як мысьліць сабе «сур'ёзны» чалавек беларускія ўмовы, у якіх павінна праводзіцца нацыянальная палітыка камуністычнай партыі. «Фон» атрымліваецца больш чым «змрочны». Чым больш змрочны фон, тым яскравей кладуцца на ім жоўтыя мазкі нацыянал-дэмакратызму, тым мацней гучыць папярэджаньне аб правай небясьпецы.

Ніхто ня будзе асуджаць рэзкасьці тону т. Славіна там, дзе ён гаворыць аб праяўленьнях беларускага шавінізму і нацыянал-дэмакратызму, як ніхто ня возьме на сябе няўдзячную задачу даводзіць, што Беларусь гэта «блаженная страна», у якой ці ня было ці перамерлі людзі «сумуючыя» па нацыянал-дэмакратычных і сацыял-дэмакратычных «прыгожасьцях». Ёсьць людзі, якія «косяць і вачыма і сэрцам» на Захад. Ёсьць людзі, якія паддаюцца ўплывам дробна-буржуазнай сялянскай стыхіі. Ёсьць і факты. Было-б вялікім злачынствам перад пралетарыятам і яго партыяй, калі-б мы пачалі абвяргаць факты. «Факты—рэч упартая», ці ня праўда, т. Славін.

Але нам-жа з вамі ня прыстала быць толькі рэгістратарамі фактаў. Вам-жа патрэбны вывады. І вы іх робіце. Вы гаворыце—«Цэнтр цяжару ня столькі ў самой небясьпецы апісаных «няпрыглядных зьявішч», а і ў прымірэнчых да іх адносінах».

Вось з гэтага пункту гледжаньня давайце мы і праглядзім пададзены вамі фактычны «матар'ял», раскіданы ў розных мясцох артыкулу. Пачнем з фактаў, паданых у артыкуле у зьвязку з акадэмічнай канфэрэнцыяй, якая адбылася ў Менску (не ў Маскве, гэта памылка, а ў Менску—*С.* і *Б.*) у 1926 г. у сьнежні месяцы.

Ня трэба, тав. Славін, паведамляць аб гэтых фактах з відам чалавека, які адкрыў Амэрыку. Гэта Амэрыка адкрыта два гады таму назад партыяй і трэба мець многа сьмеласьці, каб кінуць хоць цень падазронасьці ў прымірэнчых адносінах да гэтых фактаў з боку КП(б)Б.

Памылкі, якія мелі месца з боку некаторых таварышоў, у зьвязку з акадэмічнай канфэрэнцыяй, былі асуджаны ўсёй партыяй. Думка некаторых (беспартыйных) удзельнікаў канфэрэнцыі аб неабходнасьці пераходу ў беларускім правапісе з кірыліцы на лацінку была засуджана як «адбітак арыентацыі некаторых адзінак інтэлігентаў на Захад, а не на Маскву». Аб усім гэтым вы, напэўна, ведаеце, т. Славін. Дык навошта вам стала патрэбным праз два гады зноў смакаваць гэтыя рэчы?

Далей Славін паведамляе аб зьмяшчэньні ў газэце «Савецкая Беларусь» лісту трох беларускіх п[illegible] меньнікаў—Александровіча,





Дудара і Зарэцкага. Аб гэтым трэба пагаварыць грутоўна, бо на гэтым факце т. Славін спрабуе давесьці наяўнасьць прымірэнчых адносін з боку партыі да яскравага праяўленьня беларускага шавінізму.

Вось як апісвае гэты факт т. Славін:

> «У самы апошні час меў месца выпадак, які прыкаваў да сябе ўвагу ўсёй грамадзкасьці і друку БССР. Гэта—выступленьне трох студэнтаў, беларускіх пісьменьнікаў (з іх двое камуністых) Александровіча, Дудара і Зарэцкага. Яны зьмясьцілі ліст у рэдакцыю газэты «Савецкая Беларусь» (№ 278 ад 4 сьнежня) аб тым, што яны пакідаюць унівэрсытэт у Менску з-за праследваньняў, якім яны, як беларускія пісьменьнікі, нібы падлягаюць на старонках насьценгазэты унівэрсытэту. Гэта выступленьне прадстаўляла сабой яўна антысавецкі акт, які даў нашым ворагам, а асабліва ў Польшчы падставу абвясьціць, што нават беларускія пісьменьнікі ў БССР, у тым ліку члены кіруючай камуністычнай партыі, прымушаны шукаць месца, дзе «оскорбленному есть чувству уголок».

Факт у агульных рысах апісаны правільна.

Аўтара, як трэба было чакаць, непакоіць самы факт у меншай меры, чым прымірэнчыя адносіны і бадай «салідарызацыя» з гэтым фактам органаў, якім гэта ведаць належыць.

Вось што з гэтага поваду піша тав. Славін.

> «І хаця ў студэнцкіх рэзалюцыях і ў пастанозах ячэйкі ўсіх факультэтаў і рабфакаў напісана, што гэтыя студэнты ёсьць носьбіты правага ўхілу, паклёпнікі і г. д., усё-ж сілы (*С.* і *Б.*), якія спачуваюць іх выступленьню («нарэшце, дацэнт загаворыць канкрэтна»—(*С.* і *Б.*) дабіліся («часамі з дуб'ём, часамі са стрэльбай»—(*С.* і *Б.*) назначанай Наркамасьветы спэцыяльнай камісіі (вось для чаго гаварыў дацэнт аб старых памылках т. Баліцкага—(*С.* і *Б.*) для праверкі заявы гэтай тройкі студэнтаў, тым зьвялі на нішто палітычнае значэньне пастановы студэнцкага калектыву як партыйнай, так і беспартыйнай яго часткі».

Што хоча сказаць «правідзец» Славін сваімі мэтафізычнымі выдумкамі? Толькі яму вядома. Ва ўсякім выпадку мудрагельствы вучонага мужа пакуль што нагадваюць армянскую загадку-жарт:

«Вада зьверху, вада зьнізу, вада з бакоў... Што гэта?

— А гэта значыць—«Карапэт нырнуў».

Інакш кажучы, гэта значыць, што Баліцкі са сваім Наркамасьветы нырнуў у нацыянал-дэмакратычнае балота, і гэта балота захліснула яго, як захліснуў сялянскі паток (па «тэорыі» Славіна) паверхі будынку дыктатуры пралетарыяту БССР.

Перш за ўсё прыходзіцца крыху расчараваць «рьяного» барзапісца папраўкаю, што камісія працавала па даручэньні ЦКК КП(б)Б, аб чым ня мог быць неасьвядомленым работнік унівэрсытэту і партыец Славін. А цяпер давайце мы разьбярэмся, патрэбна была гэта камісія і якія былі вынікі яе работы.

Для тав. Славіна гэта камісія здаецца непатрэбнай. Вынесла партыйная ячэйка і студэнцкія арганізацыі асуджэньне аўтарам лісту—Александровічу, Дудару і Зарэцкаму—і досыць.

ЦКК КП(б)Б лічыла, што гэта пытаньне ня выключна студэнцкае, але і пытаньне буйнога палітычнага значэньня. Таму ЦКК КП(б)Б пастанавіла, і зусім правільна, што трэба вывучыць становішча ў сьценах унівэрсытэту. Як вядома, антыпартыйная заява пісьменьнікаў была ф а р м а л ь н а зьвязана з «фрагмэнтамі», зьмешчанымі ў насьцен-

най газэце унівэрсытэту. Гэтыя «фрагмэнты» насілі яўна хуліганскі характар і былі вылазкаю прадстаўніка вялікарускага шавінізму.

Вас гэта не непакоіць, т. Славін?

Але партыі ў барацьбе з шавінізмам любой нацыянальнасьці не патрэбны саюзьнікі-шавіністыя другіх нацыянальнасьцяй. У сьценах-жа унівэрсытэту апрача беларускага шавінізму, апрача вялікарускага шавінізму мелі месца і выразныя антысэміцкія настроі і тэндэнцыі яўрэйскага шавінізму.

У пастанове ЦКК КП(б)Б, вынесенай апошняй па дакладу тэй-жа камісіі, мы чытаем:

> «Сярод студэнцтва пэдфаку мелі места, а за апошні час і больш шырока выявіліся рознага роду ўхілы ад правільнай бальшавіцкай лініі ў правядзеньні нацыянальнай палітыкі: праяўленьні вялікарускага шавінізму, беларускага нацыяналізму і моманты антысэмітызму».

Як бачыце, партыя праверыла факты і дала ім адпаведную ацэнку.

Зусім відавочна, што выступленьне трох пісьменьнікаў было выражэньнем наступальнага нацыянал-дэмакратызму. Партыя дала рэзкі адпор гэтаму выступленьню, аб гэтым гаворыць наступная вытрымка з тэй-жа пастановы ЦКК КП(б)Б па гэтым-жа пытаньні:

> «Зьмяшчэньне лісту ў газэце партыйцамі Зарэцкім і Александровічам, разам з беспартыйным А. Дударом, з апэляваньнем да савецкае грамадзкасьці, абмінуўшы партарганізацыю унівэрсытэту і наогул парторганы, зьяўляецца справай антыпартыйнай, палітычна шкоднай, якая грае на руку клясаваму ворагу, адлюстроўвае варожыя пралетарыяту нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі некаторай часткі беларускіх пісьменьнікаў, а таксама адлюстроўваючы настроі пралетарскі няўстойлівай часткі студэнцтва, якая паддаецца ўплывам дробна-буржуазнай і буржуазнай стыхіі».

Вінаватыя прызнавалі сваю віну перад партыяй і былі асуджаны ЦКК КП(б)Б.

Цяпер пару слоў аб тэатральнай дыскусіі. Тав. Славін аслабаняе нас ад таго, каб доўга спыняцца на гэтым пытаньні. Ён гаворыць аб асноўных памылках, дапушчаных у артыкулах па гэтым пытаньні з боку Тодара Глыбоцкага і камуністага Жылуновіча, і адзначае, што «вышэйшыя партыйныя органы Беларусі вынесьлі спэцыяльную пастанову прынцыповага характару аб выніках дыскусіі па тэатральным пытаньні», у якім нацыянал-дэмакратычныя імкненьні ў культурным будаўніцтве расцэньваюцца, як «адна з форм супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў нашаму рашучаму наступленьню на іх тэндэнцыі, зьвязаныя з абвастрэньнем клясавае барацьбы».

Не забыўся тав. Славін успамянуць і пра тое, што партыя асудзіла памылку Жылуновіча і налажыла на яго спагнаньне.

Але ці даў тав. Славін марксыцкі аналіз тым яскравым праяўленьням нацыянал-дэмакратызму, антысэмітызму і шавінізму, якія сапраўды за апошні год мелі месца ў Беларусі. Такога аналізу ён ня даў. Мы маем у тав. Славіна награмаджэньне фактаў з гэтай галіны, якія мелі месца за апошнія 3-4 гады і да гэтага абвінавачаньне ў прымірэнчых адносінах да гэтых «няпрыглядных» зьяў. Мыж тым, усе гэтыя зьявы маюць самую цесную сувязь з тым абвастрэньнем клясавай барацьбы, якое мы наглядаем у горадзе і вёсцы. Мы наглядалі ўжо ня толькі паасобныя разрозьненыя праяўленьні нацыянал-дэмакратызму, але і спробы да афармленьня нацыянал-дэмакратычных тэн-

дэнцый, адзначальнымі рысамі якіх было: проціпастаўленьне беларускай культуры культуры расійскай і культуры іншых нацыянальнасьцяй, тэорыя беларускай «самабытнасьці» і арыентацыі на Захад.

Гэтым спробам партыя таксама дала самы рашучы адпор.

Далей тав. Славін падае рад доўгіх фактаў адносна рэктара Белдзяржунівэрсытэту тав. Пічэты. З вялікай «асьвядомленасьцю» т. Славін прабуе дыскрэдытаваць чалавека, які працуе і хоча працаваць пад нашым кіраўніцтвам. Такія адносіны да беспартыйнага прафэсара, які працуе рэктарам беларускага унівэрсытэту з дня яго заснаваньня, могуць быць толькі з боку тых, хто зусім ня хоча ведаць, што гаварыў аб спэцыялістых т. Ленін.

Стары работнік БССР, чалавек, які на канфэрэнцыі навуковых працаўнікоў БССР заяўляе: «я салдат савецкай улады, і калі мне загадаюць, дык я без пярэчаньня пайду працаваць нават настаўнікам у вёску», гэты беспартыйны спэцыялісты, па нашай думцы, не заслугоўвае таго цкаваньня, з якім выступае супроць яго т. Славін. У праф. Пічэты ёсьць памылкі, але адна справа выпраўляць памылкі, а другія справа—цкаваць.

У беларускіх вышэйшых навучальных установах ёсьць правая прафэсура, аб гэтым красамоўна гавораць пратаколы зьезду сэкцыі навуковых працаўнікоў у БССР. Накіраваўшы асноўны ўдар супроць праф. Пічэты, дацэнт Славін гэтым засланіў сапраўды правую прафэсуру. І тут хочаш ня хочаш, а прыходзіцца напомніць яму тую-ж самую крылоўскую прыказку.

Фактычны матар'ял аб праяўленьнях беларускага нацыянал-дэмакратызму т. Славін заканчвае расказам пра тое, як праводзіўся юбілей Горкага ў Беларусі.

> «У пэрыяд юбілейных урачыстасьцяй з повады шасьцідзесяцігодзьдзя з дня нараджэньня Горкага... у Менску было таксама арганізавана ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае гэтаму юбілею. І вось на гэтым сходзе «блистательно» адсутнічалі маламальскі выдатныя беларускія пісьменьнікі. Гэта адсутнасьць мела яўна дэманстрацыйны характар».

Зноў абвінавачаньне. Нехта адсутнічаў на вечары, прысьвечаным Горкаму, і гэта «мела яўна дэманстрацыйны характар».

Тое, што найвыдатнейшыя пісьменьнікі ўваходзілі ў юбілейную камісію, што гэтыя пісьменьнікі сустракалі Горкага на менскім вакзале і шчыра гутарылі з ім, аб чым пісалася і ў «Правде»,—гэта не знайшло адлюстраваньня ў артыкуле т. Славіна, а вось «дэманстрацыйны характар» чыесьці адсутнасьці на вечары правідзец Славін падкрэсьлівае.

Як гэты трук вяжацца з усёй славінскай тактыкай проціпастаўленьня нацыянальных культур.

Судзячы па разьвіцьці асноўнае думкі ў артыкуле т. Славіна, здавалася-б, што ўжо можна прыступіць да вывадаў, якія выцякаюць з разбору паданага ім матар'ялу. Але не, тав. Славін ня можа абмежавацца гэтым. У артыкуле «Нацыянал-дэмакратызм і правая небясьпека», ён лічыць патрэбным пагаварыць наогул «аб няпрыглядных зьявах», якія мелі месца ў Беларусі.

І вось, у канцы артыкулу дацэнт Славін вядзе гутарку аб «гнойніках». Для лёгічна мысьлячага вучонага мужа няма патрэбы ўвязваць гэтыя «няпрыглядныя» зьявы з асноўнай думкай свайго артыкулу: ёсьць нацыянал-дэмакратызм у БССР, а значыцца ад яго і «ўсе якасьці». Выкрыт гнойнік у Добрушы на фабрыцы паперы, і тав. Славін

прабуе сказаць аб сувязі кулацкіх настрояў у Добрушы з «вожделениями» беларускіх шавіністых.

А гаворачы пра Віцебскі і Мазырскі гнойнікі, аўтар ня робіць і такіх нячленаразьдзельных заўваг, каб зьвязаць гэтыя няпрыглядныя зьявы са зьявамі нацыянал-дэмакратызму ў БССР, як быццам-бы гэта зразумела і без тлумачэньняў. Ёсьць нацыянал-дэмократызм, а значыцца няўхільны і гнойнікі.

«У агародзе лебяда, а ў Кіеве дзядзька».

Залажыла, бачыце, нос камусьці нацыянал-дэмакратычным насмаркам, зацягнула вочы «заходнімі» туманамі, і загінула клясавае пачуцьцё і няма пільнасьці ў партыі. Як-жа ня біць трывогу, калі гнойныя хвалі тэрмідору захлёстваюць ужо і верхнія паверхі будынку дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі. Славін абвінавачвае нас у слабой барацьбе з момантамі разлажэньня, адкуль-жа ўзяў Славін матар'ялы аб гнойніках, як не з партыйных дакумантаў, якія сьведчаць аб выніках барацьбы з «гнойнікамі». Пра гэта пісалася ў друку і ў беларускім, і ў саюзным. Над ліквідацыяй гэтых зьяў працуюць цэнтральныя савецкія і партыйныя органы, пачынаючы ад ЦК і ЦКК КП(б)Б і канчаючы выязнымі сэсіямі Вярхоўнага Суду.

Што, што, а славінская пільнасьць менш за ўсё патрэбна партыі.

І бяз Славіна партыя ведае, што нацыянал-дэмакратызм, у якія-б партыйныя або савецкія вопраткі ні ўбіраўся-б, аб'ектыўна складае агэнтуру клясавага ворага.

Ня толькі з «траянскім канём» нацыянал-дэмакратызму ў нашым «стане» наша партыя вядзе жорсткую барацьбу, але яна дасканала распазнае і таго «траянскага каня», на якім выехаў дацэнт Славін.

Гэты «траянскі конь» знаёмы нашай партыі па тых вылазках, якія рабіла на ім трацкісцкая апазыцыя. Крык супроць «нацыяналізму і правай небясьпекі» слаба маскуе ня ленінскую пастаноўку нацыянальнага пытаньня. Дацэнта Славіна і «скрэбці» ня трэба, каб бачыць, што ён, змазваючы ў складаным нацыянальным пераплёце БССР праяўленьні расійскага і яўрэйскага шавінізму, «дапамагае фактычна ўзмацненьню шавінізму сярод некаторай часткі яўрэйскага працоўнага насельніцтва». (Словы тав. Агурскага).

«Траянскі конь» тав. Славіна—гэта трацкісцкая кляча, якая цягне пад лёзунгам барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам сапраўдную небясьпеку ў правядзеньні нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі на адным з небясьпечных яе вучасткаў у БССР.

XII-ты зьезд КП(б)Б, што нядаўна закончыўся, грунтоўна спыніўся на нацыянальным пытаньні.

Мы дазволілі сабе затрымаць увагу чытача (і асабліва Славіна) на дзьвюх вытрымках з дакладу тав. Гамарніка, адказнага сакратара ЦК КП(б)Б: «І так, нацыянальнае пытаньне ёсьць частка падпарадкаваная цэламу—пралетарскай рэвалюцыі. Хто гэтага не разумее, той нічога не разумее ў пралетарскай рэвалюцыі, клясавай барацьбе і ў нацыянальным пытаньні. Асноўныя ўхілы ад ленінскае лініі адбываюцца ад неразуменьня гэтай формулы і тымі, хто лічыць нацыянальнае пытаньне ізаляваным, самадаўлеючым пытаньнем, і тымі, хто не разумее, што мы павінны самым уважлівым чынам адносіцца да нацыянальнага пытаньня, як да часткі пралетарскай рэвалюцыі, і што ад правільнага вырашэньня гэтай часткі залежыць вельмі многае для пасьпяховага вырашэньня цэлага, г. зн. пралетарскае рэвалюцыі». І далей.

...«Па якой лініі ідуць больш за ўсё ўхілы, асабліва адзначаемыя намі ў апошні час. Па лініі антымарксыцкага, антыленінскага, буржуазна-нацыяналістычнага, процiпастаўленьня культуры аднэй нацыянальнасьці культуры іншых. Расійскі шавіністы, беспартыйны або камуністы, гаворыць аб пераважнасьці расійскай культуры. Ён гэтым скрытна і адкрыта прабуе адгарадзіцца ад беларусізацыі. Аб гэтых тэндэнцыях XII зьезд РКП(б) у свой час сказаў: «Гутаркі аб перавагах расійскай культуры зьяўляюцца ня чым іншым, як спробай замацаваць панаваньне расійскай нацыянальнасьці». Беларускі шавіністы прабуе адгарадзіцца ад расійскай культуры і часамі гатовы, расьперазаўшыся, прыкрыць сваю палітычную цягу ў бок капіталістычнага Захаду адкрытай арыентацыяй у бок заходняй «культуры».

Вось у якія бакі цягне тэорыя барацьбы дзьвюх культур: няхай яна будзе ў форме расійскага шавінізму, няхай яна будзе ў форме беларускага, у любой форме яна цалкам варожая пралетарскай дыктатуры тэорыя, і мы з ёю змагаліся і будзем жорстка змагацца як з шавіністычнай інтэлігенцыяй, якая яе разьдзяляе, так асабліва з камуністымі, падпаўшымі дробна-буржуазным хістаньням».

Гэтую цытату і асабліва апошнія словы мы раілі-б вывучыць напамяць тав. Славіну і ўсім тым, хто думае і хоча думаць паславінску.

---

**В. Капаевіч.**

# Першыя вынікі Лістападаўскіх Пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б[1].

„Пастановы Пленумаў даюць ясны, бальшавіцка-ленінскі аналіз клясавых узаемаадносін у краіне, яскравую прынцыпова-вытрыманую палітычную лінію, своечасова і правільна арыентуюць партыю, па выконваньні чарговых практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва, знайшлі аднадумнае падтрыманьне з боку парт. арганізацыі" (з разалюцыі Пленуму райкому КП(б)Б).

## Парадак праработкі і актыўнасьць.

У большай частцы партыйных ячэек абгаварваліся вынікі Лістападаўскіх Пленумаў, у рэшты ставіліся паасобку кантрольныя лічбы і ўзрост партыі. Адчыненымі сходамі ячэек ахоплена нязначная частка беспартыйных рабочых, у сярэднім 8—10 чалавек, на сходах рабочых, ні ў іншых відах масавае работы, пастановы Пленумаў не папулярызаваны. Па лініі партшкол пастановы Пленумаў увязваліся з прахаджэньнем праграмных пытаньняў.

Пры абгаварэньні, у частцы ячэек недастаткова праяўлена актыўнасьць, што часткова тлумачыцца, з аднаго боку, малым папярэднім уцямленьнем пастаноў Пленумаў, з другога, тым, што сходы адбываліся зараз-жа пасьля работы. Найбольшая актыўнасьць праяўлена ў ячэйках: Фабзавуча—70 проц. прысутных выступала ў спрэчках, НКФ, шавецкая майстэрня „Гандльбудаўніцтва" пад 50 проц., а ў іншых 25—30 проц., у паасобных ячэйках зусім ня было спрэчак—Скурзавод, Хімфармзавод і інш.

## Мала завострана ўвагі на барацьбе з правай небясьпекай і левымі настроямі.

Калі да абгаварэньня пастаноў Пленумаў парт. арганізацыя своечасова рэагавала на праявы правага ўхілу і прымірэнцтва да яго, даўшы яму рашучы адпор, завастрыўшы ўвагу на ідэалёгічнай барацьбе з правай небясьпекай і прымірэнчымі адносінамі да яе, як галоўнейшай небясьпекай для партыі ў сучасны момант, пры непаслабнай барацьбе з рэшткамі трацкізму, дык пры абгаварэньні пастаноў Пленумаў, як агульны момант, слаба завострана ўвага на барацьбе з ухіламі, аб гэтым яскрава сьведчаць наступныя прыклады: у некаторых партыйных ячэйках ніводзін ня выступіў аб гэтым пытаньні, урэшце 1—2, у некаторых рэзалюцыях ячэек таксама няма належнае выразнасьці; у ячэйках НКЮ, Скурзаводу, Саюз Хлеба, Хімфармзаводу і інш. гэтае

[1]) Па Кастрычнікаваму раёну—Менск.

пытаньне зусім абыйдзена ў спрэчках, належнага адбітку не знайшло і ў рэзалюцыях: „Весьці барацьбу з праявамі ўхілаў ад Ленінскай лініі“ (ячэйка НКЮ), „рашуча змагацца з усімі ўхіламі“ (ячэйка Саюзхлеба), „быць на варце супроць правага і левага ўхілаў“ (ячэйка Дому Груднога Дзіцяці). У частцы ячэек: заводу „Чырвоная зорка“, Палата Мер і Вагі, Абутковая ф-ка, рух пасажырскай—ні ў спрэчках ні ў рэзалюцыях не знайшло гэта свайго адбітку. Пленум Райкому адзначыў, што ў частцы ячэек *„ня было дадзена належнае яснае ўстаноўкі ў пытаньнях барацьбы з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго, пры непаслабнай барацьбе з рэшткамі трацкізму“*.

## Неразуменьне сутнасьці правага і левага ўхілу.

У паасобных ячэйках выявілася неразуменьне сацыяльна-эканамічных карэньняў правага ўхілу. Возьмем некалькі прыкладаў: „Правы ўхіл у партыі праявіў сумненьне ў нашы сілы, неабходна весьці растлумачыцельную работу сярод рабочых“ (ячэйка фабрыкі цукерак), „Правы ўхіл, гэта ўзрост кулацкіх элементаў у весцы“ і „правыя ўхілісты хочуць даць уступачку кулаку“ (ячэйка Шклозавода), „у нас у БССР правы ўхіл мае большае месца, у віду недахопаў прадуктаў першай неабходнасьці і падзеньня нашае валюты“ (ячэйка Шчотачнай фабрыкі), „Правы ўхіл—справа настрояў у партыі і меньш афармлены, чым левы ухіл“ (ячэка Белкуспрамсаюзу), „Правы і левы ухілы больш зьяўляюцца ў тых таварышоў, якія займаюць адказныя пасады, а рабочыя ідуць у хвасьце, іх магчыма назваць хвасьцістамі, яны ў гэтых пытаньнях не разьбіраюцца“ (ячэйка вагонных майстэрань), „Трэба на запытаньні таварышоў, якія не зразумелі маючыхся ухілаў у партыі, даваць належнае тлумачэньне, а не навалівацца на іх, што вось ты маеш правы ці левы ўхіл“ (ячэйка заводу „Энэргія“).

Аб неразуменьні сутнасьці ўхілаў сьведчаць і пададзеныя запытаньні, вось характэрныя з іх: „Якая разьніца паміж трацкістамі і правым ухілам, хто зьяўляецца кіраўніком правага ўхілу, ці маюцца афармленыя групы, чым выкліканы правы ўхіл, у чым сутнасьць правага ўхілу і дзе яго карэньні, як весьці барацьбу з правым ухілам, якія з двух ухілаў небясьпечней—правы ці левы“.

Пленум РК у прынятай рэзалюцыі адзначыў: *„З боку паасобных камуністаў выявілася неразуменьне сацыяльна-эканамічных карэньняў правага ўхілу і яго шкоднасьці, пры абгаварэньні генэральнай лініі па індустрыялізацыі і сацыялістычнай перабудове вёскі“*.

## Недаацэнка барацьбы з правым ухілам.

Прывядзем найбольш характэрныя выступленьні: „Аб правым ухіле пытаньне ставім тады, калі ўжо ўсё гэта прайшло і ўсё ліквідавана, а ня ў момант разгару гэтых спрэчак (ячэйка Белсельсаюзу). „У нашай ячэйцы няма ні правых ні левых“ (ячэйка малага рэмонту). У частцы ячэек барацьба з ухіламі была ўспрынята, як кампанейкая работа, даклад заслухоўвалі і гэтым справа канчалася. Пленум РК адзначыў, што *„у паасобных ячэйках барацьба з правай небясьпекай успрынята як кампанейская“*.

## Аб праявах правых настрояў у БССР.

Шэраг таварышоў выступілі і прыводзілі прыклады правых настрояў у БССР, па якім таксама патрэбна накіраваць агонь: „У БССР таксама ёсьць таварышы з правым ухілам, хаця яны актыўна не выступаюць. Гэта наглядаецца ў тым, што некаторыя таварышы пэсымістычна глядзяць

на пабудову Асінбуду, беларусізацыю, беларускую культуру і. г. д." (ячэйка НКФ). „Ёсьць пэсымістычны погляд, што няма пэрспэктыў разьвіцьця прамысловасьці ў Беларусі, а патрэбна разьвіваць выключна сельскую гаспадарку, ухілы праяўляюцца і ў культурным будаўніцтве, прыклад тэатральная дыскусія і інш". У рэзалюцыі Пленуму гаворыцца: „*Павышэньне бальшавіцкай прынцыповай няпрымірымасьці за чыстату Ленінскай лініі партыі, барацьба з канкрэтнымі праявамі правай небясьпекі ўсялякімі хістаньнямі ад лініі партыі зьяўляецца галоўнейшай задачай арганізацыі*".

## Неразуменьне цяжкасьцяй і левыя ўхілы.

У выступленьнях паасобных таварышоў адчуваецца неразуменьне цяжкасьцяй і шляхоў перамогі іх, а таксама праявы левых настрояў, возьмем найбольш характэрныя прыклады: „Рабочая кляса не павінна ўвесь час цярпець лішэньні, стаяць у чаргах, галадаць і інш." (ячэйка Белсельсаюзу), „Цяжкасьці з хлебам тлумачацца тым, што мы ня маем столькі таварнага хлеба, як мелі да рэвалюцыі" (ячэйка фабрыкі цукерак), „Павышэньне зарплаты малое, жыць рабочым цяжка, а мы толькі гаворым аб павышэньні яе" (ячэйка Шклозаводу).

Таксама „Патрэбна ня лаяць Троцкага таму, што можа прыдзе час, калі мы яго ізноў папросім". „Тыя дасягненьні, якія маем за апошнія гады, дасягнуты выжыманьнем мускулатуры рабочых. Зусім няправільны курс праводзіцца партыяй у апошні час у адносіне павышэньня цэн на хлеб... Можна гаварыць так, што паскольку хлеб у большасьці сваёй знаходзіцца ў кулака, мы даем яму ўступку, узвышая цану на хлеб, тым самым рабочай клясе прыходзіцца выкармліваць сваіх ворагаў". „Наша гаспадарка расьце, але што ад гэтага мае рабочы, што ні дзень усё горш і горш. Сельгаспадарчыя машыны пападаюць кулаку, ён тым самым перацягае на свой бок беднату і сераднякоў" (ячэйка Абутковай фабрыкі). У частцы выступленьняў адчуваліся ноткі вузкага практыцызму, ацэньваюць агульнае разьвіцьцё з боку свайго асабістага становішча: „У мяне тры гады таму назад была адна кашуля і цяпер таксама, дзе-ж тут разьвіцьцё".

А вось характэрныя запытаньні: „Ці былі разыходжаньні ў ЦК УсеКП(б) пры разглядзе кантрольных лічб. Ці ня прыдзецца ўвозіць прадукты лёгкае індустрыі з-за мяжы. Адкуль мы бярэм сродкі на індустрыялізацыю. Чаму гэта, калі наша прамысловасьць была больш адсталай, дык было больш прадуктаў". „Якія ўжываюцца меры да зьнішчэньня цяжкасьцяй". Пры чым такім настроям у ячэйках мала давалі рашучага адпору і растлумачвалі няправільнасьць поглядаў і настрояў такіх таварышоў. Пленум райкому ў рэзалюцыі канстатаваў: „*У частцы выступленьняў камуністых былі праяўлены моманты вузкага практыцызму—дзеляцтва, якое вядзе на справе да страчаньня пэрспэктыў нашага разьвіцьця. Адначасова ёсьць шэраг фактаў, якія сьведчаць пра адсутнічаньне ў паасобных ячэйках належнай пільнасьці, бальшавіцкае нязьміронасьці ў барацьбе з канкрэтнымі праявамі правае небясьпекі і хістаньняў ад Ленінскай лініі*".

## Аб паслабленьні тэмпу індустрыялізацыі.

Мелі месца выступленьні аб тым, што паслабляецца індустрыялізацыя, яны сустрэлі рашучы адпор па ячэйках. Возьмем найбольш яскравыя з іх: „Нам неабходна ўкладаць больш сродкаў у лёгкую прамысловасьць і сельскую гаспадарку. Разьвіваць цяжкую індустрыю добра, але-ж мы ня можам будаваць у нас правалы на кожным шагу"

(ячэйка Абутковай ф-кі), „У чым прычыны хістаньняў. Мы занадта захапляемся нашым будаўніцтвам, бо будуем заводы, а сырцу няма, неабходна больш сродкаў укладаць у сыравінную базу“ (ячэйка Белсельсаюзу).

### Незразуменьне тэмпу індустрыялізацыі.

У паасобных камуністаў маецца блытаніна аб тэмпе індустрыялізацыі. Прыклад: „Шлях разьвіцьця нашае гаспадаркі павіненісьці ад індустрыі да сельгаспадаркі, спачатку разьвіцьцё індустрыі, а потым сельскае гаспадаркі“, „У першаю чаргу павінна разьвівацца індустрыя, як толькі партыя справіцца з індустрыяй, зараз-жа возьмецца за сельгаспадарку“, „Індустрыялізацыя і разьвіцьцё сельгаспадаркі павінна ісьці нага у ногу. Зараз-жа прыкмячаецца, што прамысловасьць ідзе трохі хутчэйшым тэмпам“ (яч. Фабзавуча).

### Аб парадным будаўніцтве.

Шэраг т. т. выступалі супроць параднага будаўніцтва: „Нам не патрэбна парадная будаўніцтва, прыклад Дом Камунбанку, намячаецца пабудова Дому Ураду, Дзяржбанку. Патрэбна гэтыя сродкі кінуць на індустрыялізацыю краіны“ (ячэйка Шклозаводу)

„У нас у будаўніцтве і гаспадарчасьці маецца расхлябанасьць, усюды прабелы, гэта ў большасьці ўтвараецца ад нас самых, мы ня любім крытыкаваць сябе, нас заядае самалюбства“ (ячэйка Белсельсаюзу).

Пры абгаварэньні пастаноў Пленуму, *недастаткова ўцямлены асновы гаспадарчых цяжкасьцяй і шляхі перамаганьня іх, наглядаецца адсутнічаньне напружанасьці ў барацьбе за перамаганьне іх, у выніку чаго па ячэйках недастаткова праработаны кантрольныя лічбы разьвіцьця народнае гаспадаркі наогул і ў прыватнасьці праламленьня іх ва ўмовах свайго прадпрыемства.*

Пры абгаварэньні пытаньня сельскае гаспадаркі выявілася ў асобных ячэйках недастатковае азнаямленьне з лініяй партыі ў сялянскім пытаньні, а таксама слабое азнаямленьне з практычным становішчам работы ў вёсцы і слабы ўдзел камуністаў у рабоце шэфскіх арганізацый.

### Аб кулацкай небясьпецы і лініі партыі ў вёсцы.

Маецца шэраг выступленьняў, якія недаацэньваюць кулацкую небясьпеку і нездаволены лініяй партыі ў вёсцы. Часам гэтыя выступленьні бываюць у захаванай форме, але не заўсёды ў ячэйках выяўляецца сутнасьць гэтых выступленьняў і не даецца належнага адпору, як чужой нам ідэалёгіі; возьмем найбольш яскравыя прыклады: „У нас лічаць кулакамі заможных, якія маюць па 10 дзесяцін зямлі, а на самай справе ў Беларусі кулакоў няма, бедната, галыцьба,—грошы адтрымоўваюць і неправільна скарыстоўваюць, і калі мы так лінію павядзем, дык застанемся бяз хлеба“, „Што палітыка партыі ў вёсцы і стаўка на бедняка і серадняка неправільная, бядняк лодыр, і мы будзем сядзець бяз хлеба“ (ячэйка Банкаўскіх устаноў), „Толькі мне здаецца, што невялікая размычка з сялянствам у нас цяпер ёсьць“ (ячэйка заводу „Энергія“), „У Беларусі няма кулакоў, а калі і ёсьць некалькі працэнтаў, дык гэта нам ня страшна, бо беларускага кулака не параўнаеш з сібірскім“, „Маючыяся ў нас 5 проц. кулакоў вялікая лічба, бо за імі ідзе большая частка вёскі, яны аказываюць эканамічны ўплыў, што адзначае і палітычны ўплыў“ (ячэйка Белкустпрамсаюзу). Вось характэрныя запытаньні: „Які працэнт кулакоў у нас. Па якіх прызнаках адзначыць кулака. Чаму бяруць падаткі з сялян, ці не разараем мы іх гэтым. Чаму да гэтага часу ня ясна, хто такі кулак. Якая

розьніца паміж кулаком і серадняком. Ці прадае кулак хлеб на рынак". У рэзалюцыі Пленуму гаворыцца: *„Ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы, побач з адкрытымі выступленьнямі кляса̀ва-варожых элемэнтаў, прыкмячаюцца выпадкі замаскаваных спроб з іх боку працягнуць у рабочую масу ідэалёгічна-чужыя настроі ў скрытай форме. Маюць месца шэраг выпадкаў недаацэнкі такіх зьявішч, калі з-за скрытай формы не ўяўляецца сутнасьць і несваечасова завастраецца ўвага працоўных на барацьбе з гэтымі выпадкамі"*.

### Аб мерах да кулакоў.

Шэраг т. т. выступалі, што мы ўжываем слабыя меры да кулакоў, якія супроць нас выступаюць адкрыта. „Партыя вядзе барацьбу з кулацтвам культурна, а яно, наадварот, уплывае тэрорам. Неабходна да іх прыняць больш жорсткую меру" (ячэйка БСІКО).

### Партыйцы і калектывізацыя.

У выступленьнях адзначалася, што неабходна прыняць больш жорсткія меры да камуністаў, якія ня йдуць у калгасы і савгасы. Патрэбна дабіцца таго, каб камуніст быў добрым прыкладам у вёсцы. Возьмем некалькі прыкладаў: „Больш рашуча ставіць пытаньне аб партыйцах, якія павінны пайсьці ў калгасы і савгасы, і калі яны будуць адмаўляцца, іх патрэбна вычышчаць з партыі" (ячэйка Белсельсаюзу), „Ёсьць у вёсцы камуністы, якія агітуюць за калгасы, а самі ня йдуць у іх, гэта ёсьць хістаньні" (ячэйка БСІКО).

### Аб пасылцы камуністаў у вёску.

Шмат таварышоў гаварылі пра слабасьць работы на вёсцы і прапанавалі кінуць гарадзкіх камуністаў на ўзмацненьне ў вёсцы работы. Возьмем некалькі выступленьняў: „Кулацтва стараецца ўзьвесьці паклёп на падатковую палітыку партыі і ўлады, вядзе антысавецкую работу сярод сялянства. Каб палепшыць усё гэта, патрэбна гарадзкіх камуністаў кінуць у вёску, бо вясковыя камуністы справіцца з вялікай работай пры іх адсталасьці ня змогуць" (ячэйка БСІКО), „Трэба ўзмацніць сельсаветы і сельячэйкі камуністамі-рабочымі" (ячэйка „Чырвоная зорка").

*Пленум паставіў перад арганізацыяй задачу—больш глыбокага якаснага вывучэньня асноўных пытаньняў палітыкі партыі ў вёсцы, большага ўдзелу камуністаў у шэфскай рабоце, паставіўшы перад сабою задачу падрыхтоўкі кадраў актыву з рабочых на работу ў вёсцы.*

### Аб росьце партыі.

Шэраг выступленьняў закранулі пытаньне аб прычынах слабога росту і як яго ўзмацніць, возьмем некалькі прыкладаў: „Актывісты-рабочыя ня ідуць у партыю таму, што партыя патрабуе весьці парт. і грамадзкую работу, партыйцы павінны павесьці сярод іх належную работу, каб уцягнуць у партыю", „Прыём у партыю часамі праходзіць па модзе, каб даць належны процант, а ня якасьць", „Беспартыйныя ня йдуць у партыю таму, што бачаць, як некаторыя камуністы не даюць таго партыі, што яна ад іх патрабуе" (ячэйка Сьпіртзаводу). „Многія ня ведаюць, ісьці ў партыю ці не, калі ёсьць такія разыходжаньні паміж партыяй і апазыцыяй, патрэбна па гэтаму пытаньню павесьці растлумачыцельную работу сярод рабочых" (ячэйка заводу „Чырвоная зорка"). „Сялян непатрэбна наогул прымаць у партыю" (ячэйка Белкустпрамсаюзу).

*Пленум райкому паставіў перад арганізацыяй задачу ў працягу году павялічыць лік рабочых ад варштату ў складзе арганізацыі ня меньш як на 50 проц., пры агульным прыёме рабочых прымаць ня меньш 95 проц.*

### Пра чыстку партыі.

Усе выступленьні па ячэйках і прынятыя рэзалюцыі ўхваляюць чыстку ў партыі, як своечасовую і неабходную, але-ж у паасобных выступленьнях адчуваюцца і нездаровыя настроі, возьмем некалькі прыкладаў: „Нам патрэбна зрабіць генэральную чыстку нашаму бюракратычнаму апарату, і калі гэты апарат зробім здаровым, толькі тады здаровы апарат зможа зрабіць чыстку ў рабочых ячэйках“, „Тут пры чыстцы вычысьцяць усе апазыцыйныя галоўкі, а падхалімы ў партыі застануцца, я лічу, што цяперашная чыстка павінна быць сумленнай і правільнай. Пры чыстцы нам патрэбна ў першую чаргу пазбавіцца ад бюракратаў, пасьля гэтага толькі магчыма кантраляваць нас“, „Я адчуваю небясьпеку, что пры чыстцы ў партыі застануцца падхалімы, каб гэтага ня было, патрэбна ў парттройкі ўвесьці рабочых ад варштату“ (ячэйка Шавецкае майстэрні).

У рэзалюцыі Пленуму РК гаворыцца: *„Праводзячы сыстэматычную чыстку нашых шэрагаў ад чужых і прымазаўшыхся элемэнтаў да партыі, прыняць належныя меры да палітычнае і арганізацыйнай падрыхтоўкі да наступнае чысткі партыі“.*

### Мерапрыемствы ячэек.

У частцы ячэек прыняты практычныя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьню пастаноў Пленумаў ва ўмовах свайго прадпрыемства, прывядзем некалькі прыкладаў: „Даручыць бюро ячэйкі намеціць шэраг практычных мерапрыемстваў па падняцьцю працоўнае дысцыпліны на заводзе, прадукцыйнасьці працы, зьніжэньня сабекошту ня менш чым на 7 проц., а таксама па барацьбе за эканомію і гаспадарчую беражлівасьць у будаўніцтве і даабсталяваньні заводу... паставіць перад сабою мэту, каб у канцы 1930 году ў ячэйках было ня менш за 50 проц. рабочых ад варштату“ (ячэйка Сьпіртзаводу).

Такія-ж самыя мерапрыемствы прыняты і ў іншых ячэйках, але-ж ёсьць шэраг ячэек, якія прынялі агульныя рэзалюцыі, прыклад: „Адобрыць пастановы Пленумаў і праводзіць іх у жыцьцё“ (ячэйка Палаты Мер і Вагі), „Сход цалкам далучаецца да пастаноў Пленумаў“ (ячэйка Чырвонадубільнага цэху Скурзаводу), „Даручыць бюро ячэйкі распрацаваць мерапрыемствы па прапрацоўцы партыйцамі пастаноў Пленумаў“ (ячэйка Абутковай фабрыкі).

*Пленум райкому даручыў бюро РК праз інструктарскі склад арганізаваць практычную дапамогу ячэйкам у разработцы мерапрыемстваў па выканаьню пастаноў Пленумаў, у працягу 2-х месяцаў праверыць практычнае праламленьне іх па ячэйках. Правесьці ў выбарачным парадку праверку праламленьня пастаноў Пленумаў па заводу „Бальшавік“, „Энэргія“, Менскаму вузлу МББ, працкалектывах, па зьніжэньню сабекошту, якасьці прадукцыі, падняцьцю вытворчае дысцыпліны і інш. Разгортваньне самакрытыкі застаецца галоўнейшай задачай партыйнае арганізацыі. У мэтах найбольшага ўцягненьня шырокіх працоўных мас у сацыялістычнае будаўніцтва, барацьбы з бюракратычнымі зьявішчамі неабходна забясьпечыць чулае прыслухоўваньне да крытыкі, своечасовую рэалізацыю дзелавых прапаноў, шырока інфармуючы працоўныя масы, як яны выконваюцца.*

---

Янка Паўлоўскі.

# Барацьба за саветы ў вёсцы.

## Чым выклікана абвастрэньне клясавай барацьбы?

Наша беларуская вёска, як і ўсе вёскі, аулы і сёлы Савецкага Саюзу ў апошнія два-тры месяцы перажывае абвостраную выяўленую клясавую барацьбу. Бясспрэчна, што абвастрэньне і выразнасьць гэтае барацьбы выклікана правядзеньнем перавыбараў саветаў. Але было-б памылковым сьцьвярджэньне, што менавіта перавыбары саветаў і толькі перавыбары выклікалі разгортваньне клясавай барацьбы ў вёсцы.

Карэньні сучаснае барацьбы трэба шукаць глыбей, чым перавыбары, яны знаходзяцца ў нашым эканамічным становішчы, а менавіта ў наступе сацыялізму на капіталістычныя—кулацкія элемэнты вёскі. Агульнае пытаньне рэканструкцыі—перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі—цяпер шчыльна і няўхільна паўстала перад сельскім сэктарам нашае гаспадаркі, перад вёскай.

Арганізацыя толькі за адзін 1928 год 509 калектываў па БССР, у якія ўлілося 4.000 сялянскіх гаспадарак, павялічэньне абхвату сялянскіх гаспадарак сельска-гаспадарчай каапэрацыяй за адзін год на 8,6 працантаў значна ўзмацнілі сацыялістычны сэктар на вёсцы і, вядома, пагражаюць кулацкім элемэнтам. Разам з тым пашырэньне дзейнасьці саўгасаў і апошнія мерапрыемствы ў галіне загатовак і сельска-гаспадарчага падатку яшчэ болей узмацнілі наступ сацыялістычных элемэнтаў на заможную і кулацкую частку вёскі.

Вось гэты рост і нашы эканамічныя мерапрыемствы і выклікалі абвастрэньне клясавае барацьбы ў вёсцы. Менавіта „абвастрэньне“, бо яшчэ далёка і да гэтага клясавая барацьба ў вёсцы была. Там, дзе ёсьць сацыялістычныя і дробна-капіталістычныя элемэнты, там заўсёды будзе барацьба гэтых дзьвюх сацыяльна-эканамічных форм. Абвастрэньне барацьбы выклікана яшчэ і тым, што за апошнія гады ўзмацніліся сельскія саветы, палепшылася работа партыйных ячэек, больш стала пачала праводзіцца работа з беднатой. Калі-б ня гэткія апошнія дасягненьні, дык барацьба ў вёсцы была-б аднабокай. Гарэлі-б хаты беднякоў-актывістаў і калгасьнікаў, забіваліся-б з па-за кутоў цёмнай ноччу прадстаўнікі ўраду і селькоры. Але мы бачым барацьбу дзьвюх сіл. Бедната не застаецца пакрыўджанай. Апроч мерапрыемстваў адміністрацыйнага і судовага парадку з боку належных органаў, сама бедната арганізаваным парадкам дае адпор зрваўшамуся клясаваму ворагу—кулаччу.

Вось адзін з гэткіх многіх прыкладаў: Бедната вёскі Лазіна, Аршанскае акругі арганізавала калектыў „Іскра“. Пачалося землеўпарадкаваньне. Кулакам пагражала абрэзка, выкрыцьцё зямлі. Пачалі яны застрашваць беднату забойствамі, падпаламі. Не зважаючы на гэта, бедната ня спыняла наладжваць свае справы... І аднойчы ноччу

шэсьць бядняцкіх хат ахапіла полымя пажару. Аршанскі акруговы суд прыгаварыў злачынцаў-кулакоў да пяці год зьняволеньня. А беднята свае справы ня спыніла—наладжвае работу калектыву яшчэ лепш, з яшчэ большай ахвотай і натхненьнем. І нават больш таго, сама бедната ўзьняла перад Вярхоўным судом рэспублікі пытаньне аб пераглядзе справы кулакоў-падпальшчыкаў. Бедната патрабавала больш суровага пакараньня злачынцаў.

Як відаць з пададзенага прыкладу, а гэта можна ўбачыць па сотні такіх прыкладаў, клясавая барацьба ў сучаснай вёсцы мае эканамічную падставу. Перавыбары саветаў яскрава выявілі гэтую барацьбу. Сельсавет усё больш і больш становіцца гаспадаром, кіраўніком вёскі і таму кулаччу і заможнікам нявыгадна, калі ў савеце будзе бядняк альбо серадняк актывісты. Кулак цяпер добра ведае якую ролю адыгрывае на вёсцы сельсавет. Таму так навязна стукаўся ён у дзьверы новага сельсавету, таму ён з свайго боку прыймаў усё магчымае, каб пралезьці ў савет, каб захапіць у свае рукі органы ўлады на вёсцы.

Мне аднойчы трапілася гаварыць з такім кулаком „актывістам“ са Случчыны. Ён падатку плоціць каля 300 рублёў. І цікава, што першай яго скаргай і запытаньнем зьявіліся словы пра палітычнае бяспраўе.

— Я ня буду гаварыць пра падатак,—казаў гэты кулак,—а скажэце, чаму мяне пазбавілі права голасу?

— Ці я не такі як і ўсе?

— Ці я не грамадзянін савецкае рэспублікі?

— Бачыце, куды ён „гне“.

Клясавы вораг наш чуе, дзе сьмятанку можна зьлізаць. Дай яму спачатку права голасу, тады ён пры сваім умельстве пралезе ў савет. Далей зьявяцца розныя „даведкі“ і трыста рублёў застануцца ў яго кішэні.

Можна падаць яшчэ адзін падобны прыклад (іх, праўда, нямала). Адзін з кулачкоў Меншчыны ў адну з нашых цэнтральных газэт напісаў заяву, у якой успамінае толькі між іншага пра вялікі падатак, пералічвае сваю маёмасьць (сярод якой дзьве кузьні), успамінае пра аднаго работніка, гаворыць пра 100-рублёвыя пазычкі сялянам („для дапамогі“) і, нарэшце, скардзіцца на тое, што яго пазбавілі права голасу.

Факт надзвычайна цікавы. Кулацкая гнуткасьць знайшла дарогу і ў рэдакцыю нават. Вось як моцна хапаецца кулачч́о за страчаныя правы.

## На справаздачных і перавыбарчых сходах.

Падрыхтоўка да сучасных перавыбараў саветаў пачалася ў большасьці своечасова. Ужо да кастрычніка м-ца вакол перавыбараў склалася шырокая думка ўсяе савецкае грамадзкасьці. Па сельсаветах, вёсках, мястэчках і гарадох, у партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацыях яшчэ напярэдадні справаздачных і перавыбарчых сходаў абгаварвалася пытаньне аб падрыхтоўцы да перавыбараў. Ёсьць у гэтай галіне і хібы—спазьненьне. Прыкладам можа быць Жыткавіцкі райвыканком (Мазырская акруга). Там толькі 30-га лістапада аформілася раённая выбарчая камісія і толькі з 1 сьнежня яна пачала працаваць. Ня лепш са справай і ў Аршаншчыне. Ужо ў канцы лістападу акруговае бюро прафсаюзаў яшчэ ня мела нават пляну перавыбарчай кампаніі.

Шмат дзе яшчэ ёсьць такіх заган, але ў большасьці падрыхтоўка пачалася своечасова. Таму і арганізацыйная справа была наладжана лепш, чымся ў мінулыя перавыбары. Справаздачныя і выбарчыя

вучасткі ў сёлетніх перавыбарах былі невялікімі. 200—300 чалавек—звычайны вучастак. А гэта дало магчымасьць ахапіць больш лік выбаршчыкаў. Праўда, і тут не абышлося без заган, але ў агульным ліку колькасьць выбарчых вучасткаў павялічана, тым часам як самыя вучасткі паменшаны.

Сёлетнія справаздачныя даклады саветаў у вёсцы характарызуюцца яшчэ тым, што разам з справаздачамі сельсавету рабіліся даклады аграномаў, вэтэрынараў, дактароў. Гэта значна ажывіла справаздачныя сходы.

Процант пазбаўленых права голасу на вёсцы павялічыўся супроць мінулых выбараў на 0,7 проц. Значную частку кулацкіх элемэнтаў да выбараў не дапусьцілі. Праўда, кулаччо паднялася на дыбкі, пачало апратэстоўваць пастановы камісій, але беспадстаўна. Трэба сказаць, што скрыўленьні і тут былі. Возьмем прыкладам Шарпілаўскі сельсавет, Гомельскай акругі. Тут у сьпіс „лішэнцаў“ ня ўнесьлі членаў сям'і папа, якія пры ім і на яго ўтрыманьні жывуць, а разам з тым пазбавілі выбарчых правоў глуханямых.

Галоўнейшы-ж вучастак перавыбарчага фронту—падрыхтоўка беднаты—быў наладжан добра. Усе партыйныя арганізацыі работу з беднатой у час кампаніі паставілі на належную вышыню. Наладжваліся нарады, сходы. Па ўсіх акругах у райёнах склікаліся нарады беднаты. Ячэйкі па вёсках і сельсаветах наладжвалі сходы беднаты, дзе абгаварвалася палітычнае значэньне перавыбараў і заслухоўваліся даклады сельскіх саветаў. У выніку, бедната была арганізавана вакол партыйных ячэек, абараняла прапановы партыйцаў, пасьля справаздач і пасьля абгаварваньня на сваім сходзе кандыдатур у саветы абараняла і галасавала за апошнія на агульных сходах.

Трэба лічыць, што менавіта добра праведзеная работа з беднатой і дала станоўчыя вынікі і належны эфэкт ва ўсіх перавыбарах. Возьмем справаздачныя сходы. Ужо на іх яскрава можна было бачыць дзьве групы—першая бядняцка-серадняцкая, якая „крыла“ дрэнны, клясава нявытрыманы савет, абараняла добры прыкладны бядняцка-серадняцкі савет.

Запатрабаваньні выбаршчыкаў на сельскіх справаздачных сходах былі значна большыя, чым у мінулыя выбары. Бедната і серадdespite не задавальняліся сухімі пратакольнымі справаздачамі (а такія яшчэ поўна дзе былі), а патрабавалі канкрэтных фактаў аб праробленай рабоце ў галін[illegible]і, узьняцьця ўраджайнасьці, гаспадарчага і культурнага дабрабыту вёскі.

Нікога ня цікавіў лік і колькасьць разгледжаных там пытаньняў. Патрабавалі наяўных фактаў, вынікаў работы. У аднэй толькі галіне выбаршчыкі пыталі пра мэтады работы.

— Мы выбіралі ня толькі старшыню і сэкратара, а выбіралі і яшчэ людзей. Дзе яны? Мы іх ня бачым, іх і тут на сходзе ня відаць.

Такіх выступленьняў было шмат. Бедната і серадняні патрабавалі справаздач ад сваіх абраных у саветы членаў. Заможнік з кулаком-жа „гнулі“ ў другі бок: „цяжкі падатак“, „хлеб“, „мануфактура“, „жыцьця няма“ і г. д.

На другім этапе перавыбарчае кампаніі, менавіта на саміх выбарчых сходах розьніца ў выступленьнях набыла яшчэ больш процілеглы характар. Важнасьць гэтага вучастку зразумеў і кулак. Калі да гэтага ён выступаў сам разам з заможнікам, дык на другім этапе ў яго (кулака) зьявіліся другія больш замаскаваныя, а разам з тым і больш вострыя формы. Пачалося дзейнічаньне пры дапамозе падкулачнікаў, напайваньне беднаты і серадняноў. Былі і такія выпадкі, што кулакі

бегалі як шалёныя з аднаго сходу на другі і стараліся ўсюды правесьці „сваіх людзей“.

Але амаль што ўсюды кулацкая карта засталася пабітай. Кулацкі „саюз“ з быўшымі людзьмі, з „рыбакамі“, як іх завуць на Случчыне, быў разьбіты другім саюзам беднаты, батрацтва і серадняцтва. Патрабавалася шмат энэргіі, умельства, арганізаванасьці ад партыйных арганізацый, але ў напружанай барацьбе бядняцка-батрацкая частка вёскі разам з серадняком перамагла кулацкія наскокі.

Трэба адзначыць, што сёлета значна павялічыўся лік прысутных на выбарчых сходах. Калі ў мінулыя выбары сярэдняя колькасьць прысутных складала 46,6 проц. выбаршчыкаў, дык апошнія зводкі паказваюць, што на гэтых перавыбарчых сходах лік прысутных складае ў сярэднім 59—60 проц. Павялічэньне даволі значнае. Жанчыны на сёлетніх сходах таксама прымаюць большы ўдзел, чым у мінулыя перавыбары. Прысутныя на сходах жанчыны складаюць у сярэднім 43 проц. усяго ліку жанчын, маючых права голасу. У мінулыя перавыбары яўка жанчын складала толькі 26,4 проц. Трэба лічыць, што такое павялічэньне ў нашых умовах зьяўляецца досыць значным. Павялічыўся лік жанчын у новаабраных сельсаветах. Заміж мінулых 7,2 проц. мы цяпер маем па не канчатковых яшчэ вывадах 19,7 проц.

Процант камуністаў, абраных у новыя саветы, прыблізна можна лічыць стабільным у адносінах да мінулага складу саветаў. Ёсьць, праўда, невялікае зьмяншэньне, прыкладам на 0,7 проц. Процант камсамольцаў у новых саветах такі-ж, як і ў мінулым складзе.

## Адхіленьні ад лініі партыі.

Побач з агульна-правільным курсам, побач з правільным пераламленьнем лініі партыі на мясцох, ёсьць і адхіленьні, адыходы ад агульнай партыйнай лініі.

Мы раней спыняліся на шэрагу прыкладаў, якія паказвалі, што ў тым ці іншым раёне ці сельсавеце скрыўляліся асобныя моманты арганізацыйнай устаноўкі. Такія-ж скрыўленьні наглядаліся і ў палітычнай лініі.

Возьмем некалькі прыкладаў.

У вёсцы Вароніцкая Слабада, Менскай акругі на сход беднаты прышло некалькі сераднякоў. Адзін з сяброў партыі і другія кіраўнікі сходу патрабавалі, каб серадняки пакінулі сход. Апошнія ня ведалі, з якой прычыны іх гоняць, не сьпяшаліся пакінуць памяшканьне. Тады адзін з кіраўнікоў сходу пачаў крычаць.

— Хутчэй, хутчэй, а не, дык сілай выведзем!(?)

Вось да чаго дашло ў партыйцаў Цытвянскага сельсавету.

Можна гэты выпадак тлумачыць так: гэтыя партыйцы лічылі, што на сходах беднаты ні ў якім разе не павінны прысутнічаць серадняки. Калі-б нават так было, дык непатрэбны грубыя выгукі, якія можна ўжыць толькі да клясавых ворагаў. Тут Цытвянскія партыйцы, што завецца, перагнулі і нашмат палку. Нават больш, яны скрывілі партыйную лінію, бо замест таго, каб прыцягнуць серадняка на свой бок, яны штурхнулі яго ў кулацкія рукі—ня інакай. Бо чым-жа тлумачыцца тое, што з 28 чалавек рэкамэндуемых у савет бядняцкім сходам, на агульным сходзе прайшло толькі 18 чалавек. У савет нават прайшоў адзін заможнік, які плаціць 117 рублёў падатку. Вось вынік, які навучыў Цытвянскіх партыйцаў лепш адносіцца да сераднякоў. Ня гнаць іх трэба са сходу, а добра, калі серадняк прыдзе на сход, злучаецца тут з бедняком для таго, каб разам супроць кулакоў выступаць на агульным сходзе.

Паўстае і другое пытаньне—ці даць серадняку слова на бядняцкім сходзе? У Халопеніцкім раёне гэтае пытаньне вырашалася так: адбываўся ў аднэй вёсцы сход беднаты. Прышлі і серадннякі. Слухалі, чакалі і пасьля папрасілі слова. Партыец, які праводзіў сход сказаў, што слова ім ня дасьць. Пакрыўджаныя серадннякі ўжо зьбіраліся пакінуць сход, але ў справу ўмяшаўся партыец з рабочае брыгады („Эльвод"). Ён дакладна растлумачыў, што серадняк можа выказацца, калі ён мае добры намер. Так і зрабілі. Бедната разам з серадннякамі пагаварылі аб пытаньнях, якія высоўваліся ў наказе і пасьля разам выступілі на агульным сходзе. Усюды прайшлі бядняцкія прапановы.

Надзвычайна цікавы з гэтага боку і такі факт. У Хоцінскі сельсавет (Полацкая акруга) з 26 членаў савету беднякоў абрана 22. На першы погляд здаецца, што гэта добра, а калі прыгледзішся, дык скажаш:—ня зусім. Уяўляеце сабе сельсавет, у які серадняк амаль што не ўваходзіць. Дзе саюз з серадняком? Дзе падзелася „цэнтральная фігура земляробства". Факт мо' і ня мае вялікае бяды, але ён у прынцыпе парушае Ленінскія словы, што: „ сярэднім сялянствам мы ажыцьцяўляем і будзем ажыцьцяўляць палітыку згоды"... („Собрание сочинений Ленина", том XV, стр. 526).

Сельсавет, як і ўсе органы саветаў павінен быць, пралетарскім па кіраўніцтву, па зьместу свае працы, але бядняцка-серадняцкім па свайму складу. Нельга пакідаць серадняка па-за полем сельсавецкай работы. Бо ў такім выпадку ён можа апынуцца разам з кулаком у апазіцыйным да сельсавету становішчы.

У часе перавыбараў выявіліся факты і змычкі некаторых партыйцаў з кулакамі. У Сакавіцкім сельсавеце, Аршанскай акрузі заможная частка вёскі ў савет высоўвала партыйца. Адразу гэта было незразумела, але пасьля высьветлілася, што гэты партыец, па вобразнаму выразу селькора, праліваў кракадзілавы сьлёзы, сумесна з заможнікамі, з прычыны самаабкладаньня.

Назіралася яшчэ некалькі прыкладаў, калі і партыйцы казалі, што ў нашых беларускіх умовах кулакоў няма. Ня варта спыняцца з абвяржэньнямі наконт гэтага. У часе перавыбараў саветаў ушчэнт разьляцеліся гэтыя погляды. Факты кулацкіх выступленьняў б'юць і па тых хто замазвае клясавую барацьбу ў нашай вёсцы.

Кулак ёсьць у нашай вёсцы і кулак незадаволены дыктатурай пралетарыяту, бо яна перашкаджае яму эксплёатаваць бедняка. У часе выбараў органаў пралетарскай дыктатуры кулак зрабіў крок да заваёвы саветаў, але ён слабы і адзінокі, таму яго выступленьні носяць не грамадзкі характар, а зьяўляюцца тэрарыстычнымі наскокамі.

Бедната-ж усе адкрытыя і замаскаваныя выступленьні кулака перамагала і абапіраючыся на серадняка абрала свае саветы—саветы батракоў, беднякоў і серадннякоў.

---

П. Я. Мядзьведзкі.

# Пра становішча калгасаў.

*(Па матар'ялах абсьледваньня Камвузаўцамі ў мінулае лета).*

1. Бурны рост калгасаў за апошні год у сувязі з узятым курсам партыі, вызначанымі рашэньнямі яе зьездаў аб неабходнасьці больш шпаркага пераробваньня сельскай гаспадаркі, абавязвае нас сёньня шчыльней падыйсьці да якаснага палепшаньня калектыўных гаспадарак, да большага забясьпячэньня адпаведных умоў разьвіцьця ўстойлівай, буйной, культурнай, сапраўды соцыялістычнай і паляпшаючай, становішча працуючых, гаспадаркі. Пачаць пакуль што прыходзіцца з вывучэньня становішча іх і толькі пасьля гэтага магчыма намеціць тыя ці іншыя мерапрыёмствы. Трэба сказаць, што тыя даныя, якія скарыстаны, ня могуць прэтэндаваць на поўнае асьвятленьне закранутых пытаньняў, з прычыны таго, што дасьледваўся толькі 31 калектыў (пераважна старэйшыя) і без дастатковага выпукліваньня паасобных пытаньняў, па-другое, што, на вялікі жаль, у большасьці камунарцелей вельмі дрэнны вучот, а ў некаторых, асабліва маленькіх, найчасьцей не вядзецца рахункаводзтва наогул, не гаворачы ўжо пра вучот сабекаштоўнасьці, ці асабовага спажываньня. Таму прыходзілася часам рабіць прыблізныя вылічэньні пры дапамозе статыстычных даных ЦСУ. Маецца на мэце зачапіць галоўным чынам пытаньні: 1) аб таварнасьці і напрамку колектываў, 2) пра капіталы, 3) аб жыльлёва-бытавых пытаньнях, 4) пра сувязі з акаляючым насельніцтвам.

### Таварнасьць.

Каб весьці больш інтэнсыўным спосабам праз павялічэньне прадукцыйнасьці працы гаспадарку, як быццам, абсалютная большасьць калгасаў зразумела. Аб гэтым гаворыць тое, што амаль усе калгасы перайшлі пераважна на васьміпольле. Пералом ужо вызначыўся. Але ўмовы, асаблівасьці раёну, калгасамі не скарыстоўваюцца, а гэта дало-б максымум разьвіцьця таварнасьці і не пакідала-б калектывы ў становішчы спажывецкіх гаспадарак. Калі ў насельніцтва з асобнай г-кай (па даных ЦСУ) за 1927 г. доля ральніцтва ў агульнай суме валавой прадукцыі ў сярэднім на гаспадарку раўняецца 47, 6 проц., а ў большасьці колектываў 40—85 проц., гэтым самым падцьвярджаецца, што нашы калгасы не выпукляюцца спэцыялізацыяй. Ніжэй паказанае дае нам некаторую характарыстыку таго, што займае галоўнае мейсца і які напрамак пакуль што трымаюць нашы калгасы.

Зямлёй, як відаць, нашы калгасы (зарганізаваныя пераважна на панскай зямлі) у адносінах да асобных гаспадарак здаволены лепш і для некаторых можна павялічваць лік сябраў. Па ўраджайнасьці калгасы значна падняліся па жыту на 25—50 проц. вышэй (за 1927 г. у сярэднім для асобнай гаспадаркі—41 п., у калгасе 50—60 п., а Новаабольская арцель нават на 95 проц.). Па аўсу і бульбе таксама вышэй:

замест сярэдняй для асобнай гаспадаркі 34 п., у Дняпроўскай камуне Гомельскай акр. ураджай аўса дае 88 п. Па бульбе так сама: замест сярэдняй—534 п. камуна „Заря“ Менскай акругі дае—1000 п. з дзес. Ёсьць, праўда, адзінкі з ніжэйшай ураджайнасьцю ў параўнаньні з навакольным насельніцтвам, напр., арцель „Гарапашнік“ (яўрэйская). У разьмеркаваньні культур, калі зрабіць параўнаньні (данныя ЦСУ) па асобнай гаспадарцы з калгасам, то апошні колькі-небудзь не выпукляецца ў належным для нас напрамку: у сялянскай гаспадарцы ў сярэднім ад усяе плошчы пахаты—жыта займае 29 проц. плошчы, авёс 12,2 проц., бульба 9,8 проц., лён 3,6 проц. У калгасе адпаведнымі будуць такія лічбы: 20 проц., 14 проц., 5 проц. і 3 проц. Як відаць, каляктывы нават адсталі ад сялян ў вырасьліваньні карнеплодаў і тэхн. культур, лён самы вялікі процант у пашні займае 4 проц. „Чырвоны барацьбіт“ Віцебскай акругі з 31 калгасу 14 зусім ня сеюць ільну, канапель. Па травасеяньню калгасы маюць большыя дасягненьні і ідуць уперадзе індывідуальных гаспадарак. У некаторых калектывах адзначаюцца недасевы, (напр., „Крапоткіна“ Гомельскі окр.) Контрактацыя пакуль зусім слаба ахапляе прадукцыю калгасаў.

*Жывёлагадоўля.* Лічбы прыбытковасьці па жывёлагадоўлі пераважна ахапляюць прыбытак ад малака, па шэрагу калгасаў відаць не залічана спажываньне самой гаспадаркай мяса, але-ж нават узяўшы калгас з больш поўным вучотам і прыблізным сапраўднасьці даным і прыняўшы пад увагу невялікі ўплыў дапаможных прадпрыемстваў на ўсю валавую прадукцыю гаспадаркі, прыходзіцца прызнаць, што калгасы нават і з большай доляй жывёлагадоўлі не паравысілі ўзроўню індывідуальнай гаспадаркі. Удзельная вага жывёлагадоўлі ва ўсёй валавой прадукцыі індывідуальнай гаспадаркі па статыстычных даведках ЦСУ роўна 40 проц. Жывёла якасна ў большасьці калектываў не здавальняюча для буйнае культурнае гаспадаркі. З 31 калгасаў толькі ў 7 адзначана налічча заводзкае рагатае жывёлы (Швіц, Яраслаўка, Сімінталь) і ў меньшасьці да простых сялянскіх, (як, напр., „Чырвоная Зорка“ Барыс. району, „Крапоткіна“ Гом. акр., „Чырвоная Зорка“ Маг. акр.). Кармленьне за некаторым выключэньнем практыкуецца бяз нормы, хлявы і дагляд дрэнны, па-сялянску. Магчыма там лепш гадуюць, дзе жывёла для гадоўлі замацоўваецца за паасобнымі сем‘ямі.

Таму і ўдоі застаюцца ў большасьці ад 3-х да 8 літраў на дзень. Імкненьне палепшыць ёсьць ва ўсіх і тут калгасы часта зварачаюцца да прыватнага рынку для закупак, а пры дрэннай якасьці жывёлы наогул, толькі павялічваецца колькасьць. Самі-ж расаднікаў, выключаючы адзінак, ня маюць. Асабліва відаць тады дрэнна з калектыўнай жывёлай, калі ёсьць прыватныя там-жа (арцель „Свабодны Труд“, Маг. акр. мае калектыўнага толькі 1 быка-вытворца, даўшага 50 р. прыбытку). Горш абстаіць справа з свінагадоўлей. У 11 калгасах адмечаны прыватныя сьвіньні, куры. Сьвіньні мейсцамі, як быццам нават стратны (Дняпроўская Камуна). Арцелі з яўрэйскімі сем‘ямі ў большасьці зусім не гадуюць сьвіней. Ёсьць частыя выпадкі, што прыходзіцца іх забіваць па нерацыянальнасьці недакормленымі. Па колькасьці зямлі шмат якім калгасам можна мець у 2 разы больш рагатай жывёлы, як у „Крапоткіне“ Гом. акр.

*Садаводзтва* займае ў некаторых калектывах галоўнае месца прыбытковасьці ў гаспадарцы (арцель „Дружба“ Маг. акр. 13000 р.) Часта відаць садаводзтва недаацэньваецца і гэтым зьмяншаецца магчымая ўдзельная вага прыбытковасьці гаспадаркі. Сады часта не агароджаны, у іх пасуць жывёлу, больш не культывіруюць („Чырвоная Зорка“, Маг. акр., „Луч Социялізму“. Мен. акр., „Новаабольская“ арц.

Віц. акр., „Крапоткіна“ Гом. акр.). Сады ў пераважнай большасьці арэндуюцца, у некаторых калляктывах яны носяць проста спажывецкі характар. Агародніцтва па ўсіх абгледжаных калгасах маюць яўна спажывецкі характар, там, дзе маюцца ў паасобку сьвіньні, там часта дапушчаецца і прыватны агарод („Свой Труд“ Маг. акр., Новааболь-ску, Віц. акр.). Як выключэньне, таварны характар агароду мае арц. „Гарапашнік“ (гуркі на 400 р.).

*Пчалярства* не ўпашане. Там, дзе вядзецца, яно часта стратнае (Антонаўка, Маг. акр.), а мейсцамі зьнішчаюцца („Чырвоная Зорка“ Менскай акр.). Разглядаючы сёньня гэтыя лічбы па ўсіх галінах і іх суадносіны паміж сабой і з сярэднімі паасобнае сялянскае гаспадаркі прыходзіцца сказаць, што гаспадарка нашага калляктыву ў сваім напрамку інтэнсіфікацыі толькі парушылася. Яшчэ пераважнае імкненьне ўсім сябе здаволіць на мейсцы, нежаданьне прыстасоўваць севазварот да прамысловай жывёлагадоўлі, ці спэцыяльным, тэхнічным культурам. Не выкарыстоўваюцца дасягненьні вопытных станцый. Тут бяда хаваецца яшчэ ў тым, што няма жывёлаводаў хоць-бы з сярэдняй адукацыяй. Але тыя ўмовы, якія ёсьць для калгасаў (колькасьць сенапашні, крэдыты), павінны былі-б даць у сучаснасьці больш, а дасягненьні зусім не здавальняючыя.

Суадносіны-ж паміж дзелямі ў прыбытку асобных галін у агульнай суме валавое прадукцыі гаспадаркі вызначаюць і таварнасьць калгасаў, і іх пераважна спажывецкі характар. Але па некаторых адзінках прыкметна тэндэнцыя прыстасаваньня да ўмоў раёну і маюцца дасягненьні, як—напрыклад арц. „Бальшавік“ Мен. акр.: 1926-27 г. было сабрана жыта—2.762 п., бульбы—.6480 п., кармавых буракоў—3.000 п. канюшыны—3.700 п., у 1927-28 г. адпаведныя лічбы—2.310 п., 7.120 п., 4.000 п., 4.600., і калі за 1926-27 год усе спажылі самі, то за 27-28 г. ёсьць збыт, хоць яшчэ і невялічкі. Таксама і ў калляктыве „Зорка“, Мен. акр.

На характар таварнасьці і сувязі з рынкам бязумоўна мае вялікі ўплыў і спосабы здавальненьня паасобных патрэб сяброў (агульн. сталоўка і ступень аграмаджанасьці). Там, дзе ёсьць свае сьвіньні, агароды, замацаваныя за сем'ямі каровы ці тэхнічныя культуры падзяляюцца на карані, там, дзе вялікі прадуктовы паёк, напр., у арцелі „Свабодны Труд“, Маг. акр., там і таварнасьць свая, не калгасная.

У нас маюцца некаторыя лічбы аб сувязі з рынкам што і каму прададзена:

| Назвы калгасаў | Каапэрат. і Дзярж. органам | Сума (у рублях) | Прыватніку | Сума (у рублях) | Агульная сума прадан. за год (у рублях) | (таварн.) % ад вал. прадукцыі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Камуна Антонаўка 1927 г. Маг. акр. . | Розныя зернeпрадукты | 2.639 | Зернeпрадукты | 1.289 | 3.928 | 25 |
| 1928 . . . . . . . | „ | 670 | „ | 334 | — | — |
| Арц. Чырвоная вёска 1927 г. Моз. акр. . | Розныя прадукты | 1.437 | Розныя прадукты | 198 | 1.635 | 15 |
| 1928 г. . . . . . . | | 2.449 | | 166 | 2.615 | — |
| Камун. Чыр. барацьб. 1927 Віц. акр. . . . | Зернeпрад. жывёла | 4.975 | Шкуры, бул. масла | 615 | 5.590 | 23 |
| Кам. Луч соцыялізму 1927 г. Мен. акр.. . | Жыта на 1.995 р., жывёлы—1.000 р., малака—1.800 р. (без падз. каму) | | | | 4.975 | 14 |
| Кам. Зорка 1927 г. Мен. акр.. . . . . | Жыта, авёс, бульба, сена (без падз. каму) | | | | 910 | 11 |
| Арцель Бальшавік 1927-28 г. Мен. акр. | Зернeпрадукты, канюшына, сена, малако | | | | 2.695 | 11,4 |

Па гэтых лічбах, праўда, нельга вывесьці поўную характарыстыку сувязі нашых калгасаў з рынкам, але яны ўсё-ж кажуць нам аб тым, што таварнасьць калгасаў не вялікая, прыкладна, такая-ж самая, як і ў паасобнай сялянскай гаспадарцы (там збыт і абмен складае 18 проц. валавое прадукцыі), па-другое, што збыт зернапрадуктаў займае значнае і не апошняе мейсца, па-трэцьце, што вялікая доля пападае ў рукі прыватніку.

На таварнасьць невялічкі ўплыў маюць дапаможныя прадпрыёмствы, але-ж калі ўхіліцца іх, дык працант таварнасьці ў адносіне да валавое прадукцыі не павялічваецца, а зьмяншаецца. З дапаможных прадпрыёмстваў больш бачым млыны вадзяныя і паравыя ўсяго 14, сыраварні—4, патачны завод, цагельні. Чысты прыбытак ад іх вельмі нязначны. У адносіне прадажы прыватніку, трэба сказаць, што з гэтае сумы значная частка ідзе навакольнаму сялянству (насеньне і г. д.). Наогул усё-ж сувязь з прыватнікам вялікая. Да гэтага 1928 г. яблыкі амаль цалкам пападалі ў рукі прыватніку, прадаліся скуры, бульба, сена, а часткаю і збожжа, малочныя прадукты. У іншых калгасах пра гэта зусім выразна кажуць, што прадаем там, дзе схадней па цане („Сваб. Труд“ Маг. акр.); прыватніку пападае таксама і тое, што застаецца ад індывідуальнага спажываньня пайка ў некаторых арцелях праз саміх сяброў (Антонаўка Маг. акр.). Ёсьць выпадкі, што каляктыў (Антонаўка) пазычае грошы ў прыватніка пад будучы ўраджай. Наогул жа хоць у большасьці колектываў падрабязных даных аб сувязі з прыватнікам і ў паасобку з каапэрацыяй няма, але яскрава вызначаецца, што ў сучасны момант найвялікшую дзель прадукцыі збываюць праз каапэрацыю, асабова з гэтага 1928 г. Лепш калгасы зьвязаны з каапэрацыяй у іншым, а менавіта: па лініі закупкі сабе рэчаў першачарговае патрэбы. Тут акром закупкі за грошы, шырока практыкуецца крэдытаваньне натураю (угнаеньне, насеньне), а пашырэньне жывёлагадоўлі выклікае патрэбу ў саміх калгасах купляць і такія прадукты, як жмыхі і г. д. Калгасы карыстаюцца палёгкамі ад спажывецкіх крэдытных сельгаспадарчых каапэрацый дастаткова.

## Аб капіталах.

Тут нас павінна цікаваць: 1) ці захоўваюцца капіталы і дзяржаўная маемасьць, 2) становішча з дапаможнымі прадпрыёмствамі і 3) характар пазыкі. Ці захоўваюцца капіталы? На гэта пытаньне пры існуючым вучоце і парадку папаўненьня маемасьці, нельга адказаць ні станоўча, ні адмоўна. Па тых даведках, якія ў нас ёсьць выходзіць, што $^{1}/_{5}$ частка калгасаў нават старэйшых зусім ня робяць адлічэньняў у непадзельны капітал, фонд ад прыбытку, а значная частка адлічвае вельмі невялікую суму (Арц. „Культура“—114 р. за год, Камуна „Інтэрнацыянал“—314 р.) і адлічэньні наогул пачаліся ў шмат якіх толькі з 1927-28 г. Калі ўзяць для прыкладу некалькі (на выбар) лічбаў і паспрабаваць зрабіць з іх вынікі, то ў захаванасьці капіталаў па некаторых каляктывах можна сумнявацца.

| Назва калгаса | Пачатковая (непадзельн.) дзярж. маёмасьць. | Лічыцца к часу, агляду крэдыту. | Запісана па кнігах маёмасьці (непадзельн.) цяпер. |
|---|---|---|---|
| Арц. „Чырвоная Зорка“ Маг. акр. | 12.429 р. | 19.357 р. | 27.725 р. |
| Кам. Антонаўка, Маг. акр. . . | 12.077 р. | 13.640 р. | 22.603 р. |

Тое-ж самае ёсьць і ў некаторых іншых, як напр., „Свой Труд“. Маг. акр., дзе ўступныя ўзносы залічваюцца ў запасны капітал. Магчыма, што тут ня ўсе сродкі пералічаны, але можна ўпэўнена сказаць, што дзяржаўная маёмасьць у вялікай частцы калгасаў не захоўваецца і падчас не скарыстоўваецца, як сьлед. Надворных будынкаў часта па колькасьці хапае, але становішча іх вельмі дрэннае. Рамонт вытвараецца пераважка нязначны і часьцей за пазычаныя сродкі (пачынка дахаў, дзьвярэй) і ня ўсімі, а ў некаторых зусім адсутнічае. Новае будаўніцтва праходзіць таксама ў нязначных памерах, напр., камуна „Антонаўка“ фактычна за доўгі час існаваньня за свае сродкі пабудавала толькі 2 невялічкіх сьвіронкі за 650 р. Будынкі ў масе сваёй патрабуюць капітальнага рамонту, а калгасы ня зьбіраюць на гэта ўласных сродкаў прыходзіцца крэдытавацца, да спэцыялістаў па рамонту ў большай частцы выпадкаў няма, прыходзіцца наймаць. Былі да гэтага часу і іншыя моманты, што затрымліваюць рамонт: арэнда ў РВК, надзея ў будучым падзяліць („Крапоткіна“), ці нават рабілі перагародкі ўнутры (Свой Труд“, Маг. акр.). З дапаможных прадпрыёмстваў, як раней аб гэтым успаміналася, маюцца больш вадзяныя і паравыя млыны. Пры гэтым выяўляецца, што прыбытак даюць пераважна вадзяныя млыны, а паравыя вельмі нязначны (як напр. за 1927 г. камуна „Чырвоны Барацьбіт“ чысты прыбытак атрымала 50 р. за год., „Чыр. Зорка“ 46 р.), а калі вылучыць дровы, сваю працу, дык можна вывесьці нават дэфіцыт. Сыраварні, цагельні па ўдзельнай вазе ў прыбытковасьці таксама вельмі слабыя. Адзначаецца мейсцамі такое зьявішча, што ў сувязі з працай млыноў, цагелен паліцца шмат камунальнае драўніны. Гэтым без вялікае карысьці зьмяншаецца лес. Пры дрэнным доглядзе часта псуюцца прылады, некаторыя не нагружаны поўнасьцю.

**Крэдыты**. 24 калгасы да моманту агляду (жнівень 28 г.) маюць запазычанасьці крэдытным установам і асобам на 158.701 р., ці ў сярэднім на 1 калгас прыпадае—6612 р. Гэта лічба, прыняўшы на ўвагу аб‘ём гаспадарак, як быццам здавальняючая. Але калі прыглядзецца да патрэб калгасаў, дык убачым, што амаль кожнаму яшчэ трэба дадатковых крэдытаў. Толькі адны бяруць з большай асьцярожнасьцю, ведаючы цяжкасьці звароту, а другія менш. Заўважана, што больш ахвочы да крэдыту старэйшыя і менш маладыя гаспадаркі, якія імкнуцца да ўнутранага накапленьня. У некалькіх калгасах („Чырвоная Зорка“, „Антонаўка“) ёсьць запазычанасьць ад 800 да 2000 р. прыватным асобам. Пазыка звычайная пападае туды, дзе ёй быць належыць і павялічвае асноўны капітал. Можна быць упэўненымі, што яна захоўваецца. Але вельмі часта пазыка скарыстоўваецца не па прызначэньню. Заміж пакупкі малатарні, на якую камуна ўзяла 1600 р., яна аддала на млын, заміж будынку—300 р. пайшло на харчы („Новы Шлях“, Маг. акр.); цяжкасьці аддачы часам прымушаюць прыбягаць да такога спосабу—гэта атрыманьне пазыкі на жывёлу, а потым гэтай жа сумай пагашаецца пазыка Белсельбанку; ці купляецца якая-небудзь рэч, а потым калі робіцца няўпраўка з грашыма яна прадаецца на пакрыцьцё запазычанасьці (прыклад арцель „Вільчэўскага“), што яўна ненармальна. Відаць, што пазыкі шмат калгасамі к тэрміну па ранейшых умовах не маглі быць аддадзены („Чыр. Зорка“, Маг. акр. пратэрмінавала 7184 р. за год).

З гэтага году стала адчувацца для кожнага калгасу магчымасьць атрымаць доўгатэрміновую пазыку і апошняе займае ўсё больш значнае мейсца сярод крэдытаў і гэтым палягчае бязумоўна пры рацыянальным яе скарыстаньні, калгасаўскі зварот. Процант пазыкі вельмі хістаецца (ад 4 да 10 проц.). Значную дапамогу калгасы атрымліваюць ад дзяр-

жавы і тым, што ў апошнім 1927-1928 г. ад іх належала с.-г. падатку ў 3-5 раз менш, чым у 1926-1927 г. (прыклад: арцель „Бальшавік“ 1926-1927 г.—1080 р., 1927-1228—206 р.).

## Жыльлёва-бытавыя ўмовы.

Таму, што было сказана раней пра будынкі наогул, пра жыльлёвыя ўмовы прыходзіцца дабавіць трохі. З 31 калгаса толькі 5 ня скардзяцца на недахоп кватэр, у аднаго з іх, як выключэньне, ёсьць імкненьне ня толькі сябе забясьпечыць, але вылучыць мейсца і дачніку („Чырв. Зор.“ Арш. акр.); усе-ж іншыя адчуваюць патрэбу. Калі яшчэ ў цяперашніх кватэрах камунарам можна як-колечы жыць, дык на будучае трэба падумаць ня проста пра рамонт, а пра будаваньне новых. У шмат якіх калгасах па аб'ёму гаспадаркі можна прыняць новых сяброў, але сур'ёзнаю перашкодаю зьяўляецца якраз жыльлёвы крызыс. У некаторых калгасах амаль палове сяброў прыходзіцца жыць пазакалгасам (арц. „Труд“, Бабр. акр.). Жыльлёвыя будынкі ў большасьці вельмі старыя, часта з дыравым дахам, гнілою стольлю, дрэннымі печамі і г. д. Яшчэ горш справа з абсталяваньнем, у сярэдзіне слаба з мэбляю. Ёсьць таксама проста папусьніцтва, бесгаспадарчасьць кіраўнікоў калгасаў нават там, дзе туга з будынкамі. З прычыны немажлівасьці своечасова падладзіць будыніны, адводзяць у жылым будынку мейсца сьвіньням, курам, трусам („Антонаўка“, Новаабольская арц., Віц. акр.). Запушчанасьць раней трымалася таму, што памяшканьні былі ў арэндзе ад РВК і калгасы ня лічылі іх сваімі. У сучасны момант, каб падправіць іх, патрабуюцца вялікія сродкі, якіх у калгасьнікаў ня маецца. Асабліва няпрыгожы выгляд маюць будынкі тады, калі ў калгасе шмат чаго не ўпарадчана (куры, сьвіньні). Тады яны абрастаюць навокала невялічкімі сьвінюшнікамі, куратнікамі. Гэта часам нагляд даецца і ў даволі пажылых камунах (Антонаўка). У другім мейсцы (арцель „Своб. Труд“, Маг. акр.), кожны сам сабе будуе хату. Пры гэтым зьявішчы калгас па выгляду нічым не адрозьніваецца ад вёскі. Добра толькі тое, што гэта ня мае масавага характару. Адным з важных фактараў у дабрабыце і пад час рашучым зьяўляецца ступень упарадкаванасьці. У нашых умовах сьвіньня павінна была-б заняць пачэснае мейсца ў жывёлагадоўлі, а выходзіць, як быццам, што сьвіньня ў калгасе толькі разводзіць сьвінства. Ну, ясна, ня жывёла вінавата, а людзі. Чамусьці у шмат каго з калгасьнікаў усё яшчэ ёсьць думка, што сьвіньню і карову можна лепш гадаваць на прыватна-ўладніцкай гаспадарцы. Надта цяжка відаць разлучыцца з прыродаю прыватніка. З 31 калгасу большасьць старэйшых яшчэ не дамаглася, каб упарадчыць сьвіней і кур (11 калгасаў), а ў двух, хоць каровы і ўпарадчаны, але дагляд і даеньне вылучана. Адсюль раздваеньне зацікаўленасьці ў гаспадарцы, раздваеньне працы, спрэчкі, сваркі, не давер'е адзін да аднаго, індывідуалізм. Гэта не дазваляе зарганізаваць агульную сталоўку, павялічвае працу ў кватэры і стварае цэлы шэраг непаразуменьняў.

Гэтым зьніжаецца зацікаўленасьць у калектыўнай гаспадарцы зьмяншаецца вытворчасьць працы кожнага, бо ня кажучы ўжо пра дзеці (сталоўка і ясьлі маюцца ў 4-х з 31 калгасу). Рэшце прыходзіцца ў кожнай кватэры паліць печ, варыць страву, даглядаць сьвіней. Гэта ёсьць нерацыянальнае скарыстоўваньне жаночае працы, ушчэрб калгасу (нявыгадная праца). У сувязі з гэтым вынікае патрэба ўжываць наёмную рабочую сілу, хоць гэта і не зьяўляецца характэрным і рашучым для ацэнкі працы калгасаў. Адзначана, што ўсе калгасы ўжываюць

наёмную сілу, адны больш стала, другія менш—сэзонна. Там, дзе рабіліся падлічэньні, у некаторых на наёмную працу выходзіла 15—20 проц. усіх працдзён па калгасу. Адзінкі-калгасы маюць штодзень 5—6 асоб („Чырв. вёска“), у год выдаткуецца на наём—2.000 р. (Арцель „Гарапашнік“), маюцца наёмныя ценгля на цагельні („Надзея“, Бабр. акр.). Часта прыходзіцца наймаць акром уборкі яшчэ на рамонт, бо каляктывы ўсе вельмі бедны на спэцыялістаў (плотнікі, кавалі, трактарысты, жывёлаводы, садаводы). Між тым сустракаецца нязвычайнае зьявішча. У 2—3 калгасах аднатавананалічча ў паасобных сяброў па 1 пастаянным батраку (арцель „Свой Труд“ Маг. акр.—2, з іх 1 партыец, арцель „Дружба“ Маг. акр. з 9 сямей—4 маюць работніц). Гэта зьвязана з парадкам разьмеркаваньня працы, прыбыткаў і формы аплаты, на чым у кароткіх рысах прыходзіцца прыпініцца. У практыцы калгасаў існуюць самыя разнастойныя формы разьмеркаваньня працы і яе аплаты. Адчуваецца арганізацыйная слабасьць калгасаў, а форма аплаты часта зьяўляецца другім пасьля аграмаджэньня рашучым фактарам у дабрабыце і вызначэньні сапраўднае каляктыўнасьці. Вызначаюцца асабліва 3 спосабы.

1. Каляктыў пры поўнай аграмаджанасьці дае з гаспадаркі дармовую па ніжэйшай норме дапамогу на дзяцей наогул не працаздольных, хворых, цяжарных (улічвае проц. непрацаздольнасьці) а рэшту здавальняе ў канцы году па выпрацаванай дзелі прыбытку—працдні з вучотам проц. працаздольнасьці. А на працягу году сябры толькі авансіруюцца мінімумам прадуктаў. На працу выходзяць па патрэбе ўсе. („Чырв. Барацьбіт“).

2. Кожнаму працаздольнаму (мужчын, жанчын) устанаўляецца заранеў плата, пры чым галава сям'і, а калі і пайшчыкі абавязкова павінныісьці на працу,—і атрымоўвае сталую падзённую ці памесячную плату, а рэштка сям'і ідуць па асабовым жаданьні і атрымоўваюць толькі падзенную плату. Прыбытак у канцы году ці разьмяркоўваецца па працднёх пайшчыку, ці зусім не разьмяркоўваецца, а за лік яго павялічваецца плата на будучы год. Пры гэтым толькі на дзяцей часам адлічваецца з гаспадаркі.

3. Гэта разьмеркаваньне працы і прыбытку па паёх. Праца абавязковая ў межах прыпаданьня на пай, з прычыны недахопу сваіх сябраў—наймаюцца. Кожны жыве сам сабе, трымае сьвіньні, часам каровы паасобку. Плата ўсім пераважна падзённа, раней устаноўлена, але дапушчаецца разьмеркаваньне працы, асабліва пры зьбіраньні хлеба на карані, дапушчаецца зьдзельшчына. Тое, што зьбіраецца паасобку, тое спажываецца таксама паасобку (канюшына, лён). Увесь прыбытак пасьля адлічэньня на падзёншчыну і на іншыя выдаткі дзеліцца па паёх (прыкл. „Своб. Труд“, „Дружба“, Маг. Акр.). Пры апошнім парадку можна на пай у 400 р. атрымаць 800 р. у год („Дружба“). Тут ужо не каапэрацыйны напрамак. Найлепшы спосаб панашаму—гэта першы, якога і трымаецца частка калгасу. Наогул-жа, хоць камунары ў большасьці і лепш забясьпечаны бывае прадуктамі, чым навакольнае насельніцтва, асабліва ў апошні год, усё-ж трэба сказаць, што аплата працы ня зусім здавальняючая. У шмат якіх каляктывах пасьля адлічэньня за паёк прадуктовы гадавы мінімум застаецца атрымаць на рукі за працдзень на кожнага ў сярэднім 15-20 кап., а на сям'ю за год выпадае 80-120 р. Гэта тлумачыцца тым, што ў нашых калгасах ня высокая вытворчасьць працы, недастаткова машынізавана праца. З 31 калгасу толькі 7 маюць трактары. Хоць у апошнія гады калгасы значна папоўніліся с-г. машынамі, але відаць што яны ня поўнасьцю выкарыстаны, часта псуюцца з прычыны нядбайнага догляду, іржавеюць

не падладжваюцца. Няма спэцыялістаў рэмантаваць іх. Магчымасьці рацыянальна скарыстоўваць машыны часам перашкаджаюць умовы райёну (поўна канаў, каменьне). Там, дзе ня ўсё аграмаджана, паасобная ўборка хлеба, там прыватніцкія элемэнты перашкоды машынізацыі.

*Быт.* Жыцьцём у масе сваёй самі калгасьнікі здаволены, асабліва там, дзе праведзена поўнае аграмаджэньне. Чуецца спайка, бадзёрасьць. Праца звычайна працягваецца 10 гадз. улетку, а калі працы шмат і больш. Не скарыстоўваецца рацыянальна пакуль што, як сьлед быць жаночая праца, вельмі часта яна займаецца тым-жа для сябе, як і сялянка на вёсцы. Вельмі дрэнна, можна сказаць у большасьці зусім не прадугледжваецца забясьпячэньне старых, цяжарных, хворых. Фонд для іх маецца ў ня многіх калгасах. Гэтым самам часам падаецца повад для непажаданых думак аб будучыне, ня ўпэўненасьці ў трываласьці каляктыўнага жыцьця. Калі-ж арганізацыя работы асабліва пры ня поўным аграмаджаньні дае магчымасьць ухіляцца некаторым ад работы, дык гэта вызывае недавер'е адзін да аднаго, гутаркі ў цішку, „на каго мы работаем“, тады і адносіны да работы, як за паншчынаю, тады і частае паглядваньне на сонца і не зацікаўленьне ў калгаснай гаспадарцы. Кліматычныя ўмовы прымушаюць часта адмаўляцца ад чарговага дню адпачынку без замены бліжэйшым днём. Гэтая беспэрспэктыўнасьць таксама зьмяншае інтэнсыўнасьць працы на працягу занятых дзён і гэта шмат якімі кіраўнікамі ня ўлічваецца. Каляктыў вельмі хутка прывучае паважаць адзін аднаго. Мацяршчына, п'янства, бойкі яшчэ сустракаюцца ў быту, але рэдка. Сваркі бываюць часта ў некаторых каляктывах паміж жанчынамі на глебе разьмеркаваньня прадуктаў, воўны, ільну, за дзеці, за сьвіньні, часта выплывае зайздрасьць да мужыкоў. Выконваць абрады відаць шпарчэй адмаўляюцца, чым у вёсцы, хоць некаторыя дзе-ні-дзе маюць абразы, а ў яўрэяў малюнкі равінаў, замест правадыроў рэвалюцыі (арц. „Гарапашнік“). Вельмі рэлігійны, баючыся каляктыўнага гневу, каб зрабіць свае рэлігійныя справы просіцца пайсьці да доктара. Горш справа з пісьменнасьцю і культурнасьцю. Дзеці маюць добрыя ўмовы для наведваньня школ. Але вызначаецца ў шмат якіх калгасах яшчэ вялікі лік няпісьменных, з прычыны далёкае адлегласьці лікпунктаў, ці па слабасьці націску („Чырв. вёска“) з 125 душ—38 дарослых няпісьменныя). У 4-х калгасах няма нават чырвоных куткоў, часта на культпатрэбы ня вылічваюцца сродкі. Газэты, калі выпісваюцца, дык менш чытаюцца, а ідуць на курэньне. Бібліятэчкі не папаўняюцца новымі кніжкамі. Такое дасягненьне тэхнікі, як радыё зусім (па 31 калгасу) не выкарыстоўваецца. Па падліку ў адным каляктыве ў камунара падаткаў на культпатрэбы, на паперу, кніжкі выходзіць 2 руб., а на газэты—9 р. 70 к.—гэта значыць амаль у 5 разоў больш. З надворнага боку тое, што кідаецца ў вочы і ў чым часта калгасьнікі ўступаюць і асобным гаспадаром, гэта не падтрымліваньне надворнае прыгожасьці і санітарнасьці. Пападаюцца часта на вока невялічкія гнілыя будынкі, якія можна было-б даўно ці разабраць на дровы, ці выкарыстаць на рамонт, шмат сьмецьця, хламу каля хат. Паркі, калі дзе ёсьць, ня рэдка не культывуюцца, запушчаюцца, няма сьметнікаў, дрэнныя студні і характэрная рэч, у значным ліку калгасаў няма прыбіральных, а калі і ёсьць, дык у іх не карыстаюцца, а ідуць у кусты дзе.

Сацыяльны склад калгасьнікаў наогул добры, большасьць беднякоў, батракоў. Беднякі, уступіўшы ў калгас, таксама паступова адмаўляюцца ад прыватнасьці. Ёсьць выпадкі, калі 1—2 сябры сям'і ў калгасе, а рэшта сям'і ў вёсцы, тады доўга падтрымліваецца сувязь з вёскай, каляктывіст часта выпівае за сваю пазастаўшую ў вёсцы

дзель. У 3-х калгасах адзначана некаторая колькасьць сярод сяброў з людзей так званых свабодных прафэсый, частка якіх, бязумоўна, да калгасу займалася гандлярствам, ёсьць б. настаўнік („Чырв. Зорка", Бар. р. „Эрд", Бабр. акр., „Гарапашнік", Мен. акр.). Зразумела, што такія сябры пападаюць і ў кіруючыя органы калгасу (старшыня арцелі „Чырв. Зорка"—б. гандляр). Вялікаю хваробаю ў некаторых калгасах ёсьць сямейнасьць, сваяцкія групоўкі („Антонаўка", „Дняпроўская", „Культура"). Пры гэтым вядзецца захаваная а то і яўная, арганізаваная барацьба за мейсцы, у праўленьні, патураньне сваякамі, драпежніцтва, безадказнасьці, нежаданьне вясьці вучот, імкненьне замкнуцца і абмежаваць прыём новых. У камуне „Антонаўка" гэта носіць назву Ласёўшчына. Трохі інакшая сямейнасьць выяўляецца, калі ў калгасе мала сем'яў, напр., 7 і з іх 6 чал. знаходзяцца ў кіруючых органах, і палова іхныя сваякі. Тады, як быццам не патрэбна зусім вясьці рахункаводцтва і яно не вядзецца, усё па сямейнаму вырашаецца, а рана ці позна прыводзіць да непаразуменьняў. Ці бываюць такія факты, што старшыня праўленьня даручае жонцы выдаваць прадукты, а гэта вядзе да спрэчак паміж кабетамі. У зьвязку з гэтым маецца ў некаторых даволі значная цякучасьць (па 4—5 сямей прыбываюць і ўбываюць за год). („Дняпроўская", „Калініна", Чырв. Зорка"). Асабліва няўседлівымі зьяўляюцца адзінкі, якія пры лепшых умовах зьбягаюць у горад. Тэндэнцыі-ж, да завядзеньня сваёй гаспадаркі—чыста прыватніцкія сярод масы калгасьнікаў—нязначныя, і выяўляюцца там, дзе дрэнная арганізацыя працы і кіраўніцтва („Своб. Труд", „Днепр,". „Чырв. Зор."). Імкненьне да прыватнасьці можна бачыць на такім прыкладу, што колькі маецца сем'яў столькі стараюцца дастаць і камплектаў дробных с.-г. прыладаў. Лепш уплыў калгаснае жыцьцё пры добрай выхаваўчай працы мае на падросткаў, ужо наглядаюцца выпадкі, што дзяўчаты-калгасьніцы ня хочуць ісьці замуж на хутар.

## Сувязь з навакольным насельніцтвам.

За апошнія гады значна зьмяніліся адносіны сялян да калгасу. Калі раней мейсцамі наглядаліся выпадкі, што сяляне ішлі ў камуну з надзеяй у будучым падзяліць зямлю, і часам шкодзілі, то ў сучасны момант ідуць жыць. Там, дзе калгасьнікі паказваюць, што ў калгасе можна лепш жыць, падаецца шмат заяў (за паўгода 30—50 заяў). Наогул жа ўзаемаадносіны з калгасам устанаўляюцца добрыя, канфлікты вельмі рэдкі. Праяўляюцца яны на глебе патраў, зямельнае цеснаты ў сялян, ці выпасу. Часам, што зусім ненармальна, дапушчаецца здача сенажаці на адработак, там, дзе дрэнна вядзецца гаспадарка (ніж. урадж.) ідуць гутаркі сярод сялян, што лепш было-б зямлю падзяляць („Чырв. Зор."). Няўважлівыя адносіны да калгасу наглядаюцца тады, калі камуна не запасіць хлеба і потым карыстаецца з патрабілаўкі, калі паасобныя сябры збываюць лішкі ад пайка па рынечнай цане. Абсалютная большасьць калгасаў падаюць навакольнаму насельніцтву дапамогу бедняком (насеньнем, сартыроўкай, злучка жывёлы, гаспадарчымі прыладамі, нават дармова) чым павышаюць свой аўтарытэт. У гэтым заслуга калгасаў. Іншая справа, што некаторыя проста ня могуць гэтага рабіць, а самі патрабуюць дапамогі. Вось прыклады дапамогі. Арцель „Бальшавік" за 1 год ачысьціла 300 п. сялянскага жыта праз свае машыны, абмяняла 500 п. і дала беззваротна на 70 р. збожжа. Абслугавана быком 80 кар., пры гэтым беднаце дармова. Камуна „Луч сацыялізму" ачысьціла 200 п. збожжа дармова, злучана звыш 50 гал. жывёлы беднаце нават са скідкай на 50 проц., даецца

дробны інвентар, беднаце дармова. Арц. „Культура“ абменяла 183 п. насеньня, давала дробны с.-г. інвэнтар, 15 падвод на перавозку будынкаў бедняком, абмалаціла некалькім сваімі машынамі ўраджай і г. д. Слабы, а ў некатарых адсутнічае ўплыў з другога боку, гэта маральны (ідэйны) на пераробваньне с/гаспадаркі індывідуальнай у колектыўную.

Па-першае. Слабы ўдзел у грамадзкіх арганізацыях, палова агледжаных калгасаў зусім ня ўдзельнічае ў с/с праз прадстаўнікоў, справаздачы ў с/с перад насельніцтвам рэдкае зьявішча; зусім невялічкі ўдзел прымаюць у такіх грамадзкіх арганізацыях, як МОПР, ТСААвіяхім. Больш удзельнічаюць у розных відах каапэрацыі, але, як выключэньне, маецца і тое, што з 7 сем‘яў пайшчыкам лічацца толькі адзін („Сваб. труд“, Бабр. акр.). Некаторыя-ж калгасы становяцца цэнтрам усёй грамадзкай працы па с/с. („Чырв. Барац.“, Віц. акр.).

Па-другое, пасыўныя адносіны і незацікаўленасьць насельніцтва да каляктывізацыі, пасыўнасьць калгасаў па арганізацыі новых. Добра было-б папулярызаваць каляктыўную гаспадарку наглядна праз вучэбных рассаднікаў жывёлы, чаго ў большасьці калгасаў няма, але-ж галоўная бяда ў працы гэта адсутнасьць сярод калгасьнікаў на мейсцы дастаткова кваліфікаваных, добра пісьменных каляктывістаў. Зусім няма камунараў з сярэдняй с/г падрыхтоўкай. Парт‘ячэйкі ёсьць толькі пры невялічкай частцы калгасаў. Шмат іх ня маюць ні воднага партыйца і камсамольца („Чырв. зор.“, Арш. акр., „Новаабольская“, Віц. акр., „Труд“, Бабр. акр.). А там, дзе маюцца, дык 1—2 партыйцы, а то і палова (канд.). Партыйцы не заўсёды вышэй па культурным узроўню за рэшту камунараў. Масавай працы ячэйкі дастаткова не разгортваюць.

Аграномы наведваюцца мала, часта закладуць вучастак, а потым ня цікавяцца,—бывае проста заяжджае ў канцылярыю, ці толькі на масла („Чырв. Барац.“, Віц. акр.), а ў поле і хлеў ня зірне. Інструктары па калгасах таксама прыяжджаюць часта на некалькі гадзін, ці на перавыбары 1—2 разы ў год, быў у адным мейсцы выпадак, што прыехаў на час, склаў камісію па ліквідацыі арцелі і паехаў, а арцель і цяпер існуе (Вільчэўскага). Нарады калгасьнікаў былі толькі ў 3-х раёнах і ў адным вынікам іх наладзілі спаборніцтвы калгасаў. Групавыя аб‘яднаньні калгасаў толькі пачалі ўзьнікаць.

На гэтым можна скончыць з фактамі. Пералічэньне іх, якое тут было зроблена, ставіла мэты паказаць тую рознастойнасьць умоў разьвіцьця, хваробы, дасягненьне, якія маюцца ў жыцьці па частцы нашых калгасаў. Тут менш гаварылася пра дасягненьні ў паасобных каляктывах, яны толькі мімаходзь чапаліся. Асаблівага выяўленьня нельга было разгарнуць, але і з гэтых фактаў відаць масавае захапленьне каляктывізацыяй. Умовы для існаваньня калгасу ёсьць. Дзеля пасьпяховага і больш пасьлядоўнага правядзеньня каляктывізацыі трэба перамагчы цэлы шэраг перашкод і галоўныя з іх гэта тэхнічная і культурная адсталасьць. Тут таксама няма патрэбы спыняцца на агульных мерапрыемствах па сельскай гаспадарцы. Аб іх шмат гаварылася на зьездах самых калгасаў. Падагульваючы ўсё, трэба падкрэсьліць некалькі кароткіх думак, якія вынікаюць з агляду калгасаў.

Аб напрамку нашай беларускае каляктыўнае гаспадаркі. Асобныя калгасы, як раней было паказана, маюць значныя дасягненьні па ўраджайнасьці наўпроць сялянства. Але-ж ральніцтва, севазварот у нас па асаблівасьці райёну, як аб гэтым гаворыць аграномія, павінны быць прыстасаваны для жывёлагадоўлі (спэцыялізацыя), а з гэтым зьвязана і таварнасьць. Вось гэтага ў большасьці калгасаў няма, хоць і маюцца на тое спрыяючыя ўмовы, і гэтага трэба будзе дамагацца праз лепшае

скарыстаньне агранамічных сіл, вопытных станцый, арганізацыі рассаднікаў жывёлагадоўлі. Без палепшаньня якасьці—дрэнная жывёлагадоўля, карова з 3-мя літрамі малака не карова (а толькі быдла на Віцебшчыне). Трэба паклапаціцца аб падрыхтоўцы сярэдняй кваліфікацыі жывёлаводаў. Значнае мейсца павінна ўзяць у нас і асабова ў калгасе садаводзтва, агародніцтва, хоць бы капуста і разьвядзеньне тэхнічных культур.

Каб калактыў быў больш пасьлядоўны, мы павінны дамагацца праз усе арганізацыйныя і гаспадарчыя сродкі найбольш хуткага грамаджэньня усіх сродкаў вытворчасьці, упарадчаньня ўсяе жывёлы да курыцы ўключна, бязумоўна прарабіўшы зараней матар'яльную і маральную (ідэйную) падрыхтоўку.

Што тут не такою ўжо вялікаю перашкодаю зьяўляецца прырода прыватніка, аб гэтым нам вядомы выпадкі пераходу ў гэтым годзе, дзякуючы падрыхтоўцы, зразу да поўнага грамаджэньня. Гэта дае магчымасьць лепш скарыстаць жаночую працу, пазбавіцца няладаў, сваркі, павысіць прадукцыйнасьць працы, уцягнуць кожнага ў калактыўную гаспадарку, зьліквідаваць індывідуалізм. Прыходзіцца весьці барацьбу ў калактыве супроць імкненьня замыкацца ў паасобныя сваяцкія утварэньнем групоўкі, супроць усіх ненармальнасьцяй на гэтай глебе.

Побач з тым неабходна нарміраваць адлічэньні ад прыбытку ў непадзельны капітал, вызначыць матар'яльную адказнасьць выбываючых з калактыву і наглядаць за выкананьнем статуту (ёсьць выпадкі, што жывуць зусім без статуту).

Акром грамаджэньня, на павялічэньне прадукцыйнасьці працы, як раней успаміналася, мае часам рашучы ўплыў форма аплаты і зьвязаная з гэтым зацікаўленасьць да працы. Тут заўважваецца рознастайнасьць, самастойнасьць у калгасах. Неабходна арганізацыйная дапамога ў гэтай галіне (тыпізацыя). Раней устаноўленая падзённая ці памесячная недастаткова дыфэрэнцыраваная плата, што часта сустракаецца—ёсьць нездавальняючаю формаю. Тым больш нявыгодна з падзелам працы і аплатай па паёх, як і з выдачаю дармовага пайка працаздольным за кошт гаспадаркі. Неабходна дапамагчы ў арганізацыі забясьпекі непрацаздольных асабліва старых. Пашырэньне-ж машынаапрацоўкі, упарадкаваньне рабочае сілы, не парушаючы адпачынку, і акром прыёму новых пры магчымасьці, дае сродкі для пазбаўленьня ад сталага найму. Недапушчальнае зьявішча—наём паасобнымі сябрамі батракоў, здача сенажаці. Наём рабочае сілы павінен узгадняцца з мясцовымі камітэтамі рабземлесу.

Жыльлёвы крызыс магчыма зьліквідаваць толькі пры доўгатэрміновым крэдытаваньні і пры адначасовым удзеле (тыпы, матар'ялы) і кіраўніцтве па жыльлёвым будаўніцтву дзяржаўных органаў. За захаваньнем дзяржмаемасьці і скарыстаньнем крэдытаў павінен быць большы нагляд. Дробны і сярэдні рамонт у калгасах павінен прадугледжвацца і выконвацца сродкамі саміх калгасаў.

У сувязі з патрэбнасьцю па жывёлагадоўлі, абслугоўваньню і рамонту машын (трактараў), жыльлёвым будаўніцтву і г. д. востра стаіць пытаньне аб падрыхтоўцы сярэдня кваліфікаваных сіл праз школы, курсы (хоць-бы па прыкладу торпараспрацоўкі ці нават фабзавуча). Гэта дасьць магчымасьць і лепш скарыстаць зімовыя часы. Адначасова неабходна, як для самых калгасаў, так і для ўплыву на масу сялян, узмоцнены выпуск адукаваных калгасьнікаў арганізатараў (хоць-бы праз партшколы),

Рацыянальнае скарыстаньне складаных машын, падсобных прадпрыёмстваў, разьвіцьцё жывёл і ўплыў на навакольнае насельніцтва цесна зьвязаны з неабходнасьцю арганізацыі працы куставых аб'яднаньняў (калі даступна па сумежнасьці).

Выпрацаваць больш лёгкія формы рахункаводзтва, вучоту і арганізацыйным парадкам забясьпечыць вядзеньне яго.

Дамагацца дагаворнасьці паміж калгасамі і зьвеньнямі каапэрацыі аб збыту і снабжэньні прадуктамі, як ад калгасу, так і для калгасу. Недапушчаць збыт прыватнікам.

Праца, якая разгортваецца цяпер унутры калгасаў, якая патрэбна ім дзеля ўтварэньня і разьвіцьця сапраўды сацыялістычнае гаспадаркі, выклікае, само сабою зразумела, падвышэньне культработы, уцягваньне калгасьнікаў у савецкія і грамадзкія арганізацыі, уцягваньне жанчын у барацьбу за добрабыт і асабліва ўзмацненьне і павышэньне ўплыву і кіраўніцтва з боку партячэек. Апошняга не стае ня толькі з прычыны невялікае колькасьці ці адсутнасьці партыйцаў у калгасах, але часта і па няўважлівых адносінах райкомаў партыі да калгасаў. Разам з гэтым пажадана было-б, каб часьцей высьвятляліся хваробы і дасягненьні паасобных калгасаў праз друк і было-б пашырана выданьне літаратуры для гэтага вельмі важнага нам вучастку працы.

---

Матар'ялы для гэтага артыкулу скарыстаны на наступных калгасах: 1. Камуна—„Зьвязда", „Луч Сацыялізму", „Інтэрнацыянал", „Зара"—Менскае акругі, „Бухарына"—Пралетарская № 2 (Антонаўка), „Чырвоная Зорка"—Магілеўскае акругі, „імя Сталіна"—Менскай акр., „Дняпроўск", „Крапоткіна"—Гомельскае акр., „Чырвоны барацьбіт"—Віцебскае акр. 2. Арцеляй—„імя Калініна", „Чырвоная вёска"—Мазырскай акр., „Культура", „Дружба", „Гусьлішча", „Новы шлях", „Свабодны труд"—Магілеўскай акр., „Бальшавік", „Імя К. Маркса", „Гарапашнік", „Чырвоная Зорка", „Імя Вільчэўскага"—Менскай акр., „Свабодны труд", „Колас", „Труд", „Імя К. Маркса", „Эрд", „Надзея",—Бабруйскай акр., „Новаабольская"—Віцебскай акругі, „Новая Зорка"—Полацкай акругі, „Чырвоная Зорка"—Аршанскай акругі—усяго 31 калгас.

Матар'ялы пададзены студэнтамі Камунівэрсытэту Беларусі.

---

М. Плучык.

# Рост ЛКСМ у вёсцы і яго рэгуляваньне.

Пры бурным узросьце ЛКСМБ за апошнія гады як у горадзе, так асабліва ў вёсцы, ня ўнікнены былі выпадкі выкрыўленьняў лініі Саюзу ў пытаньнях прыёму ў КСМ і рэгуляваньня яго сацыяльнага складу.

Факты падцьвярджаюць, што паасобныя нізавыя арганізацыі ня зусім правільна падыходзілі да пытаньня ўзросту за лік „лепшага серадняка“. Кваліфікацыя „лепшы“ акрэсьлялася прыкладнасьцю яго гаспадаркі, а ў той-жа самы час адсоўваўся на задні плян момант яго непасрэднага ўдзелу і дапамогі партыі Саюзу ўва ўсіх праводзімых мерапрыемствах у Саюзе з батраком і бедняком. Як вынік пад маркай „лепшага серадняка“ пралазілі ў Саюз зусім варожыя нам элемэнты заможна-кулацкай часткі сялянскае моладзі.

Усе гэтыя моманты гавораць аб тым, што вельмі цяжка рабіць якія-небудзь правільныя вывады аб клясавым твару нашай вясковай часткі камсамольскае арганізацыі, таму і паўзята было абсьледаваньне сацыяльнага складу Коханаўскае раённае арганізацыі Аршаншчыны, якое дало магчымасьць больш ці меньш правільна меркаваць аб сацыяльным складзе вясковае часткі камсамолу.

Шпаркі рост ЛКСМБ, які йшоў да 1926 году, значна стаў зьніжацца ў апошнія гады, да поўнага зьнішчэньня прыросту к канцу 1927 і пачатку 1928 г. (ад 84 проц. прыросту ў 1925 г. да 6 проц. у першай палове 1928 г.).

Скарачэньне тэмпу роста тлумачыцца з аднаго боку слабой работаю нашых арганізацый па ўцягненьню новых сяброў у Саюз, з другога—узрастаючай цякучасьцю, галоўным чынам, вясковае часткі нашае арганізацыі.

Хаця цякучасьць нашае арганізацыі ідзе за лік адходу няўстойлівых элементаў, выключэньня з Саюзу варожых нам элементаў і „мертвых душ“, як паказала апошняя праверка складу арганізацыі, але ўсё-ж такі гэта ставіць нас перад фактам колькаснага памяншэньня сваіх сіл у першую чаргу на вёсцы.

Было-б правільным, калі-б за лік адыходзячых ад Саюзу няўстойлівых і варожых нам людзей, Саюз перанёс-бы цэнтр цяжкасьці свае работы на павялічэньне сваіх радоў за лік рабоча-батрацкае моладзі, а тым часам выходзіць наадварот; тэмп прыросту за лік рабочых, за выключэньнем апошніх двух кварталаў 1928 году ідзе да зьніжэньня (за 1925 год тэмп прыросту раўняўся 46 проц.; 1926 г.—32 проц., 1927 г.—25 проц.[1]).

Сацыяльны склад на 1-е ліпеня 1928 г., калі параўнаць з 1927 г., дае стабілізацыю проценту рабочых і некаторае павялічэньне батракоў і беднякоў у Саюзе за кошт іншых сацыяльных праслоек. Аднак, здаволіцца

[1]) Некаторае павышэньне тэмпу прыросту за лік і рабочых і батракоў за першую палову 1928 г. тлумачыцца праведзенай кампаніяй на вярбоўцы ў саюз у зьвязку з МЮД'ам.

існуючым становішчам, што процант батрацкай моладзі ў выніку росту Саюзу стабілізаваны ці трохі павышаецца (на 0,7), нельга і толькі таму, што гэта ідзе ў разрэз з пастановай зьезду камсамолу і 14 парт. зьезду, якая кажа, што лінія ўзросту КСМ павінна быць наступнай: „імкнуцца да поўнага ахопу саюзам батрацкае моладзі"... а ў ЛКСМБ выходзіць, што за $2^1/_2$ гады (з студзеня 26 г. да 1-га ліпеня 28 г.) пры абсалютным росьце батракоў у арганізацыі ўдзельная вага іх не павялічылася ні на водзін процант (наадварот паменшылася на 0,3). Такое-ж самае становішча з батракамі ў росьце Саюзу па гадох, дзе за выключэньнем апошняга паўгодзьдзя процант батракоў у росьце не дасягае агульнага свайго проценту ў арганізацыі, а ў росьце за 1927 г. толькі крыху пералез за палову свайго проценту.

Ня лепш справа з ростам за лік батрацкае моладзі па асобных акругах, таксама і па абсьледаванаму раёну, у якім процант батрацкае моладзі ў росьце не дасягае свайго проценту ў арганізацыі.

Гэта падцьвярджаецца тым, што ў шэрагу сельскіх саветаў, напрыклад, Коханаўскага раёну зусім няма батрацкае моладзі ў ячэйках Камсамолу пры тым становішчы, калі амаль што на чале ўсіх батрачкомаў стаяць камсамольцы і кіруюць гэтаю работаю.

Характэрным момантам у рабоце сярод батрацтва ў ячэйках Камсамолу па Коханаўскаму раёну будзе тое, што гэтай работай (нагрузкай) кіруюць у большасьці сваёй серадняцкая і заможна-серадняцкая частка камсамольскіх ячэек.

Адгэтуль і паслабленьне ўвагі да палепшаньня работы сярод батрацкае моладзі, што падтрымоўваецца думкаю адсутнічаньня базы росту, а ў некаторых выпадках „некага больш ахапіць"; тымчасам факты і гутаркі з паасобнымі работнікамі і камсамольцамі гавораць зусім ня тое: „У нас ёсьць шмат батрацкае моладзі, а каб уцягнуць яе—мы мала што зрабілі. Заслаба камсамольскія ячэйкі разгарнулі сярод іх работу. Вельмі рэдка мы ставілі пытаньне аб камсамолу на сходах батрацкае моладзі, батрацкая моладзь за малым ня ведае што такое камсамол".

У некаторых ячэйкай ёсьць нават боязкасьць расьці за лік батрацкае і бядняцкае моладзі і тым самым, гэтыя групы моладзі выпадаюць з вока асабліва ў тых ячэйках, дзе пераважвае серадняцкі склад і актыў, у якіх слабасьць работы па ўцягненьню батракоў і беднякоў у Саюз вызначаецца тым, што:

> „Беднякоў і батракоў у нас мала і каго тут уцягнуць, што ты з імі зробіш, калі поўна хто з іх няпісьменныя, неразьвітыя і ніякай нагрузкі несьці ня могуць".

Такая-ж самая думка падтрымоўваецца яшчэ поўна якімі камсамольцамі нават і ў адносінах тэй часткі батрацкае і бядняцкае моладзі, якая ўжо лічыцца ў саюзе, але ня вядзе актыўнае работы:

> „Вось, цікава, як бедняк—дык і ня цікавіцца ячэйкай, хаця ён і стары камсамолец. Сходы рэдка наведвае, (праўда, яму аднаму цяжка ўправіцца на гаспадарцы, таму што на яго галаве ўсё), тым самым ён і адрываецца—а серадняк, наадварот, цікавіцца ячэйкай, ходзіць, і актыўны".

Усё гэта гаворыць пра адсутнічаньне належнае культурна-масавае і эканамічнае работы сярод батрацкае і бедняцкае моладзі і неразуменьне камсамольцамі пытаньня работы сярод батрацкае і бядняцкае моладзі, як цэнтральнае задачы Саюзу.

Цэлы шэраг фактаў могуць падцьвердзіць адсутнічаньне ўсьведамленьня камсамольскаю арганізацыяю сутнасьці клясавае барацьбы ў вёсцы, індывідуальнага адбору пралетарскай і поўпралетарскае часткі

ў Саюз, як грунтоўны момант пры росьце Саюзу і яго рэгуляваньні, адсюль выкрыўленьне, а часам нават ігнараваньне правільнае лініі росту Саюзу:

„Шыбецкая ячэйка прыняла ў камсамол Куліка А., як актыўнага таварыша які наведвае акуратна сходы, разьвітага (сябра МОПР'у і каапэрацыі), які мае 9 дзесяцін зямлі, 3 дзесяціны сенажаці, 5 кароў і 3 коняй, плаціць 500 руб. падатку, а другога Дудчыка прыняць у камсамол устрымаліся толькі таму, што ён добра ня ведае статуту камсамолу (мае 1 каня, 1 карову, 8 едакоў, 5 дзесяцін зямлі). „Фэльдман—сэкратар Холацкае ячэйкі прыняў папову дачку настаўніцу ў комсамол, знарок схаваўшы ад райкому сацыяльнае становішча яе, а райком яму за гэта ніякага саюзнага ўзысканьня не назначыў".

У шэрагу ячэек мала ўлічваецца сацыяльнае становішча паступаючых (Васілевічы і Сьвецк) выносячы пры прыёму пастановы наступнага зьместу: „Слухалі. Заява аб прыёму ў камсамол. Ухвалілі: у віду таго, што ён селянін—зацьвердзіць".

Карыстаючыся вось гэтым незразуменьнем, слабасьцю работы ячэек, у саюз папралазілі зусім варожыя нам элементы часам падгібаючы сабе кіраўніцтва ўсёю работаю.

„У Аленавіцкай камсамольскай ячэйцы была адна камсамолка Антрашкевіч—кулачка, яе, праўда, выключылі з камсамолу за тое, што яна была супроць ячэйкі пры вынясеньні пастановы пра купляньне сялянскае пазыкі. Характарна тое, што яна на сходах свае вёскі прапанавала сялянам галасаваць супроць мерапрыемстваў партыі і ўлады па самаабкладаньню і г. д., папярэджваючы іх, што яна на агульным сходзе сельсавету будзе галасаваць за гэтае толькі таму, што яна камсамолка, бо інакш яе выключылі-б з камсамолу".

Пададзеныя зьвесткі аб сацыяльным складзе арганізацыі, аб росьце Саюзу, яго рэгуляваньня, узятыя з агульных статыстычных справаздач АК, адзначаюць у групе сялян толькі беднякоў і серадcaptioned nякоў, пры тым становішчы, калі паказаныя факты гавораць нам, што адначасова мы маем у складзе сялян і іншыя праслойкі, што і падцьвярджаюць вынікі абсьледаваньня сацыяльнага складу Коханаўскае арганізацыі.

Карыстаючыся матар'яламі па вызначэньню сацыяльнага складу вёскі, матар'яламі праведзенага агляду соцыяльна-эканамічнай моцнасьці сельскае гаспадаркі па Слуцкаму райёну, разьмяркоўвалі абсьледваных камсамольцаў па іх сацыяльна-маемасным становішчы.

Вынікам чаго атрымалі, што беднякі ў складзе абсьледваных складаюць усяго $^{1}/_{6}$ часткі ўсяго сялянскага складу, а калі-б да іх дадаць яшчэ камсамольцаў з ніжэй-серадняцкаю гаспадаркаю, дык у агульнай суме гэта складзе 34,2 проц., што калі параўнаць з быўшым процантам беднякоў гэтых самых абсьледаваных ячэек КСМ дае памяншэньне на 34,1.

Камсамольцы з серадняцкай гаспадаркай займаюць 49,3 проц., што дае павялічэньне ў параўнаньні з весткамі РК на 23,1 і ўрэшце, камсамольцы з вышэй серадняцкай гаспадаркай і моцнай, якія зусім ня ўлічваюцца камсамольскімі ячэйкамі і РК, складаюць 16,5 проц.

Прагледзім кожную групоўку сацыяльнага складу па азначэньню ячэек КСМ з іх маемасным становішчам.

1. У складзе батракоў маем 27,3 проц. серадняков і ніводнага батрака.

2. У складзе беднякоў маем камсамольцаў з вышэй серадняцкай і серадняцкай гаспадаркай 57,4 проц.

3. У складзе сераднякоў камсамольцы складаюць усяго 50 проц., тым часам, калі другую палову займаюць камсамольцы з вышэй серадняцкай і моцнай гаспадаркай.

Вось наглядны малюнак падыходу камсамольскіх ячэек да вызначэньня сацыяльнага складу камсамольцаў-сялян.

Цікава параўнаць весткі аб сацыяльным становішчы ўсяе камсамольскае арганізацыі Беларусі з матар'яламі абсьледаваньня.

| Па матар'ялах | Бедн. | Н. Серад. гасп. | Серадн. гасп. | В. Серадн. гаспад. | Моцнай гаспадаркай |
|---|---|---|---|---|---|
| Статсправ. АК усяго па БССР . . . . . | 70,2 | — | 29,8 | — | — |
| Абсьледаваньня Коханаўск. РК. . . . | 15,2 | 19,0 | 49,3 | 14,4 | 2,1 |

Тут малюнак трохі мяняецца ў бок большага павялічэньня беднякоў на 36 проц. і павялічэньня сераднякоў на 19,5 проц., а процант камсамольцаў з вышэй-серадняцкай і моцнай не зьмяняецца.

Тыповасьць атрыманых вестак аб маемасным становішчы камсамольцаў-сялян падцьвярджаецца тым, што няма вялікіх разыходжаньняў між весткамі па БССР і па матар'ялах РК, а таксама магчыма гэта праверыць з матар'ялamі ЦКК КПБ, дзе пасьля праведзенага абсьледаваньня 3-х сёл Слуцкага раёну аказалася:

| Па матар'ялах | Бедн. | Н. Серад. гасп. | Серадн. гасп. | В. Серадн. гасп. | Моцнай гаспадаркай |
|---|---|---|---|---|---|
| ЦК КПБ . . . . . | 14,99 | 20,15 | 46,44 | 14,74 | 3,68 |
| ЦК ЛКСМБ . . . . | 15,2 | 19,0 | 49,3 | 14,4 | 2,1 |

Атрымоўваюцца нязначныя зьмены ў бок павялічэньня беднякоў серадняков у матар'ялах ЦК ЛКСМБ за лік памяншэньня камсамольцаў з вышэй-серадняцкай і моцнай гаспадаркай.

Такім чынам, можна зрабіць вывад, што, калі выбарчы матар'ял па Коханаўскаму раёну хібіць, дык толькі ў бок пераўвялічэньня ліку камсамольцаў беднякоў і камсамольцаў з ніжэй-серадняцкаю гаспадаркаю, але зусім не пераўменшвае іх.

Адсутнічаньне правільнае лініі росту ў камсамольскіх ячэйках апошні раз даводзіцца матар'ялamі, дзе прынятыя ў саюз за 1927 і 1928 г. г. разьмяркоўваюцца па сацыяльна-эканамічных групах моцнасьці сялянскіх гаспадарак.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Батракі . . | 6 | 3 | — | 3 | — | — |
| %% . . | 100,0 | 50,0 | — | 50,0 | — | — |
| Беднякі . . | 59 | 6 | 18 | 30 | 4 | 1 |
| %% . . | 100,0 | 10,2 | 30,5 | 50,8 | 6,8 | 1,7 |

У складзе прынятых у саюз серадняцкая моладзь займае больш за палову (51,6 проц.), а сялянская моладзь з вышэй-серадняцкаю гаспадаркаю, якая фактычна ёсьць верхавінкаю сераднякоў, складае 17,6 проц.

Такім чынам, на долю сялянскае моладзі з бядняцкай і ніжэй-серадняцкай гаспадаркай падае ўсяго толькі 31,8 проц. Ці правільна падыходзілі камсамольскія ячэйкі да вызначэньня сацыяльнага становішча прынятых у саюз? Не, няправільна, бо былі выпадкі, калі камсамольскія ячэйкі, прымаючы ў Саюз 6 батракоў, у ліку іх прымаюць сялян з серадняцкай гаспадаркай на 50 проц., ці прымаюць беднякоў, сярод іх аказваецца беднякоў усяго 40,7 проц., а рэшта серднякі (50,8 проц.) і камсамольцы з вышэй-серадняцкай і моцнай гаспадаркай (8,5 проц.) і, урэшце, прымаюць тых ці іншых таварышоў, як сераднякоў, а яны аказваюцца звышсераднякамі і нават больш на 42,4 проц. *Адгэтуль наглядна відаць, як ёмка варожная частка сялянскае моладзі, маскіруючыся пад сераднякоў ці нават і пад беднякоў, пралазяць у Саюз.*

І ў выніку росту няма таго эфэкту, які павінен быў-бы даць па вызначэньню РК і ячэек КСМ, г. зн. 6,6 проц. батракоў, 64,7 проц. беднякоў і 28,7 проц. сераднякоў.

Процант дзяўчат у росьце саюзу не на поўна астаецца ад свайго агульнага процанту ў організацыі, але ўсё-ж такі якасны склад прынятых у саюз дзяўчат не адстае ад агульнага складу прынятых.

Пастаўленая задача перад саюзам—дамагчыся ажыцьцяўленьня лёзунгу „няма камсамольца без саюзных абавязкаў“, да гэтага часу асаблівых посьпехаў не дасягнула і амаль што палова ўсіх камсамольцаў сялян яшчэ да гэтага часу не нагружана. Якія сацыяльныя праслойкі ў вёсцы больш ахоплены і ўцягнуты ў камсамольскую работу?

Прыблізна большая палова камсамольцаў сялян беднякоў і з ніжэй серадняцкай гаспадаркай не ахоплены камсамольскай нагрузкай, у той час калі комсамольцы з вышэй-серадняцкай і серадняцкай гаспадаркай ахоплены на 60—70 проц. Нездаровым зьявішчам ёсьць тое, што работу сярод батрацтва, жанчын і піанэраў, галоўным чынам, вядуць камсамольцы з серадняцкай, вышэй-серадняцкай і моцнай гаспадаркай.

Абсьледваньне паказала, што пры ўзросьце кулацкіх элемэнтаў і растучай клясавай барацьбы ў вёсцы, што яскрава выразілася пры правядзеньні кампаніі хлебазагатовак і самаабкладаньня, камсамольская арганізацыя ня ясна і ня цьвёрда ўцяміла сабе лінію росту Саюзу і рэгуляваньне яго сацыяльнага складу, вынікам чаго ў Саюз пралазілі зусім варожыя нам элемэнты. Трэба адзначыць, што камсамольскія арганізацыі не займаліся сыстэматычна вывучэньнем пытаньня росту Саюзу і яго рэгуляваньня, галоўным чынам у вёсцы. Слаба пастаўлена работа сярод батрацкае моладзі як культурна-масавая, гэтак і эканамічная, а тая работа, якая вядзецца сярод іх, згрупавана напалову ў руках камсамольцаў сялян з вышэй-серадняцкай і моцнай гаспадаркай. Гэта прывяло к таму, што на ўцягненьне ў Саюз батрацкай моладзі недастаткова было ўдзелена ўвагі.

---

# НАША ТРЫБУНА.

А. Джэлюк, Л. Рывін.

## За стройную сыстэму народнае асьветы [1]).

*(Да прадстаячай партнарады па пытаньнях народнае асьветы).*

Бюро ЦК ЛКСМБ у сваіх тэзісах аб сыстэме народнае асьветы, з якімі мы цалкам згодны, фармуліруе асноўныя прынцыпы пабудовы сыстэмы.

Сыстэма народнае асьветы павінна быць пабудована на грунце патрэб народнае гаспадаркі ў работніках па будаўніцтву яе на соцыялістычных пачатках. Неабходна так будаваць сыстэму народнае асьветы, каб яна, адпавядаючы рэальным патрэбам сёнешняга дня, прадугледзела ў кожным канкрэтным выпадку (прамысловасьць, с.-гаспадарчая каапэрацыя, гандаль, дзяржаўны апарат) асноўныя тэндэнцыі разьвіцьця з улічваньнем зьмен і адпаведнасьці з гэтым патрэб краіны ў работніках.

Гэтая сыстэма павінна грунтавацца на прынцыпу злучэньня агульнай адукацыі з вытворчай працай і ўдзелам у грамадзка-палітычным жыцьці. Толькі гэтым зьнішчаецца разрыў між тэорыяй і практыкай. Толькі пры такай умове народная асьвета стане сапраўднай прыладай падрыхтоўкі сьвядомых, камуністычна-выхаваных работнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Вучот і ўзгодненасьць сыстэмы асьветы з умовамі працы і быту (і эканамічным станам наогул) тых пластоў і груп працоўных, якія яна абслугоўвае, таксама набывае вялікае значэньне. Толькі гэта стварае ўмовы для пэўнага ахопу школай рабочых і сялян. Тыпы і формы адукацыі павінны быць даволі гібкімі, толькі тады яны зьявяцца прыладай сацыялістычнай рэарганізацыі працы моладзі (прыклад: школа ФЗВ).

Важнае значэньне мае таксама ўстанаўленьне арганічнае сувязі між сацыяльным выхаваньнем і прафэсыйнай адукацыяй і забясьпечаньне насьледаваньня ступеней школьнае адукацыі, а таксама і закончанасьці кожнае з іх (ступені) наконт даваемых ведаў і практычных навыкаў.

Набывае ў агульнай пастаноўцы і ўлічэньне фактычнага стану народнае асьветы: матар'яльная база, пэдагагічны пэрсанал, яго ідэалёгічная вытрыманасьць і падрыхтоўка да будаўніцтва новае школы, культурны ўзровень насельніцтва. Разам з гэтым ЦК падкрэсьлівае, што прынцыпы, на аснове якіх будуецца сыстэма народнае асьветы, зьяўляюцца нязыблемымі. Сыстэма-ж канкрэтных устаноў народнае асьветы павінна быць даволі гнуткай і рухавай, каб магчы адказваць

---

[1]) У парадку абгаварэньня.

на розныя патрэбы народнае гаспадаркі розных раёнаў савецкага саюзу і ў першай чарзе БССР. Гэта адносіцца да пытаньня якасьці, г. зн. тыпаў навучальных устаноў, тэрмінаў навучаньня і колькасьці, г. зн. суадносін між сабой сеткі розных тыпаў навучальных устаноў.

Выходзячы з гэтых асноўных момантаў пабудовы сыстэмы, мы ў гэтым артыкуле хочам фармуліраваць прапановы, што датычацца канкрэтнага збудаваньня сыстэмы нарасьветы ў БССР.

## I. Прафэсыянальна-тэхнічная адукацыя ў сыстэме народнае асьветы.

„Нельга сабе ўявіць ідэалу будучай грамады бяз злучэньня навучаньня з вытворчай працай маладога пакаленьня; ні навучаньне і адукацыя без прадукцыйнай працы, ні прадукцыйная праца без раўналежнага навучаньня і адукацыі не маглі-б быць пастаўлены на тую вышыню, якая патрабуецца сучасным узроўнем тэхнікі і станам навуковых ведаў“ (Ленін, том 2-і, стар. 301, выд. 26 г.).

Сучаснае становішча прафэсыянальна-тэхнічнае адукацыі (прафшкола, ФЗВ і г. д.) у Беларусі харктарызуецца, па-першае, тым, што яна пабудована бяз увязкі са ўсёй сыстэмай народнае асьветы, і, па-другое—бяз вучоту патрэб народнае гаспадаркі. Адкажам на першае пытаньне, як профэсыянальна-тэхнічная адукацыя ўвязваецца з сыстэмай народнае асьветы. У Беларусі маецца 2 тыпы ўстаноў прафэсыянальна-тэхнічнае адукацыі: прафшкола і ФЗВ. Першы тып—прафшкола і школа ФЗВ будуецца на грунце 5-годкі. Другі тып—прафшкола і школа ФЗВ будецца на грунце 7-годкі. З гэтага аднаго відавочна, што няма адзінства ў прынцыпах пабудовы прафэсыянальна-тэхнічнае адукацыі, няма адзінае асновы, на якой яна павінна грунтавацца. У сапраўднасьці, хлапец, што канчае школу ФЗВ ці прафшколу, якія будуюцца на грунце 5-годкі, атрымлівае агульна-адукацыйныя веды трохі вышэй існуючай 7-гадовай школы ў Беларусі і то толькі *па некаторых прадметах* і спэцыяльныя веды ў данай галіне. У выніку мы маем тое, што хлапец ня можа паступіць у ВНУ, тэхнікум і інш. спэцыяльнае навучальныя ўстановы па недастатковай агульна-адукацыйнай падрыхтоўцы, з аднаго боку, і з другога—дзякуючы непрыстасаванасьці мэтавай устаноўкі школ, якія ня ўвязаны з патрэбамі народнае гаспадаркі, адгэтуль хлапец застаецца „бяспрытульным“, а на лепшы выпадак перад ім адзіны шлях—курсы па падрыхтоўцы ў ВНУ, альбо падрыхтоўка праз спэцыяльнага рэпэтытара.

Возьмем другі тып прафэсыянальна-тэхнічнае адукацыі—прафшколы і ФЗВ, якія будуюцца на грунце 7-годкі. Вядома, што мы маем аналёгічнае становішча з тэхнікумамі, якія будуюцца на тэй-жа самай аснове. Па сканчэньні тэхнікуму, (які, да рэчы, таксама недастаткова ўвязаны з сыстэмаю народнае асьветы) хлапец мае права паступіць без залікаў пасьля сталае практыкі на 2-і курс адпаведнага факультэту ВНУ (маем на ўвазе пэдагагічныя, каапэратыўныя тэхнікумы). Хлапец-жа, што сканчае школу ФЗВ, якая грунтуецца на 7-годцы, гэтых праў ня мае і толькі пад вялікім націскам штогоду даводзіцца вымагаць спэцыяльных загадаў-дырэктыў аб прыёме іх у індустрыяльныя тэхнікумы, без папярэдніх залікаў. Дзе тут увязка са ўсёю сыстэмаю народнае асьветы? Чаму існуе такая бяссыстэмнасьць у „сыстэме народнае асьветы“?

Аб вучоце патрэб народнае гаспадаркі ў падрыхтоўцы кваліфікаванае рабочае сілы лепш за ўсё гавораць факты „вопиющих безобразий“ у адносінах падрыхтоўкі рабочае сілы да патрэб народнае гаспадаркі. Вось факты. З усіх прафшкол БССР, а іх мы маем індустрыяльных 20, пад 70 проц. рыхтуюць мэталістаў і дрэваапрацоўшчыкаў.

Рэшта прафтэхшколы рыхтуюць, галоўным чынам, будаўнікоў. Пагля-дзімо, каго выпускаюць школы?

Штогоду трацяцца вялікія сродкі на ўвоз рабочай сілы з іншых раёнаў СССР у БССР тарпянікаў, Наркамзем займаецца „саматужніцтвам“ па падрыхтоўцы дзесятнікаў, а Наркамасьветы ўзмоцнена не пакідае разгортваць сетку прафтэхшкол мэталістых і дарэваапрацоўшчыкаў.

Па 5-гадоваму пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі намечана шырокае разьвіцьцё агнятрывалага будаўніцтва, што востра высоўвае пытаньне аб падрыхтоўцы бэтоншчыкаў, і каменшчыкаў і работнікаў іншых прафэсый. Наркампрацы ўзмоцнена працуе на два франты: па лініі ўвозу гэтае часткі кваліфікаванае рабочае сілы і „саматужнічае“ па *ўтварэньню нейкіх вытворчых майстэрань* (Полацак), якія рыхтуюць так званых бэтоншчыкаў, Наркамасьветы працягвае, як і раней, разгортваць тое, што „неабходна“ для прамысловасьці.

У Беларусі асабліва высоўваецца пытаньне аб правядзеньні мэліярацыйных работ, Наркамасьветы думае вырашыць такое паважнае пытаньне тым, што арганізуе ў Беларусі ў гэтым годзе адну прафшколу балот і культур.

Ці можа с.-гасп. акадэмія і адзін-два тэхнікумы здаволіць патрэбы ў розных спэцыялістых і больш кваліфікаваных рабочых па асобных спэцыяльнасьцях для колгасаў і савгасаў? Нам здаецца, што не.

Сапраўднае вырашэньне праблемы культурнае рэвалюцыі немагчыма без падрыхтоўкі новых кадраў рабочае клясы, прыстасаваных да рэканструкцыйнага пэрыяду і рацыяналізацыі прамысловасьці без падрыхтоўкі новых кадраў спэцыялістаў па ўсіх галінах сацыялістычнае гаспадаркі. На самой справе... „імкненьне да ведаў нязьмернае. З усіх бакоў жыцьцё крычыць усё аб новых і новых патрэбах і запытаньнях, пачынаючы ад пытаньняў, як лепш садзіць бульбу альбо навучыцца сьлёсарнаму рамяству, і канчаючы пытаньнямі міразданьня. Усё гэта прыводзіць да неабходнасьці стварэньня людзей—новых людзей. Падбор людзей, іх культурная вытрыманасьць—адна з каранных праблем, якую павінна вырашыць дзяржава пераможнага пралетарыяту“ (Рэвалюцыя і культура № 1, стар. 6).

Сучаснае становішча прафэсыянальна-тэхнічнае адукацыі ня ў поўнай меры адказвае на гэта запытаньне.

Пераходзім да вывадаў. *Прафтэхшкола павінна заняць сталае мейсца ў сыстэме народнае асьветы, будавацца на грунце 8-годак і быць масавай.* Гэта значыць зьнішчыць існуючы разрыў між 7-годкай і ВНУ. Больш таго, ахопліваючы галоўным чынам рабочую моладзь, дзяцей рабочых, прафтэхшколы будуць садзейнічаць арабочваньню ВНУ, з аднаго боку, і з другога, прафтэхшколы павінны даць сталыя веды (кваліфікацыя) у адпаведнай галіне народнае гаспадаркі. Скончыўшы прафтэхшколу, хлапец будзе мець магчымасьці ці прасоўвацца далей на вучобу (ВНУ), ці будзе мець сталую кваліфікацыю для таго, каб пайсьці на вытворчасьць.

2. *Існуючыя 9-годкі* павінны быць рэарганізаваны ў прафшколы і тэхнікумы. Высоўваючы гэтую прапанову, мы перш за ўсё выходзім з інтарэсаў і патрэб народнае гаспадаркі ў цэлым.

3. На наш погляд трэба прад'явіць прафтэхшколам наступныя запатрабаваньні: а) *каб яны давалі* пэўную суму агульна-адукацыйных ведаў і б) выпушчалі кваліфікаванага рабочага, маючага ня толькі вузкія тэхнічныя веды, рабочага не як прыдатку да машыны, *але яна павінна* даць кваліфікаванага рабочага тэхнічна адукаванага, культурна-грамадзка-палітычна разьвітага рабочага, які добра можа разьбірацца ва ўсіх працэсах вытворчасьці, зьяўляючыся гаспадаром вытворчасьці.

## II. Спэцыяльныя прафклясы.

Наркамасьветы ў высоўваемым праэкце сыстэмы народнае асьветы ставіць *ва ўсю шырычыню* пытаньне аб разьвіцьці спэцыяльных прафклясаў над 7-годкай. Згодна погляду НКА выходзіць, што „практычнае ўладаньне навыкамі ў прафэсыянальных школах і ў спэцыяльных прафэсыянальных клясах пры 7-гадовых працоўных школах можа адбыцца, як у спэцыяльна-арганізаваных пры іх прадпрыемствах навучальнага характару (майстэрні, навучальныя с.-гасп. фэрмы, школьныя вучасткі зямлі, навучальная каапэрацыя і г. д.), так і шляхам прымацаваньня вучняў для практыкі ў стала існуючыя прадпрыемствы арганізацыі і ўстановы". (Артыкул Народнага Кам. Асьветы БССР тав. Баліцкага, стар. 14. Выд. Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканом. Нарады БССР 28 г.).

Адгэтуль яскрава відаць, што згодна погляду НКА спэцыяльныя прафклясы павінны заняць тое месца ў сыстэме нар. асьветы, якое належыць па сутнасьці прафтэхшколам і *па сваёй сутнасьці мала адрозьніваецца ад прафтэхшкол* НКА, як відаць, лічыць, што спэцклясы лепш арганізаваць таму, што яны танейшыя. *Ці-ж таней абыйдуцца тыя* спэцыяльна арганізаваныя прадпрыемствы, як думае НКА, за стварэньне *спэцыяльных майстэрань у прафтэхшколах?* Ці-ж па сутнасьці пад шыльдаю спэцклясаў не хаваецца прафтэхшкола? Вядома, што так. Па сутнасьці прафклясы нават па думках самога *т. Баліцкага* павінны даць, як і прафшколы, „найбольш кваліфікаваных рабочых і працаўнікоў".

Скажам, што прафклясы будуць прымацаваны для практыкі ў прадпрыемствах. На нашу думку гэтая справа цяжкая і амаль не магчымая, а яна зьяўляецца важнай умовай існаваньня самых прафклясаў. Ва ўмовах рацыяналізацыі прамысловасьці, *тэхнічнага разьмеркаваньня працы не магчыма правядзеньне* практычных заняткаў з вучнямі ў вытворчасьці з тэй прычыны, што ў рабочы час ажыцьцявіць праходжэньне практыкі з работай на вытворчасьці немагчыма (адсутнічаньне варштаваў, брыгадыраў і г. д.), не ў рабочы час прадастаўленьне варштатаў на праходжэньне практыкі вельмі дорага абыйдзецца вытворчасьці,—падвысіць сабекошт прадукцыі, а гэта не адказвае задачам партыі і савецкае ўлады. Гэта-ж няўхільна прывядзе ці да ўтварэньня спэцыяльных майстэрань пры спэцклясах у лепшым выпадку, а ў горшым пад шыльдай прафклясаў захаваецца тып агульна-адукакацыйнай 10-гадовай школы з усімі адсюль выцякаючымі вынікамі.

Мы ня хочам закранаць той бясспрэчны факт, што прафклясы будуць *будавацца без належнай сувязі* з патрэбамі народнае гаспадаркі і вучоту патрэб рынку працы. Асьвятленьне пытаньня аб прафклясах было-б зусім ня поўным, калі-б мы не застанавіліся на вопыце прафухілаў у савецка-працоўных школах, якія маюць мейсца ў РСФСР. Вось што піша наконт гэтага т. Фірлетаў у сваім артыкуле: „школа з задачай падрыхтоўкі да працоўнага жыцьця не спраўляецца. Толькі каля 20 проц. скончыўшых ідуць у ВНУ, рэшта-ж ідзе на работу (і пры

гэтым як правіла не на тую сцэцыяльнасьць, якую дае ім прафухіл); часткай-жа проста „б'юць баклушы“ ці йдуць на біржу працы і папаўняюць і бяз гэтага вялікую армію беспрацоўных канцэлярскае працы“. (Рэвалюцыя і культура № 23—24, стр. 60 ад 31-XII—28 г.).

Нашы вывады. Прафклясе ў сыстэме нарасьветы БССР прыналежыць такая самая-ж будучына, як і прафухілу ў савецкіх працоўных школах РСФСР.

Мы ня можам не сказаць аб тым важным моманце, што спэцпрафклясы па сутнасьці зьявяцца найбольш лёгкім шляхам для прасочваньня ў ВНУ непралетарскіх, сацыяльна-чужых нам элемэнтаў.

Такім чынам, наш кароткі аналіз аб спэцпрафклясах яшчэ раз падцьвярджае зробленыя намі ўжо вышэй вывады аб тым, што *„патрэбна рэчы назваць іх уласнымі імёнамі“* і заміж прыгожых шыльд спэцпрафклясаў узяцца за ўтварэньне стройнае сеткі прафшкол і тэхнікумаў з прыстасаваньнем іх да патрэб народнае гаспадаркі і ўвязкай іх у дастатковай меры з сыстэмай народнае асьветы.

### III. Фабзавучы.

15 партзьезд у сваіх рашэньнях ясна падкрэсьліў, што *„...усё гэта пры адначасовым разьвіцьці сеткі ўстаноў прафтэхнічнае адукацыі, у прыватнасьці школ ФЗВ, і прыстасаваньне ўсяе народнае асьветы да патрэб сацыялістычнага будаўніцтва ставрае прадпасылку да шпаркага падвышэньня культурнага ўзроўню рабочых мас заўсёдышняга актыўнага ўдзелу іх у будаўніцтве соцыялізму і тым самым узмацняе асноўную базу пралетарскай дыктатуры“* (падкрэсьлена намі. *А. Д.* і *Л. Р.*) (з рэзалюцыі 15-га зьезду УсеКП(б) аб дырэктывах па складаньню 5-гадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі). Існаваўшая да гэтага часу сетка школы ФЗВ ахоплівала наступныя галіны прамысловасьці: скураную, дрэваапрацоўчую, паліграфічную, папяровую і ільно-пральную з агульным лікам вучняў у 230 чал. Такія важныя галіны вытворчасьці, як шкляная, тэкстыльная, панчошна-трыкатажная, будаўнічая, швачная, мэталёапрацоўчая і інш., зусім ня былі ахоплены фабрычна-заводзкім вучнёўствам і падрыхтоўка кваліфікаванае рабочае сілы ішла выключна за лік індывідуальнага і брыгаднага вучнёўства ўнутры самых прадпрыемстваў. Гэтыя формы падрыхтоўкі бязумоўна не маглі здаволіць патрэб прамысловасьці ў кваліфікаванай рабочай сіле, бо сама сыстэма зьяўляецца неарганізаванай і не адпавядае элемэнтарным умовам, як тып навучальна-выхаваўчых установаў. Гэта асабліва адчуваецца ў сучасны момант, калі наша прамысловасьць прад'яўляе вялікі спрос на такога тыпа рабочага, які павінен быць ня толькі вузкім спэцам па вузкіх вытворчых працэсах, але які павінен мець элемэнтарныя тэхнічныя і агульна-адукацыйныя веды. *Таму мы лічым, што школа ФЗВ і сетка іх павінна быць пашырана*, асабліва па тых галінах прамысловасьці, якія будуць разьвівацца ва ўмовах Беларусі. На нашу думку, ня можа быць ніякага іншага погляду адносна таго, што школы ФЗВ павінны стаць рэзэрвуарам, адкуль прамысловасьць будзе чэрпаць новыя кадры кваліфікаваных рабочых. Мы лічым, што ў аснову разьвіцьця школ ФЗВ павінен быць паложаны наступны прынцып: школамі ФЗВ павінна быць ахоплена ўся броня падросткаў, якая ёсьць у вытворчасьці, і, па-другое, школа ФЗВ павінна сваю работу ўвязваць шчыльна з прамысловасьцю з тым, каб рыхтаваць кваліфікаваных рабочых для патрэб прадпрыемства.

Заўважым, што ў БССР у сучасны момант, школамі ФЗВ ахоплена броня падросткаў на 13 проц. у той час, як па РСФСР ён дасягае 40 проц. Па такому-ж самаму прынцыпу і на такой самай базе, як і прафтэхшколы, павінны будавацца фабзавучы на прадпрыемствах. Мы лічым зусім лішнім даводзіць, што ФЗВ сябе апраўдала. Жыцьцё яскрава паказала, што ФЗВ у сучасны момант зьяўляецца найлепшай формай падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы на прадпрыемствах, якія могуць падрыхтаваць рабочага, патрэбнага нашай сацыялістычнай прамысловасьці, тэхнічна-адукаванага, клясава-сьвядомага, палітычна-разьвітага, культурнага рабочага. Трэба ўжо гэтую форму падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы—„узаконіць“, і яна павінна „адваяваць“ сабе трывалае мейсца ў агульнай сыстэме народнае асьветы ў БССР. Школа ФЗВ, будуючыся на базе 8-мігодкі, павінна даць ня толькі пэўную суму агульна-адукацыйных ведаў, але і павінна падрыхтаваць такога рабочага, якога патрабуе наша сацыялістычная гаспадарка.

### IV. Пра рэарганізацыю 2-га канцэнтру ў 8-мігодку.

Праграма камуністычнае партыі прадугледжвае „правядзеньне дармовай *і абавязковай агульнай і палітэхнічнай адукацыі* ўсіх дзяцей (хлапцоў і дзяўчат) да 17 гадоў“ (падкрэсьлена намі).

Вызначаная Наркамасьветы сыстэма, па нашаму, не адказвае высунутым момантам у праграме. Гэта таму, што, па-першае, маецца заблытанасьць у зьвязку з рэарганізацыяй 2-га канцэнтру: з аднаго боку, школа сялянскай моладзі з 4-х гадовым курсам навучаньня, якая будуецца на грунце 4-х годкі, што дае ў выніку 8-мі годку, а з другога боку, 7-мі годка, інакш кажучы, 2-гі канцэнтр з 3-х гадовым курсам навучаньня. Мы пытаем, дзе правядзеньне палітэхнічнай адукацыі ў горадзе? Дзе падзеліся фаб. зав. 7-х годкі, якія ахопліваюць пераважна дзяцей рабочых? Чаму мы маем 2 віды 2-га канцэнтру з 4-х і 3-х гадовым тэрмінам навучаньня? Кожнаму відаць, што ў сыстэме нар. асьветы, якую намаляваў нам *т. Баліцкі*, ня можаісьці рэч аб якой-небудзь стройнасьці, гнуткасьці.

Мы падтрымліваем НКА, каб школа сялянскай моладзі будавалася на падставе 4-хгодкі з 4-хгадовым курсам навучаньня, інакш кажучы, стварыць васьмігадовую працоўную школу ў вёсцы.

Менавіта, такая ўстаноўка будзе адпавядаць задачам сацыялістычнай перабудовы вёскі, падрыхтоўкі культурных, палітычна-разьвітых земляробаў, праводзячых палітыку партыі ў каапэраваньні і калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Што-ж дасьць гарадзкая 7-мігодка, калі пакінуць яе гэтак, як прапануецца праэктам сыстэмы?

Ці патрэбна даводзіць той факт, што цяпер, як ніколі, нашай школе прад'яўляюцца ўсё больш павышаныя запатрабаваньні. Наогул, школа павінна „быць ня толькі праваднікам прынцыпаў камунізму наогул, але і праваднікам ідэйнага арганізацыйна-выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на паўпралетарскія і непралетарскія школы працоўных мас у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“ (З праграмы партыі).

Школа павінна выхоўваць *новага чалавека.* Ці спраўляецца з гэтай задачай 7-хгодка. Мы заяўляем зусім адкрыта, што—не. 7-мігодка ледзь-ледзь спраўляецца з задачаю даць вучням акадэмічныя веды, работа-ж школы ў справе перавыхаваньня і пераапрацоўкі падрастаючых кадраў у камуністычным напрамку нездавальняючая.

Перагрузка праграм надзвычайна стамляе дзяцей, не дае мажлівасьці арганізаваць з дастатковай прадуманасьцю і плянавасьцю грамадзкакарысную выхаваўчую работу. І ў значнай меры па тэй самай прычыне мы ўяўляем сабе надзвычайна цяжкім і амаль немагчымым ператварэньня 7-мігодкі ў сапраўдную працоўную школу (мы ўжо не говорым, што матар'яльная база 7-мігодак вельмі бедная).

Усё гэта прыводзіць нас да выведу аб неабходнасьці рэарганізацыі 2-га канцэнтру *7-мігодак з 4-х гадовым курсам навучаньня, надаўшы ім ухіл фаб. зав. 8-х годак, якія могуць увязаць сваю работу з вытворчасьцю і замацоўваць агульную адукацыю ў вытворчай практыцы, уносячы сапраўдныя элементы вытворчага выхаваньня.* Няма ніякіх сумненьняў у тым, што пытаньне аб рэарганізацыі 7-мігодак у 8-мігодкі прысьпела і зьяўляецца задачай дня.

Больш таго. Дадатковы год, які намі высоўваецца (8-мігодка) у вялікай меры вырашае пытаньне аб лепшым разьмеркаваньні праграмнага матар'ялу, палягчаючы і пастаноўку выхаваўчай работы ў школе. Прафтэхадукацыя, як мы ўжо пісалі вышэй, грунтуецца на 8-мігодцы, тым самым дасягаецца па нашай схэме ўвязка 8-мігодкі з пасьлядоўнымі зьвеньнямі агульнага ланцугу народнае асьветы.

На наш погляд сыстэма народнае асьветы будзе гэткаю:

**Схэма сыстэмы народнай асьветы ў БССР згодна нашых прапаноў.**

| | |
|---|---|
| | Акадэмія і навукова-дасьледчыя ўстановы |
| | ВНУ з 4—5 і 6 год. навучаньня |
| 18.<br>17.<br>16. | Прафтэхадукацыя—школа Ф. З. В. прафтэхшкола, тэхнікум |
| 15.<br>14.<br>13.<br>12.<br>11.<br>10.<br>9.<br>8. | Васьмігадовая працоўная школа (Ш. С. М. і Ф. З. В. 8-мігодка). |
| 7.<br>6.<br>5.<br>4. | Дашкольнае выхаваньне |

1. Дашкольнае выхаваньне павінна быць пачата з 4 да 7-мігадовага ўзросту (дзіцячыя сады, ачагі, пляцоўкі і г. д.).
2. Над ім будуецца 8-мігадовая працоўная школа з 8 да 15 год уключна, *з рэарганізацыяй 2-га канцэнтру ў горадзе ў фабзав.* 8-мігодкі, а на вёсцы ў ШСМ.
3. Над ёю будуецца прафтэхадукацыя (школа ФЗВ, прафтэхшколы, тэхнікумы з мінімумам 3-хгадовага навучаньня з 16 да 18 г.).
4. Над ёю будуецца вышэйшая навучальная ўстанова з 4-х, 5 і 6-гадовым навучаньнем у залежнасьці ад патрэб, якія прад'яўляюцца народнай гаспадаркай для падрыхтоўкі кваліфікаваных спэцыялістаў.
5. Беларуская Акадэмія Навук і навукова-дасьледчыя ўстановы.— Вось нашы асноўныя заўвагі да сыстэмы народнае асьветы ў БССР.

# НА МЯЙСЦОХ

М. Шапіра.

## Як праводзіцца ў жыцьцё дырэктыва партыі аб зьніжэньні сабекошту.

*(Барысаў)*

Камісія Гаркому КП(б)Б нядаўна зрабіла выбарачны агляд выкананьня дырэктыў партыі аб 6-проц. зьніжэньні сабекошту. Аглядам ахоплены наступныя прадпрыёмствы: „Чырвоная Бярэзіна“ (вырабка запалак, ватэрпасаў, фанэрных сядзеньняў—працуе 1.150 рабочых) „Домбаль“ (вырабка лямпавага шкла і пасудку—працуе каля 900 рабочых) „Камінтэрн“ (лесапільна-фанерны завод—400 рабочых) „Прафінтэрн“ (папяровая фабрыка—200 рабочых).

### I. Наколькі выканана дырэктыва?

Вынікі праверкі даюць нам наступныя лічбы: па фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“ маецца зьніжэньне сабекошту на запалкі на 5 проц., на сядзеньні да стулаў рост сабекошту на 4,4 проц., на ватэрпасы рост сабекошту, на 26 проц. Што тычыцца запалак, дык трэба лічыць, што ў гэтым годзе скончаны пераход фабрыкі на стандартную работу, а гэта пацягнула за сабой дадатковыя выдаткі па пераабсталяваньні варштатаў, павялічэньні на першы час браку, прастой машын і цэлы шэраг іншых абставін, але ня гледзячы на гэта маецца зьмяншэньне сабекошту што трэба аднесьці галоўным чынам за кошт упартае рацыяналізатарскае працы адміністрацыі і рабочых.

Аналізуючы прычыны павялічэньня сабекошту ватэрпасаў, мы міжвольна павінны адгукнуцца ў розныя бугальтэрскія выкрунтасы, якія прымушаюць дужа асьцярожна падыходзіць да лічбаў, якія даюцца прадпрыемствамі. У ватэрпасе маецца маленькая шкляная трубачка, так званая лібела. Да мінулага гаспадарчага году на фабрыцы з незапомных часоў валяўся запас замежных лібел, цана якіх была ня вызначанаю. Што робяць „калькулятары“? Яны запісваюць, што лібелы складаюць 1 проц. сабекошту ватэрпасу. Але вось запас лібелаў скончыўся і аказалася, што, заказываючы гэтыя-ж лібелы на мясцовай гуце „Домбаль“, іх цана складае не 1 проц., а 18 проц. Як кажуць, маленькая розьніца! Дадайце сюды падаражэньне дубу, павышэньне заробчае платы і заміж зьніжэньня сабекошту атрымоўваецца значнае павялічэньне.

Гута „Домбаль“ дае рэкордную лічбу зьніжэньня сабекаштоўнасьці на 15 проц., прычым цікава, што за кошт зьмяншэньня вытворчых выдаткаў сабекошту—зьменшылася на 6 проц., а за кошт скарачэньня адміністрацыйна-кіруючага апарату маецца зьмяншэньне сабекаштоўнасьці на 9 проц. Асноўную прычыну гэтых посьпехаў належыць лічыць—павялічэньне валавое прадукцыі гуты, якая павялічылася, калі параўнаць з 1926—27 гасп. годам, на 43,9 проц.

Гута „Камінтэрн“ зьнізіла сабекошт піламатар'ялаў на 3,23 проц., а фанэры на 4,38 проц. Фабрыка „Прафінтэрн“ зьнізіла сабекашт на 9,44 проц.

На гэтых прадпрыёмствах зьніжэньне дасягнута ў асноўным за кошт больш рацыянальнага выкарыстоўваньня сыравіны і адкідаў і зьмяншэньнем процанту браку.

## II. „Бяз руля і без вятрыл“.

Агляд паказаў, што пытаньні зьніжэньня сабекошту не зьяўляюцца пытаньнямі спэцыяльнага вывучэньня. Гаспадарнікі звычайна ведаюць адно, што сабекошт зьнізіць трэба, але як і што зьніжаць, гэта ўжо даводзіцца пашукаць. Плянавае працы ў гэтым напрамку, якая-б грунтавалася на дэтальным вывучэньні ўсіх элементаў сабекаштоўнасьці, няма. Невядома, што думае гаспадарнік зьнізіць, дзе калі і як. Поўная блытаніна наглядаецца ў справе ўстанаўленьня норм і расцэнак. Ні наводным прадпрыёмстве няма ТНБ, няма і навукова-абгрунтаваных норм вырабку, дык ці можна зьдзіўляцца, калі наглядаецца шэраг выпадкаў, калі гаспадарнікі і прафработнікі заядла спрачаюцца па ўсіх інстанцыях аб нормах і ўрэшце выходзіць, што ні тыя і ні тыя ня могуць давесьці свае правільнасьці.

Нясталасьць норм значна ўплывае на прадукцыйнасьць працы і зразумела на сабекошт. Вось на гуце „Домбаль“ цяпер такое становішча, што рабочы шкладуў гоніцца за выгодным асартымэнтам, бо пры адным асартымэнце выводнае прадукцыйнасьці працы вырабляе на 50—60 руб. больш, чым пры іншым асартымэнце. Такія-ж зьявішчы наглядаюцца і на рэшце прадпрыёмстваў.

Кіраўніцтва партыйных ячэек справаю зьніжэньня сабекошту ў большасьці выпадкаў абмяжоўваецца „агульнымі дырэктывамі“, гэта значыць паўтарэньнем сваімі словамі дырэктыў вышэйшых партыйных органаў. Гэтаму яшчэ садзейнічае тое, што пытаньне аб сабекошту прадукцыі амаль нідзе не стаяла, як спэцыяльнае пытаньне, а пры заслухоўваньні агульнага дакладу ўносіцца пункцік аб „далейшай упартай і сыстэматычнай рабоце па зьніжэньню сабекошту“.

Прафарганізацыі аддаюць гэтаму пытаньню зьніжэньня сабекошту яшчэ менш увагі, чым парт'ячэйкі. Канкрэтных заданьняў вытворчым камісіям і нарадам і не даецца, і гэта накладвае свой адбітак на іх работу, якая таксама характарызуецца вызначэньнем: „бяз руля і без вятрыл“.

І тым ня менш сабекошт зьніжаецца. Ці можна пасьля ўсяго гэтага верыць словам паасобных работнікаў што „мы зрабілі ўсё па нашай сіле і больш зьнізіць нельга!“ Канечне не!

## III. Вытворчасьць працы і заробчая плата.

Агляд паказаў, што па большасьці прадпрыёмстваў Барысава асноўная дырэктыва партыі аб тым, што прадукцыйнасьць працы павінна абмінуць заробчую плату, ня выконваецца. Так, па фабрыцы „Прафінтэрн“ за апошні год прадукцыйнасьць працы зьнізілася на 2,08 проц., а заробчая плата вырасла на 14,1 проц. Па фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“ заробчая плата вырасла: па запалках на 14 проц., па фанэрных сядзеньнях на 11 проц. і па ватэрпасах на 22 проц., пры росьце прадукцыйнасьці працы адпаведна на 12,5 проц., 6,6 проц. і 7 проц. Па заводзе „Камінтэрн“ у лесапільным аддзяленьні зарплата вырасла на 7,23 проц., а прадукцыйнасьць працы на 4,48 проц. і па фанэрнаму аддзяленьню зарплата вырасла на 18 проц., а прадукцыйнасьць працы на 12 проц. Толькі на гуце „Домбаль“ прадукцыйнасьць абміноўвае

зарплату. Рост прадукцыйнасьці выразіўся на 39 проц. (лічба няпэўная, яна хутчэй за ўсё паказвае агульны рост вытворчасьці гуты, чымся рабочых), а заробчая плата вырасла на 13 проц.

Патрэбна адзначыць няпэўнасьць разьлікаў аб росьце зарплаты па прадпрыёмствах. Кожнае прадпрыёмства мае свае спосабы вылічэньня,— часта пры больш сталай праверцы лічбы зьменьваюцца. Рост зарплаты па большасьці прадпрыёмстваў ідзе хутчэй, чымся рост вытворчасьці. У чым-жа справа?

У асноўным тут дзейнічаюць і ўплываюць застарэлыя нормы і расцэнкі на зьдзельна-прэміяльнае работы. Досыць адзначыць, што норма і расцэнкі на фабрыцы „Прафінтэрн“ існавалі бяз зьмен з 1924 году да 1928 году. Дый і там, дзе яны мяняліся, ніхто ня можа сказаць, што яны ўстаноўлены правільна, бо амаль усе нормы на барысаўскіх прадпрыёмствах устаноўлены на вока. Паасобныя групоўкі рабочых такім становішчам карыстаюцца наступным чынам: якраз перад пераглядам нормы пачынаецца наўмысьля зьніжэньне вырабку, рабочыя чакаюць— „а вось установяць непасільную норму?“, затое потым, калі норма канчаткова ўстаноўлена, пачынаюць працаваць на ўсю і выпярэджваюць усе разьлікі. Так, напр., на фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна“ рабочыя такімі ваеннымі хітраваньнямі дамагліся ўстанаўленьня „пасільнае“ нормы і потым пачалі выганяць на 100 проц. і больш нормы, выпрацоўваючы ў сярэднім замест 70 р. у месяц па 140 руб. Такі саматужны спосаб устанаўленьня норм і расцэнак існуе і на гуце „Домбаль“, пра што ўжо казалася.

Патрэба ў навуковай тарыфна-нарміровачнай рабоце адчуваецца вельмі востра, а тымчасам ТНБ няма ні наводным прадпрыёмстве. У выніку цеганіна канфліктаў, пры якіх ніводзін з бакоў ня можа давесьці свае правільнасьці і бывае справа вырашаецца крыкам і напорам. Тут ужо больш за ўсё залежыць ад напружанасьці і стану горлаў гаспадарнікаў і прафэсыяналістаў. Апрача ўсяго іншага такое становішча прыводзіць да недагрузкі рабочага дню ў шэрагу груп работы. Ці варта раскідацца на тэму аб уплыве такога становішча на зьніжэньне сабекошту прадукцыі. А калі яшчэ дадаць сюды рост прагулаў на паасобных прадпрыёмствах, асабліва ў дні пасьля выплатку у дні рэлігійных сьвят, якія звычайна прадпрыёмствамі не сьвяткуюцца ў выніку рознага складу рабочых (беларусы, яўрэі і палякі), і ўсе новыя перашкоды, якія падлягаюць зьнішчэньню і шкодзяць зьніжэньню сабекошту, выяўляюцца і патрабуюць сталае ўвагі партячэек і профарганізацыі на прадпрыёмствах.

### IV. Саюзная і гаспадарчая лінія.

Прафсаюзныя арганізацыі на прадпрыёмствах пападаюць у досыць цяжкае і супярэчнае становішча. З аднаго боку, націскае адміністратар, які казырае дырэктывамі партыі аб павышэньні прадукцыйнасьці працы і аб зьніжэньні сабекошту, з другога боку, націскаюць паасобныя групы рабочых, якія толькі ведаюць свае цэхавыя інтарэсыі патрабуюць ад прафсаюзу абароны сваіх інтарэсаў.

Патрабуецца вялікае загартаваньне і тонкае ўмельства разьбірацца ў гэтых супярэчнасьцях для таго, каб ня ўхіліцца ў тую ці ў іншую крайнасьць. Добра яшчэ, калі сакратар ці бюро партячэйкі добра разьбіраецца ў гэтых пытаньнях і здолее даць правільныя паказаньні, як дзейнічаць у тым ці іншым канкрэтным выпадку, але большаю часткаю партячэйкі ня ўмешваюцца. „Мы ня можам быць апякунамі профорганаў“, гэтае становішча ў паасобных выпадках пераходзіць усяля-

кія межы і дырэктывы парт'ячэек у шмат якіх выпадках нічым не адрозьніваюцца ад пастаноў партзьездаў і пленумаў ЦК (нагэтулькі яны агульныя!). І тут прафработнік стаіць перад выбарам: пойдзеш у адзін бок—„аўтарытэт“ згубіш, пойдзеш у другі бок—„хвасьцістым“ абзавуць. Большаю часткаю прафработнікі ідуць у другі бок, гэта значыць аддаюць перавагу „абараняць“ рабочых пры ўсіх абставінах. Як выказаўся адзін рабочы партыец,—профработнік „шукае сымпатыю сярод рабочых“ і ў пошуках за „сымпатыяй“ нярэдка ўхіляецца ў самы сапраўдны хвасьцізм.

Вось да прыкладу гісторыя з нормамі на фабрыцы „Прафінтэрн“. Я ўжо вышэй падаваў становішча з прадукцыйнасьцю працы на гэтай фабрыцы, яна паказвае падзеньне за год на 2 проценты з лішкам пры росьце зарплаты на 14,1 проц. і пры існаваньні норм, якія яшчэ ўстаноўлены ў 1924 годзе на вока. Яшчэ ў 1928 годзе ў студзені месяцы гаспадарнік уздымае пытаньне аб пераглядзе норм і расцэнак. Угрунтаваў гэта неабвяргаемымі фактамі недагружанасьці рабочага дню, вялізарным процантам прырабку і г. д. Саюз адмаўляцца ня можа, але затое ён можа цягнуць гэтую справу. На кожную лічбу гаспадарніка зьяўляецца контр-лічба, на кожную прапанову гаспадарніка канфлікт і цеганіна і ў выніку ўсяго перагляд норм і расцэнак зацягваецца з сакавіка да лістападу і толькі ў сьнежні 1928 году вырашаецца. Калі рабочыя задаюць запытаньне аб прычынах такое доўгае цеганіны, дык чуюць адказ: „мы, рабочыя, ад гэтае цеганіны нічога не прайгралі“. Як гэта выхоўвае рабочага! Канечне ніяк ня выхоўвае, а ўносіць распад. Атрута цэхаўшчыны праймае рабочых і нават партыйцаў у тым ліку.

Факты паказваюць, што пасьля ўстанаўленьня новых норм на фабрыцы „Прафінтэрн“, пасьля такое зацяжкі яны прымаліся дужа хвараві́та і выклікалі нават актыўнае супрацьдзейнічаньне. У адным з цэхаў, калі па ініцыятыве асобных рабочых партыйцаў арганізоўваецца як адказ на новыя нормы заява аб пераходзе на падзённае са зьдзельнай работы і знарок зьніжэньне вырабку у тры-чатыры разы.

Ці гісторыя з прасейваньнем мукі на хлебапякарні Барысаўскага ЦРК, калі раптам зьяўляецца патрабаваньне заплаціць за ўсе мінулыя гады за прасейваньне мукі ў той час, калі на самай справе ніякае асобнае платы за гэта не належыць і ў крайнім выпадку можна толькі палаяць саюз, што ён своечасова ня высунуў пытаньня, каб былі пастаўлены спэцыяльныя людзі на прасейваньне мукі. Саюз жадае паказацца „абаронцам“ рабочых і любой цаной даходзіць да імкненьня прымусіць гаспадарніка заплаціць поўнаважнымі чырвонцамі за памылкі саюзу.

Такая „абарона“ рабочых менш за ўсе садзейнічае выкананьню асноўнае задачы прафсаюзаў, як школы камунізму. Абарона эканамічных інтарэсаў тут ператвараецца ў абарону цэхавое адсталасьці, а школа камунізму ў паасобных выпадках ператвараецца ў „школу хвасьцізму“. З гэтым неабходна павесьці рашучую барацьбу.

Барацьба супроць цэхавае адсталасьці павінна вясьціся „па лініі ўзмацненьня кіраўніцтва з вышэйшых зьвенчакоў саюзу ЦП, ЦСПСБ, з адмаўленьнем раз назаўсёды ад „налётнага“ кіраўніцтва, а па лініі канкрэтызацыі партыйнага кіраўніцтва і адмаўленьня ад нэйтральнасьці партячэек у часе спрэчак па важных пытаньнях паміж саюзам і гаспадарнікам. Толькі тады адшукаецца лад паміж гаспадарчай і прафсаюзнай лініяй у адзінай ленінскай партыйнай лініі. Толькі тады ўсе прывадныя пасы на прадпрыёмстве будуць цягнуць у бок выкананьня важнейшае задачы партыі—зьніжэньня сабекошту.

## V. Зьніжэньне сабекошту будаўніцтва.

Партыя дала дырэктывы аб 15% зьніжэньні будаўнічага індэксу. Зьніжэньне сабекошту будаўніцтва высоўваецца як важнейшая задача сёньняшняга і заўтрашняга дню і тут справа ня зусім добрая.

Што перашкаджае зьніжэньню сабекошту будаўніцтва?

Неакуратнае і спозьненае фінансаваньне. Вось да прыкладу падрыхтоўка будаўнічага сэзону бягучага 1929 году. У Барысаве вызначаюцца досыць буйныя пабудовы. Вызначана пабудаваць лесапільны камбінат на абшарах заводу „Камінтэрн“. Па дырэктывах ВСНГ усе пляны і разьлікі на будаўніцтва павінны быць гатовы да 15-га студзеня. Тым часам вось ужо падышоў і праходзіць люты, а ніякіх плянаў няма. Выходзіць, што гэтыя пляны былі ў пачатку студзеня надасланы Лесбелам у ВСНГБ, але ВСНГ не згадзіўся з гэтымі плянамі і прапанаваў да 4 лютага даслаць перапрацаваўшы. Ці скончыцца гэтая валынка гэтым тэрмінам? Напэўна не! Ці пытаньне аб пабудове тубпавільёну пры новай барысаўскай лячэбніцы. Пабудова буйная, больш за 500.000 руб. коштам, а ў лютым месяцы яшчэ ня вырашана канкрэтна пытаньне пра сродкі. Такое-ж самае становішча і з пабудоваю новага дому адпачынку, пытаньне „прапрацоўваецца“ яшчэ дзесьці ў Маскве. Гэтак становішча з шэрагам буйнейшых пабудоў. Што-ж выйдзе? Выйдзе тое, што пытаньне аб іх пабудове будзе вырашаны тады, калі будаўнічыя арганізацыі ўжо складуць плян сваей работы. Атрымаецца новая заяўка, крышы пляны, вышуквай адкуль і як атрымаць будаўнічыя матар'ялы, знайсьці працоўную сілу і г. д. Ці час пры такой гарачцы думаць аб зьніжэньні сабекошту Канечна пра гэтую задачу забудзецца і выйдзе нарэшце, не патаненьне, а падаражэньне.

Марудны тэмп работы дужа і дужа перашкаджае патаненьню. Вось пры пабудове новае фабрыкі „Чырвоная Бярэзіна“ і электрастанцыі пры ёй, узяўся Белдзяржбуд пракласьці канавы для труб (воданапорныя). Сваячасова (увосень) не паставіў належную колькасьць чалавек на работу і работа зацягнулася да зімы. Зямля замёрзла. Трэба адаграваць. На адаграваньне спалілі 16 кубоў дроў, даражэй абыходзілася рабочая сіла, а потым калі ў сярэдзіне зімы канавы гатовы, трэст „Тепло и сила“ адмаўляецца зімою класьці трубы: „канавы мяне ня тычацца, мая справа трубы“. І вось канавы будуць стаяць да вясны. Вясною яны, зразумела, заплывуць, трэба будзе зноў капаць ці цяпер рабіць загародкі, якія-б ня далі канавам пазаплываць.

Часта бывае, што пабудова пачынаецца бяз цьвёрдага пляну з такім разьлікам: „мы пачнем, тады нялоўка будзе вышэйшым органам адмовіць нам у фінансаваньні“. Часамі ў здагонку абавязкова падагнаць пабудову да якога-небудзь сьвята будуюць і будуюць, а потым пачынаюць думаць: „а як-бы лепш вывернуцца?“ Вось, напрыклад: да дзесяцігодзьдзя кастрычніка ў Нова-Барысаве пачалі будаваць новую школу. Меркавалі будаваць цагляную і паклалі адпаведны грунт. Пасьля гэтага перадумалі будаваць цагляную і парашылі будаваць шлака-бэтонную. Мусілі грунт перарабляць, потым грунт прастаяў год і 30.000 руб., што каштуе ён, пралежалі мёртвым капіталам, а за гэты час высьвятлілася, што пабудаваныя ў Менску дамы з шлаку-бэтону сьцюдзёныя і таму ўжо былі надумаліся зьвярнуцца да першапачатковага праэкту цаглянае школы, але пашкадавалі грунту і канчаткова рашылі будаваць шлака-бэтонную будову, але патоўшчаную. Ці можна пры такіх умовах гаварыць пра зьніжэньне каштоўнасьці будаўніцтва?

Наглядаюцца яшчэ ў часе будаўніцтва зацяжкі рабочых зарысаў. Трэба тады будаваць бяз іх. Зьбяруцца рабочыя і тэхнікі і спрачаюцца:

„тут што будзе, сьценка, вакно ці дзьверы?“ Урэшце пачынаюць будаваць наўздагад і часта ломяць ужо забудаванае.

Уплываюць і наплявацельскія адносіны паасобных заводаў і прадпрыемстваў да выкананьня заказаў у тэрмін. Гэта ломіць усялякія разьлікі і пляны і выклікае прастоі рабсілы, падаўжэньне тэрміну будаўніцтва і, зразумела, падаражэньне.

Адыгрываюць ролю прагулы і слабая вытворчая дысцыпліна сярод рабочых сэзоньнікаў.

Галоўнае і асноўнае гэта тое, што ніводная з будаўнічых арганізацый ня мае пэўных плянаў і пэрспэктыў у справе зьніжэньня сабекаштоўнасьці. Выходзіць так, што пра зьніжэньне каштоўнасьці будаўніцтва пачынаюць гаварыць не перад пабудовай, а пасьля, калі ўжо будыніна зроблена. Прычым няма пэўнага крытэрыю, што-ж лічыцца нормай і адкуль з якой лічбы пачынаецца зьніжэньне. Выходзіць, што зьніжэньне сабекошту больш залежыць ад „спрыту ў руках“, „ад умельства“ „адбрахацца“ таго ці іншага работніка, чым ад сапраўднага зьніжэньня. Звычайна, калі будоўля скончана, пачынаюць „падводзіць базу“ пад яе сабекошт і тут адно з двух, ці ўдаецца даказаць, што дырэктыва аб зьніжэньні будаўнічага індэксу выканана і сьціпла чакаць на ўдзячнасьць ці больш-менш умела падводзяць „аб‘ектыўныя ўмовы“ пад факты выкананьня дырэктыў. І ў тым і ў тым выпадку адказнасьць аднакава яе. Канечне, я тут бяру прыклады з „сумленнага“ будаўніцтва і ня ўлічваю шматлікіх выпадкаў крымінальшчыны, злачыннага безгаспадарнічаньня на пабудовах, а іх дужа шмат, менавіта, ва ўмовах раскіданага бескантрольнага (па сутнасьці) будаўніцтва, як у нас часта адбываецца.

Усяму гэтаму садзейнічае амаль поўная адсутнасьць работы вытворчых нарад на паасобных пабудаваньнях і дужа дрэнная праверка выкананьня пастаноў вытворчых нарад там, дзе яны існуюць.

Зразумела, што ўсё вышэйпаданае не азначае, што ўсюды маюцца такія недахопы, ці што наша будаўніцтва скрозь няварта, вядома не, але тыя выключэньні, якія маюцца, ёсьць менавіта выключэньнямі і залежаць ад налічча асабліва-адданых і больш умелых працаўнікоў.

## VI. Вынікі.

Бязумоўна, што ў кароткім артыкуле нельга поўнасьцю абхапіць пытаньне аб зьніжэньні сабекошту. У задачу гэтага артыкулу ўваходзіла паказаць на шэрагу прыкладаў мясцовага праламленьня дырэктыў аб зьніжэньні сабекошту, што поле дзейнасьці ў гэтым напрамку далёка ня вычарпана. Як відаць з паданага далёка няпоўнага агляду, дырэктыва партыі аб зьніжэньні сабекошту можа быць поўнасьцю выканана нават з перавышэньнем. Для гэтага патрэбна ўпартая работа ўсіх кіруючых органаў на прадпрыёмствах, сапраўднае пагаджэньне прафсаюзнай і гаспадарчай лініі на падставе правядзеньня партыйнае лініі, узмацненьне і канкрэтызацыя партыйнага кіраўніцтва. А галоўнае, патрэбна аб‘яднаньне ўсіх сьвядомых рабочых для барацьбы за зьніжэньне сабекошту і зьвязаных з гэтым рацыяналізатарскіх мерапрыёмстваў і падвышэньня прадукцыйнасьці працы. Тут барацьба стаіць за зьнішчэньне дробнаўласьніцкіх інстынктаў паасобных груп рабочых, асабліва з новых рабочых, якія нядаўна прышлі з вёскі.

Шэраг пытаньняў, якія маюць важнае значэньне і цесную сувязь з праблемай зьніжэньня сабекошту, тут не закрануты ці закрануты часткаю. Думаю, што іншыя таварышы асьвятляючы мясцовы вопыт дададуць гэта.

**Аноцкі.**

# Паасобныя моманты работы Клічаўскай райпартарганізацыі.

Наша партыйная арганізацыя складаецца з сямі ячэек, у якіх 84 камуністы. Па сацыяльным складзе яны падзяляюцца на наступныя групы: рабочых—31, сялян—44 і служачых—9.

Калі прыняць пад увагу, што ў раёне зусім няма буйных прадпрыёмстваў за выключэньнем двух савгасаў, дык рабочая праслойка ў арганізацыі дастатковая. Лепшая частка рабочых савгасаў амаль уся ўцягнута ў партыю. Нават у адным савгасе, „Бацэвічы", арганізавана самастойная вытворчая партыйная ячэйка ў лістападзе месяцы 1928 году. Гэта дае магчымасьць лепш абслужыць рэшту беспартыйнае масы і займацца выключна вытворчаю працаю. З другога боку гэта дае магчымасьць выхоўваць рабочых-партыйцаў для высоўваньня на тую ці іншую партыйную, савецкую, каапэрацыйную і інш. работу.

Такім чынам мы маем за апошні год 4-х рабочых, якія высунуты на адказную работу па каапэрацыйнай, прафсаюзнай і савецкай лініі. Рэшта ячэек працуюць на вёсцы. Трэба сказаць, што ў некаторых сельсаветах яшчэ няма ня толькі ячэек, але і камуністаў. Такіх сельсаветаў па раёну тры. Вядомая справа, што партыйны ўплыў у гэтых сельсаветах зусім нязначны і калі прыняць пад увагу невялікую колькасьць партыйцаў ува ўсёй арганізацыі, дык партыйцы ў гэтых сельсаветах бываюць тады, калі праводзіцца якая-небудзь кампанія. Праўда, у мінулы год пры кожным савеце арганізаваны групы беднаты, праз якія галоўным чынам і праводзіцца парткіраўніцтва.

### Удзел партячэек у кампаніях.

Калі параўнаць работу вясковых ячэек хоць-бы з такім часам, як год таму назад, дык яна значна пашырылася. Але гэта не азначае, што ўсе ячэйкі аднолькава выконваюць сваю работу, асабліва сярод сялянства. Тыя ячэйкі, арганізацыя якіх складаецца ў большасьці з камуністаў сялян і якія непасрэдна займаюцца на гаспадарцы, лепш зьдзяйсьняюць сваю кіруючую ролю на вёсцы. Калі ўзяць такія прыклады, як правядзеньне гаспадарчых і палітычных кампаній, дык выкананьне гэтае работы праходзіць у большасьці без прымацаваных райпрацаўнікоў. Да такіх ячэек належаць Бацэвіцкая і Несецкая. Нават пры правядзеньні такое кампаніі, як самаабкладаньне, кандыдаты партыі і тыя выконваюць работу бяз зрываў. Гэта азначае, што той камуніст, якому даручаецца правядзеньне работы на вёсцы, добра ведае, чым насельніцтва цікавіцца і добра ведае псыхалёгаю кулака. Правядзеньне перавыбараў сельсаветаў у гэтым годзе праходзіла з некаторымі асаблівасьцямі, якія выказваюцца ў павялічэньні клясавае абвостранасьці з боку кулака і арганізаванасьці з боку бяд-

няцтва і серадняцтва. Але кандыдатуры партыйцаў, вызначаныя ячэйкамі, прайшлі ўсе. Гэта азначае, што кіраўнічая лінія вясковых ячэек паведзена добра. Нават у адным з сельскіх саветаў, дзе няма ніводнага партыйца, сяляне прасілі: „Дайце нам з райёну партыйцаў у каапэрацыю і сельскі савет, бо нам самім бяз іх цяжка зрабіць, у нас няма добрых працаўнікоў“. Райённы камітэт партыі зрабіў усё магчымае да арганізацыі там на першых кроках кандыдацкіх груп.

Другая катэгорыя вясковых партыйных ячэек—гэта так званыя ячэйкі, якія заняты на сэзонных работах і мала зьвязаны з сельскаю гаспадаркаю. Тут справа крыху горшая. Вёска не адчувае такога парткіраўніцтва ад гэтых ячэек і як вынік, аўтарытэт іх куды меншы. Насельніцтва адносіцца да іх менш даверліва, бо штодзённай сувязі з імі няма. Нават пры правядзеньні самаабкладаньня адзін бядняк заявіў: „чаму вы так зацікаулены, каб правесьці самаабкладаньне, калі вы тут часовы чалавек?“ Ёсьць такія нават моманты, якія падрываюць партыйную работу, гэта нежаданьне камуністаў рабіць на сваёй гаспадарцы, а імкненьне пайсьці на службу. Да такіх зьявішчаў можна цалкам аднесьці Усакінскую ячэйку. А адгэтуль вынік: неабходна больш рашуча ставіць пытаньне перад камуністамі гаспадарамі аб уздыме сельскае гаспадаркі, аб унядрэньні камуністаў у калгасы і прыцягненьні іх да арганізаваньня новых калгасаў.

## Праца з беднатою

Па райёну лічыцца ўсяго 20 груп беднаты. З іх пры сельсаветах—14, пры камітэтах узаемадапамогі—4 і пры крэдытных таварыствах—2. Да лістападу месяцу 1928 году іх існавала ўсяго 7, работа ў якіх досыць кульгала. Райком аддаў шмат увагі гэтаму, у выніку чаго колькасьць груп даведзена да 20. Партыйныя ячэйкі кіруюць 14 групамі, а рэштаю сябры РК. Нарады груп беднаты праводзяцца ня менш як адзін раз у месяц па плянах. Пэрыядычна склікаюцца нарады кіраўнікоў груп беднаты пры райкоме, дзе адбываецца абмен вопытам работы і даюцца дырэктывы на далейшае. Трэба сказаць, што, не ўважаючы на невялікі вопыт работы груп беднаты, апошнія адыгралі вялікую ролю ў справе перавыбараў сельсаветаў. Абгавораныя кандыдатуры ў сябры сельсаветаў прайшлі адназ одна. Практыкавалася гэта так: перад арганізацыйным пленумам з новага складу членаў была складзена новая група, якая абгаварыла склад прэзыдыуму і дэлегатаў на райённы зьезд. Вырашэньне групы прайшло без усялякіх зьмен. Правядзеньне сходу беднаты было зьвязана з плянамі груп. На нарадзе груп абмяркоўваецца калі, дзе і з якой абвесткай дню правесьці агульную сходку беднаты.

Адзін з адмоўных бакоў ва ўсёй рабоце з беднатой—гэта назіраньне за вырашэньнем пытаньняў разьмеркавальнага характару. У гэтых адносінах заўважаецца перелом у бок пастаноўкі работы вытворчага характару сельскае гаспадаркі. Партыйным ячэйкам патрэбна зрабіць круты перелом у рабоце з беднатой да калектывізацыі вёскі. У надыходзячую вясновую пасеўную кампанію трэба асабліва завастрыць увагу беднаты. Гэтая справа ўжо вырашана ў межах габінэтнае прапрацоўкі, што кольвек зроблена і практычна, але яго яшчэ мала.

## Партыйная вучоба

З самага пачатку навучальнага году ўсе партыйцы па дабраахвотнаму прынцыпу ўзяліся за партвучобу. Палітпадрыхтоўка нашых вясковых камуністаў зусім нізкая. Ды і сама арганізацыя пачала выхоў-

вацца толькі з 1924 году. Усяго існуе 19 прадметных гурткоў: па ленінізму—1, па гісторыі партыі—13, па палітэканоміі—2, па палітграмаце—3. Гэтыя гурткі аб'яднаюць у сабе 123 чалавек, з якіх камуністаў 73. Вялікае дасягненьне партыйных ячэек у справе палітвучобы гэта прыцягненьне да вучобы ня толькі партыйцаў, але і беспартыйных, 50 чалавек. Такім чынам, ячэйкі рыхтуюць беспартыйны актыў. Уся работа палітгурткоў асабліва з перавыбарамі сельсаветаў крыху паслабела, бо на гэту кампанію былі адарваны ўсе партыйцы. Але па сканчэньні яе партыйцы зноў узяліся за вучобу. Уздым палітадукацыі пастаўлены на ўсю вышыню перад кожным партыйцам. І гэта бясспрэчна, бо пры сучасных умовах без падрыхтоўкі на работу ў вёску ня выйдзеш. Сяляне чытаюць газэты, наведваюць сходы, а гэта пашырае іх сьветапогляд. Адгэтуль вынік, што кіраваць трэба ўмела, а не займацца балбатнёю. Ува ўсім гэтым дапамагаюць гурткі, якія існуюць пры ячэйках.

### Кіраўніцтва камсамолам

Усяго ў райёне 186 камсамольцаў, якія аб'яднаны ў 10 ячэек. Большасьць камсамольскіх ячэек забясьпечаны партыйным асяродкам, але гэты асяродак яшчэ дужа слабенькі. Нават кіраўнікі РК КСМ зьяўляюцца членамі партыі са стажам у адзін год, а калі ўзяць сэкратароў ячэек, дык большасьць іх кандыдаты партыі, а часткаю беспартыйныя. Бязумоўна, што пры такім складзе камсамольскіх ячэек партыйнае кіраўніцтва над імі павінна быць штодзённае. Галоўнае месца ў кіраўніцтве камсамолам займае заслухованьне справаздач на агульных сходах і бюро партячэек. Тут сабе памылак няма, але кіраўніцтва толькі гэтым мэтадам дасягнуць нельга. Кіраўніцтва камсамолу трэба праводзіць праз штодзённую таварыскую дапамогу пры ўмове ўжываньня новых мэтадаў і форм работы.

Другая форма кіраўніцтва партыйнае арганізацыі над камсамолам гэта прымацаваньне партпрадстаўнікоў. У часе перавыбараў бюро камсамольскіх ячэек высьвятлілася, што некаторыя партпрымацаваныя нават зусім не наведвалі пасяджэньняў бюро і сходаў камсамольскіх ячэек. Як вынік дрэннага кіраўніцтва адчуваецца некаторы перабой у рабоце, няўзгодненасьць тае ці іншае камсамольскае работы з партыйнай. Асабліва гэта акрэсьлілася ў часе перавыбараў сельсаветаў. Камсамольская ячэйка ня ведае, якія кандыдатуры падрыхтавала партыйная ячэйка і наадварот. Больш таго, некаторыя камсамольскія ячэйкі, ня ведалі, што ім трэба рэкамэндаваць кандыдатуры ў сельсавет.

Зусім слабая перадача камсамольцаў у партыю таксама сьведчыць пра недастатковае партыйнае выхаваньне камсамольцаў у штодзённым жыцьці. За ўвесь 1928 год з усяе камсамольскае арганізацыі прынята ў партыю толькі 6 чалавек. Далейшае кіраўніцтва камсамолам павінна ісьці праз штодзённую таварыскую дапамогу ўва ўсёй рабоце, праз вывучэньне запатрабаваньняў моладзі і паступовае ўцягненьне ў партыйную работу.

### Кіраўніцтва дэлегацкімі сходамі

Усяго арганізавана 9 дэлегацкіх сходаў, якія існуюць пры партыйных ячэйках. Работа ў іх распачата сваечасова і праграмныя тэмы прапрацоўваліся бесьперабойна за выключэньнем двух зрываў дэлегацкіх сходаў у перавыбарах сельсаветаў. Кіраўнікамі вылучаны самыя мац-

нейшыя партыйцы. У параўнаньні з мінулым годам у рабоце дэлегацкіх сходаў ёсьць вялікія дасягненьні як арганізацыйныя, так і ў самой рабоце. Летась існавалі чатыры пункты і заняткі праводзіліся выпадкова. Дзякуючы большаму кіраўніцтву павялічвалася актыўнасьць сходаў: у такой кампаніі, як перавыбары сельсаветаў дэлегацкія пункты выступалі, як арганізацыя ў сэнсе адстойваньня жаночых кандыдатур. Былі выпадкі, калі мужчыны не хацелі правесьці жанчыну ў савет, дык жанчыны настаялі на гэтым. Дзякуючы лепшай наладжанасьці работы вызначаецца пацяг жанчын у партыю, якіх у нашай арганізацыі зусім няма.

## Вынікі

Не ўважаючы на тое, што Клічаўскі „гнайнік" закрануў самую галоўку партыйнае арганізацыі, апошняя ў асноўным здаровая. Дзякуючы правядзенью самакрытыкі як сярод партыйцаў, так і шырокіх колаў насельніцтва быў ускрыты цэлы шэраг злачынстваў, за што зьнята з работы 7 адказных работнікаў партыйцаў, выключана з партыі 4 і атрымалі суровую вымову 5. Думалася-б што пасьля такога зьявішча кожны партыец у арганізацыі будзе больш адказным, але ёсьць моманты і цяпер адмоўных бакоў за некаторымі партыйцамі. Гэта п'янства, партыйная нявытрыманасьць і нават праяўленьне антысэмітызму. Усе гэтыя факты вядомы арганізацыі і падрыхтоўваюцца да надыходзячае чысткі партыі. Вясковае арганізацыі гэта асабліва патрэбна, каб ачысьціцца ад чужых элемэнтаў, якія рознымі спосабамі папрымазваліся да партыі.

Кл—аў.

# Што паказаў агляд Добрускае партарганізацыі.

*(Гомельская акруга).*

У сваёй рэзалюцыі па Добрускай справе ў сувязі з вылазкаю клясавага ворага, Бюро Акруговага Камітэту 12-га студзеня разам з ацэнкай антысавецкае дзейнасьці на фабрыцы дало наступную характарыстыку тым прычынам, пры якіх гэтая дзейнасьць у працягу доўгага часу магла працягвацца, не спатыкаючы належнага адпору: „Адсутнасьць правільнае пастаноўкі выхаваўчае работы ў партыйнай і камсамольскай арганізацыі, прытупленьне клясавага чуцьця, адсутнасьць у мясцовых парторганаў правільнае палітычнае ацэнкі антысэміцкім і іншым антысавецкім вылазкам, прымірэнчыя адносіны да гэтых зьявішчаў—усё гэта дазволіла клясаваму ворагу пралезьці на фабрыку і ўсімі іхнімі сіламі рабіць сваю контррэвалюцыйнаю справу ў працягу шэрагу гадоў“.

Дэтальны і сталы агляд, прароблены Акружкомам у Добрускай партарганізацыі, цалкам сьцьвярджае гэтую ацэнку і выяўляе каранныя прычыны са здарэньнем у Добрушы. Гэтыя прычыны ляжаць у значнай ступені ў самім становішчы партыйнай і камсамольскай арганізацыі. Раней за ўсё трэба адзначыць, што ўмовы работы Добрускай партарганізацыі асабліва спэцыфічныя, бязумоўна ўскладняюць работу і патрабуюць поўнага разуменьня арганізацыяй нашае палітычнае клясавае лініі. Гэтыя асаблівасьці характарызуюцца сацыяльным складам рабочых фабрыкі і самой партыйнай арганізацыі. Значная частка рабочых зьвязана з дробнай, сярэдняй і нават буйнай кулацкай гаспадаркай. Лічбы сьцьвярджаюць, што з 1.520 чалавек рабочых 858 зьяўляюцца пралетарыямі і нічога ня маюць (калі ня лічыць хату і кароўку), 208 чалавек маюць дробную гаспадарку, 195 сярэднюю і ўрэшце група буйных ад 5 дзесяцін і вышэй—96 чалавек. Адсюль відаць, што для значнае часткі рабочых работа на фабрыцы зьяўляецца толькі падсобным заработкам. Упаўне зразумелы настрой і адносіны гэтае часткі рабочых да фабрыкі. Неабходна ўлічыць яшчэ цэлы шэраг традыцый, работа на фабрыцы цэлымі сем'ямі па спадчыне, погляд гэтае часткі рабочых на фабрыку як на сваю, „Добруш для добрушцаў“, а таксама некаторая засьмецьцянасьць апарату і складу рабочых чужым элемэнтам (былыя паліцэйскія, жандары, эсэры, папоўскі элемэнт). Усё гэта стала грунтам для антысавецкае работы.

Сама партыйная арганізацыя ў сваім складзе мае таксама значную частку тых, якія зьвязаны з дробнаю сельскаю гаспадаркаю і некаторую групу, якія зьвязаны з сярэдняй і нават буйной гаспадаркай. Усё гэта пры нізкім палітычным узроўні арганізацыі, незразуменьні працэсу клясавае барацьбы ў краіне і канкрэтна на фабрыцы, пры сла-

бым кіраўніцтве бюро калектыву і цэхячэек прывяло да абывательска-мяшчанскіх, уласьніцкіх настрояў і прымірэнчых адносін да таго, што рабілася на фабрыцы.

Паглядзімо, што-ж уяўляла з сябе работа Добрускае партыйнае арганізацыі? Бязумоўна, што наша партыя моцная раней усяго тым, што яна пабудавана на асновах бальшавіцкае дысцыпліны і першым доўгам выкананьня камуністамі партыйнага статуту, чаго нельга сказаць пра значную частку Добрускай арганізацыі. Досыць сказаць, што больш за 30 проц. на працягу 6 месяцаў ня плацяць членскіх узносаў, маюцца дзесяткі партыйцаў, якія на працягу году і нават больш ад дню ўступленьня ў партыю не плацілі членскіх узносаў і такія кандыдаты пераводзіліся ў члены партыі (Пахкамэрны цэх). Такое зьявішча лічылася звычайным, таварышам не рабілася напамінаў і г. д. Гэтак сама справа і з наведваньнем агульных сходаў, больш за 50 проц. арганізацыі сыстэматычна не наведвала сходаў і нават лічыла не абавязковым наведваньне цэхавых сходаў. У гэтай адносіне ня было праяўлена рашучасьці. 40 проц. арганізацыі ня мае ніякіх практычных абавязкаў, партнагрузак. Усё гэта прывяло да таго, што таварышы паступова адрываліся ад партыі і мэханічна паставілі сябе выбыўшымі. У 1928 годзе мы маем такіх 7 выпадкаў і яшчэ больш аказалася мэханічна выбыўшых у першы месяц 1929 г., калі ўзяліся за праверку выкананьня партабавязкаў. Хваравітыя зьявішчы ў працягу досыць доўгага часу разьядалі арганізацыю. Яшчэ ў маі 1927 году пры дакладзе ячэйкі на Бюро АК было канстатавана ў арганізацыі наліччa хваравітых момантаў сярод камуністаў (выпадкі п'янства, рэлігійныя абрады, нізкі палітузровень і г. д.). Аднак гэтыя хваравітыя зьявішчы набылі яшчэ большы характар. П'янства ў арганізацыі і ў частцы, якая была ў кіруючым складзе, набыло сыстэматычны характар і на гэта асаблівае ўвагі не зьвярталася. Як рэагавала бюро, скажам ніжэй. Мелі мейсца рэлігійныя абрады, хрышчэньне дзяцей і інш. і цяпер яшчэ ў паловы членаў арганізацыі маюцца абразы і гэта лічыцца нармальным. Спрэчкі і склокі маюць вялікае мейсца ў тым ліку і ў актыве. Ёсьць моманты і шкурніцтва, калі пасьля адмаўленьня ў павялічэньні разраду падаваліся заявы аб выхадзе з партыі (Казлоў С.).

У партыйнай і камсамольскай арганізацыі мае мейсца антысэмітызм. (Выключэньне Баньнікава, Клошына за антысэмітызм). Маюцца заявы паасобных членаў партыі, што справа разьдзьмухаецца, што ў слове „жыд“ нічога страшнага няма. Асабліва трэба адзначыць дробна-буржуазныя ўплывы на партарганізацыю і ідэалёгічныя ўхілы. Абывательскім, мяшчанскім і ўласьніцкім настроям з боку партыйнай арганізацыі ня толькі не супроцьставіўся партыйны пункт гледжаньня, але частка камуністаў гэтым настроям паддавалася сама. Досыць адзначыць наступныя прыклады: уплывы і кіраўніцтва грамадзкаю работаю Панькова, які цяпер „сядзіць“, поўны хвасьцізм у правядзеньні партыйнае лініі ў часе правядзеньня калдагаворнай кампаніі, выпадкі, калі камуністы паручаліся за жандараў, выступленьні камуністаў на пленуме фабкому ў абарону кулака: які можа быць у нас кулак? Падзеі на фабрыцы ў зьвязку з вылазкаю клясавага ворага ўсё гэта кажа аб тым, што клясавае чуцьцё часткі партыйнае арганізацыі было прытуплена і правы ўхіл у Добрускіх умовах узяў рэальны зьмест.

З вышэйпаданага яскрава, што больш чым дзе ў Добрускай партыйнай арганізацыі патрабавалася ўзмоцненая партыйна-выхаваўчая работа і бальшавізацыя арганізацыі. Аднак, не ўважаючы на надзвычайна нізкі палітузровень членаў і кандыдатаў партыі, партыйна-выха-

ваўчая работа пастаўлена вельмі дрэнна. Досыць сказаць, што школамі партасьветы ахоплена толькі 40 проц. членаў партыі і 25 проц. кандыдатаў, зусім слабае наведваньне, а бюро парткалектыву і цэхавыя ячэйкі не займаліся гэтым пытаньнем. Аб правым ухіле гаварылі наогул, але з канкрэтнымі ўмовамі і прыкладамі з жыцьця самае фабрыкі гэта растлумачэньне ня ўвязвалася. Партыйная арганізацыя не зразумела і ня бачыла працэсаў клясавае барацьбы ў краіне і канкрэтна на фабрыцы, вось што прывяло да Добрускіх падзей.

У выніку нерашучага рэагаваньня і зжываньня хваравітых зьявішчаў, частка камуністаў (20—26 чалавек) канчаткова адарвалася ад партыі і распала. Цэхячэйкі пра гэтых камуністаў ведалі, бачылі, як яны псаваліся, але ня ўжывалі мер да таго, каб сваечасова ачысьціць партыю ад іх. Гэта тлумачыцца ў значнай ступені пакрываньнем з прычыны сямейных і сваяцкіх пачуцьцяў, і абывательска-мяшчанскага „няхай!“

Прыём і вярбоўка ў партыю ішла самацёкам альбо ў адпаведныя кампаніі. Усяго за год уступіла 126 чалавек і гэта ня дзіўна, з беспартыйным актывам ніякае работы не вялося, ён зусім не ахоплены партыйнымі школамі. Трэба сказаць, што ў самім прыёме ячэйкамі былі праяўлены недапушчальныя і супярэчныя партыйным дырэктывам зьявішчы аб вярбоўцы ў партыю лепшых, актыўных і выяўленых на грамадзкай рабоце.

У кастрычнікавы заклік да вярбоўкі падыходзілі казённа—абы набраць колькасьць, гэта прывяло да таго, што больш за 15 чалавек з тых, якіх прынялі ў кастрычнікавы заклік, на гэты дзень выключана з партыі. Нават ёсьць такія выпадкі, калі ў партыю папалі чужыя людзі (стражнікі). Бюро калектыву і ячэйкі пытаньнямі росту не займаліся.

Гаварыць аб унутрыпартыйнай дэмакратыі і разгортваньні самакрытыкі пры такіх умовах не даводзіцца, яна ў арганізацыі была дужа слабая, інакш мы ня мелі-б таго, аб чым гаварылі вышэй. Як-жа была справа з масаваю работаю? Па складу рабочых і ўмовах работы, прыстасаваньне яе павінна было-б быць на абслугоўваньне паасобных груп рабочых, каб яна адбівала канкрэтнае жыцьцё ў дзейнасьці фабрыкі. Аднак, не ўважаючы на гэта і на тое, што на фабрыцы панавалі мяйсцовыя настроі, антысэмітызм і рэлігійная прапаганда, на цэхавых і іншых масавых сходах у большасьці абгаварваліся пытаньні кампанейскага характару. За малым не вялося работы па растлумачэньню рабочым шкоднасьці мяйсцовых настрояў, супроцьстаўленьня рэлігійнай прапагандзе манахаў, антырэлігійнае прапаганды зусім ня было. Таксама і з інтэрнацыянальным выхаваньнем. А Бюро АК 18-га мая 1927 году немаль два гады таму назад па дакладу Добрускай ячэйкі пастанавіла: „ужыць усе меры да поўнага аздараўленьня настрояў рабочых, праз узмоцненую, паглыбленую работу, дамагаючыся зразуменьня рабочымі зробленае імі памылкі па пытаньню зьняцьця Галаванава. Асаблівую ўвагу ў гэтым аддаць растлумачэньню пытаньняў аб рацыяналізацыі вытворчасьці і неабходнасьці вызваліць прадпрыёмства ад цэлага шэрагу нявытворчых выдаткаў, узмацненьне антырэлігійнае работы, барацьба з мяйсцовымі настроямі“. А ў кастрычніку 1927 году бюро АК дало фракцыі фабкому наступную дырэктыву: „Улічваючы наліччa сялянскіх настрояў сярод значнае часткі рабочых, бюро АК прапануе вясьці ўзмоцненую барацьбу з гэтымі настроямі праз выхаваўчую работу. Гэтыя дырэктывы ў абодвых частках ня выкананы, бо і ў сучасны дзень апрача налічча сялянскіх, мяйсцовых і антыпралетарскіх настрояў лішні штат складае больш 200 чалавек.

Вытворчыя нарады працавалі слаба і рабочыя ня прыцягваліся да актыўнага ўдзелу ў гаспадарчым будаўніцтве. Клюб абслугоўвала ў асноўным моладзь. Гэта ня дрэнна, але дарослая частка амаль не абслугоўвалася, уся масавая работа праводзілася па шаблёну, ня ўлічваючы асаблівасьці работы. Асноўны недахоп у масавай рабоце гэта тое, што твар камуністаў і камсамольцаў замазваўся. Камуністы цягнуліся ў хвасьце не выяўляючы свайго твару. У цэху камуністы, як такія, не адчуваліся. Такіх канкрэтных фактаў можна было падаць шмат. Ня дзіўна, што аўтарытэт ячэйкі ад такога кіраўніцтва масавае работы быў слабы.

Як-жа з становішчам і кіраўніцтвам камсамольскай арганізацыі? Камсамольскую арганізацыю ў працягу доўгага пэрыяду трасе шэраг хваравітых зьявішчаў—антысэмітызм, недысцыплінаванасьць, п'янства, склокі ажно да распадваньня ячэек. Палітвыхаваўчая работа пастаўлена ня лепш, чымся ў партыйнай арганізацыі. Не ўважаючы на тое, што дробна-буржуазныя, мясцовыя і антысэміцкія настроі ў значнай меры адбіліся і на камсамольскай частцы, кіруючымі камсамольскімі і парторганамі ня было ўжыта адпаведных мер да супроцьстаўленьня гэтым настроям партыйнага пункту гледжаньня. Парткіраўніцтва выражалася ў фармальным прымацаваньні прадстаўнікоў, якія, дзякуючы мэханічнаму іх высоўваньню, часта ня толькі не пасаблялі і не зьяўляліся ўзорам, а дыскрэдытавалі сябе як члены партыі. Кіраўніцтва фракцыямі мела таксама ня глыбокі, не канкрэтны характар. Фракцыі гарсавету і ДЦРК у працягу году амаль не працавалі, ня дзіўна, што ў Добрускім ЦРК улетку быў ускрыты такі гнайнік, а справаздачна-перавыбарчая кампанія гарсавету прайшла надзвычайна дрэнна ва ўсіх адносінах.

Дзе-ж прычыны такога становішча? Гэтыя прычыны разам з вышэйпаданымі агульнымі прычынамі ў значнай ступені грунтуюцца ў безадказнай мяккасьці і папусьніцтву ў кіраўніцтве з боку мясцовага бюро калектыву і бюро цэхячэйкі. Безадказныя адносіны да выкананьня дырэктыў вышэйшых партыйных органаў. Аб гэтым гаворыць уся лінія, якая праводзілася ў кіраўніцтве арганізацыі. Мы пералічылі цэлы шэраг хваравітых зьявішчаў, якія меліся ў арганізацыі. Паглядзімо, як на гэта рэагавалася. Да тых, што не плацілі партыйных членскіх узносаў, шырока практыкавалася растэрмінаваньне выплаты запазычанасьці. На п'янства рашуча не рэагавалі, выключалі і выносілі строгія вымовы толькі тады, калі партыец канчаткова дыскрэдытаваў сябе на вачох беспартыйнае масы. Вось некалькі прыкладаў: ячэйка пахкамэрнага цэху разглядае пытаньне аднаго члена партыі і выносіць такую пастанову: „Прымаючы пад увагу, што тав. Кейно не адначасова заўважаны ў п'янстве, паставіць яму на від“, альбо на бюро калектыву ставілася пытаньне аб выключэньні Галавачова за выступленьне на агульных сходах супроць мерапрыемстваў партыі, які за чатыры гады паказаў сябе зусім не камуністам, меў не адначасовыя партспагнаньні, сьвядома падрываў работу ячэйкі і, ня гледзячы на ўсё гэтае бюро калектыву адмяніла пастанову цэхячэйкі аб выключэньні і дало вымову з апошнім папярэджаньнем. Разглядалася пытаньне аб п'янстве члена партыі Гуторава, былы сакратар ячэйкі тав. Мінкім гаворыць на тым пасяджэньні, што ён сам выцягнуў Гуторава п'янага з падвалу. Аб Гутораве неадначасова ставілася пытаньне, ён ненаведваў партсходаў, меў некалькі апошніх выгавараў з папярэджаньнем, а ў выніку выносіцца пастанова: „вынесьці строгую вымову з апошнім папярэджаньнем“. Не ўважаючы на тое, што п'янства мела такі шырокі характар, за 1928 год выключаны толькі адзін чалавек.

Бюро калектыву па ўсіх галінах работы выносіла шмат рэзалюцый, але па іх нічога ня зроблена. У працягу 1927-28 году з боку АК былі 3—4 агляды, два разы заслуханы даклады ячэйкі на бюро АК, два разы былі агляды з боку ЦК КП(б)Б. У выніку іх дадзены адпаведныя дырэктывы і трэба сказаць, што ў значнай ступ ні гэтыя дырэктывы былі практычнымі, але ў партмасе яны не прапрацоўваліся і ў жыц цё не праведзены, дзякуючы безадказным адносінам да іх выкананьня. Акругком, не зважаючы на значную ўвагу, адданую Добрускай партарганізацыі (25 практычных важных і прынцыповых пытаньняў вырашаны за 1927-28 г., частыя выезды членаў бюро АК), не правяраў і не наглядаў за правядзеньнем дадзеных дырэктыў у жыцьцё.

Цяпер з цэлым шэрагам мерапрыемстваў, якія праведзены АК у арганізацыі і ў рабочай масе маецца бязумоўны пералом. Ячэйка і фабком узяліся за практычнае правядзеньне ў жыцьцё мерапрыемстваў, якія вызначаны АК і калектывам па аздараўленьню арганізацыі і фабрыкі. Ідзе ачыстка ад чужога і кулацкага элемэнту на фабрыцы. Партыйная і камсамольская арганізацыі таксама ачышчаюцца ад камуністаў і камсамольцаў, якія згубілі сваю камуністычнасьць і камсамольскасьць, і дыскрэдытуюць партыю. Аднак цяжкасьці яшчэ будуць і партарганізацыі гэта трэба бачыць. Ва ўсялякім выпадку падзеі ў Добрушы паслужаць на карысьць аздараўленьня ўсяе работы ў Добрушы, але гэты вурок павінен паслужыць усім нашым арганізацыям ад РК да ячэйкі і кожнага камуніста для таго, каб гэтыя вурокі не паўтараліся ў іншых мяйсцох

Бюро акругкому зробіць адсюль належныя вынікі і дасьць дырэктывы, якія павінны і прывядуць да поўнага аздараўленьня ў Добрушы, на гэта маюцца ўсе падставы.

---

М. Доўгапятава.

# Як працуюць нізавыя зьвенчакі партарганізацыі.

Досьлед АК паказаў, што, ня гледзячы на некаторы зрух у рабоце парторгаў у шэрагу прадпрыемстваў па ўзмацненьню сувязі і партуплыву на беспартыйную масу, усё-ж-ткі работа парторгаў на прадпрыемствах яшчэ недастаткова разгорнута. Якасны склад парторгаў паводле свайго партстажу і палітузроўню не адпавядае нашым запатрабаваньням.

Не ўважаючы на тое, што пры апошніх перавыбарах парторганаў абноўлены склад трохі палепшыўся (ячэйка галоўных майстэрняў „Двигатель"), аднак значная частка маладых парторгаў паводле партыйнага стажу 1927-28 г. (на фабрыцы „Днепр" з 23 парторгаў—14 з 1928 году; ёсьць нават два кандыдаты партыі). Ня лепш справа і ў адносінах іхнае палітпадрыхтоўкі. Палітузровень партарганізатараў дасьледваных прадпрыемстваў зусім недастатковы для таго, каб праз іх правільна арыентаваць партыйную і беспартыйную рабочую масу ў розных палітпытаньнях. Зусім ненармальна, калі беспартыйныя больш падрыхтаваны і больш разьвіты ня толькі за радавых партыйцаў, але і за партарганізатараў. Гэта ня можа ўплываць на іх аўтарытэт. Характэрным фактам можа быць наступны: адзін парторг з фабрыкі „Днепр" на запытаньне, як ён разумее прычыну хлебных цяжкасьцяў, адказаў: „Мы на індустрыялізацыю краіны купляем заграніцаю машыны, а таму многа вывозім туды хлеба". Значная частка парторгаў ня зусім знаёмы са сваімі абавязкамі. Некаторыя на гэтыя пытаньні адказваюць: „Абвяшчаем пра розныя сходы, што сакратар ячэйкі скажа ці даручыць, тое і робім". Адзін парторг ясна заявіў: „Я ня ведаю, што мне трэба рабіць". Пэўнага ўяўленьня пра сваю работу ў парторгаў няма. Часовае палажэньне ЦК КП(б)Б аб рабоце парторгаў у ячэйках яшчэ не прапрацована. Практычнае работы парторгі сярод членаў і кандыдатаў партыі ў большасьці выпадкаў не праводзяць, лічаць, што пытаньні вучоту і праверкі выкананьня членамі партыі сваіх нагрузак павінны тычыцца толькі бюро ячэйкі.

Няма вучоту настрояў рабочых і рэагаваньня на іх. Вось характэрныя факты: ячэйка галоўных майстэрняў у сувязі са здарэньнямі на „Октябре", абгаварвала гэтае пытаньне. Сярод некаторае часткі найбольш адсталых рабочых былі такія гутаркі, што, вось, нарабілі такога шуму, што нельга пра яўрэяў нічога і сказаць і г. д. А парторг на гэта недастаткова рэагаваў. На фабрыцы „Днепр" парторг, бачачы штодзённа грубасьць і антысэміцкія выпады з боку заг. цэху (камуніста), не рэагаваў і не сказаў пра гэта ў бюро ячэйкі, а толькі па ініцыятыве беспартыйнага рабочага гэты сменпарторг урэшце падпісаў заяву пра гэта ў бюро цэх. ячэйкі.

Няма яшчэ патрэбнага кіраўніцтва з боку парт'ячэек і сур'ёзнага падыходу да вылучэньня кандыдатур у парторгі. Нядобра праводзіцца

інструктаваньне іх па паасобных бягучых пытаньнях, пры чым пастановы, якія выносяцца ячэйкамі, зьяўляюцца не канкрэтнымі, а іхняе выкананьне не правяраецца. Вось характэрныя рашэньні некаторых ячэек пры заслухоўваньні парторгаў. Ячэйка „Двигатель“: „Прыцягнуць рабочых на сходы, рабіць растлумачальную работу па ўсіх пытаньнях бягучага характару, уцягваць у партыю“. Ячэйка краўцоў: „парторгу не праяўляць адміністрацыйных функцый, фабкому ўдзяляць больш увагу культрабоце, партыйцам лепш трымаць сябе“. Натуральна, што такія рашэньні парторгаў нічому не абавязваюць, не даюць магчымасьці правяраць выкананьня.

Пры такім палажэньні ня можа быць і гутаркі аб пасьпяховым правядзеньні ў жыцьцё тых задач, якія ўскладаюцца на парторгаў з-за адсутнасьці патрэбнага аўтарытэту і падрыхтоўкі да гэтае работы. Ня гледзячы на дырэктывы АК пра неабходнасьць адпаведнага падбору парторгаў, значнаю часткаю ячэек яны яшчэ ня выкананы. У сувязі з гэтым у тых ячэйках, дзе склад парторгаў няўдалы і не адпавядае палажэньню ЦК КП(б)Б, неабходна іх перагледзець, вылучаць на гэтую работу таварышоў больш падрыхтаваных палітычна, якія-б карысталіся аўтарытэтам сярод партыйных і беспартыйных рабочых. Пры зацьвярджэньні парторгаў на сходах неабходна растлумачыць партыйнай масе іхнія задачы.

У поўна якіх ячэйках да гэтага часу няма яшчэ яснасьці аб самой структуры парторгаў і адзначэньня каго лічыць цэхавым парторгам, каго зьвенчаковым і г. д. АК адпаведна з палажэньнем ЦК КП(б)Б і ўмовамі нашае акругі вызначыў наступную структуру: а) у цэхах, дзе няма цэхавых ячэек, вылучаюцца цэхавыя парторгі; б) у буйных цэхах, якія маюць некалькі вытворчых падразлучэньняў—зьвенпарторгі; в) у прадпрыёмствах, дзе працуюць зьменамі—зьменпарторгі; г) у паасобных групах беспартыйных рабочых, дзе ёсьць 1—2 камуністы—індывідуалы.

Асноўная задача, якая стаіць у бліжэйшы час перад арганізацыяй—гэта азнаёміць парторгаў з іхнімі абавязкамі, для чаго трэба практыкаваць склікаць нарады, каб прапрацаваць часовае палажэньне ЦК КП(б)Б. Поруч з гэтым трэба зьвярнуць увагу на ўцягненьне іх у адпаведныя гурткі для падняцьця тэарытычнага ўзроўню, забесьпячэньня адпаведнаю партыйнаю літаратураю, а таксама практыкаваць пэрыядычную перападрыхтоўку іх праз арганізаваньне курсаў—нарад. Ад бюро ячэйкі павінна быць узмоцнена дапамога і кіраўніцтва ў штодзённай рабоце парторгам шляхам сыстэматычнага скліканьня нарад для прапрацоўкі паасобных пытаньняў партыйнага жыцьця. На працягу выбарчага пэрыяду работа парторгаў буйных цэхаў павінна быць заслухана на пасяджэньнях бюро ячэек, пасьля чаго трэба ім даць канкрэтныя дырэктывы, а таксама праверыць выкананьне. Аднэю з умоў паляпшэньня работы парторгаў павінна зьявіцца праяўленьне ініцыятывы імі самымі і ўстанаўленьне сыстэмы ў рабоце. Ня можа быць такога палажэньня, каб работа парторгаў праводзілася ад выпадку да выпадку, зыходзячы з агульных задач цэхячэйкі, трэба даць канкрэтныя мерапрыёмствы на бліжэйшы час, напр.: у пэрыяд перазаключэньня калдагавароў, перавыбараў саветаў і г. д. Гэтым самым павялічыцца адказнасьць за работу. Для лепшае пастаноўкі вучоту ў рабоце трэба практыкаваць дзеньнікі. Па частцы ўзмацненьня работы парторгаў сярод камуністаў: трэба сваячасова інфармаваць іх пра важнейшыя рашэньні бюро ячэйкі і задачы, якія выцякаюць з умоў работы ў цэху.

Толькі пры такой пастаноўцы работы парторгі стануць сапраўды арганізатарамі партыйных і беспартыйных мас у сваім цэху.

У бліжэйшы час перад парторгамі стаіць асноўная і важнейшая задача гэта практычнае выкананьне пастаноў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб настойлівым і рашучым уцягненьні ў партыю рабочых і работніц, якія праяўляюць найбольшую палітычную стойкасьць у, пэрыяд цяжкасьцяй, асабістым прыкладам, якія дапамагаюць росту вытворчае і працоўнае дысцыпліны, якія ўпарта змагаюцца з бюракратызмам, і гэтым самым узмацняюць ленінскія шэрагі пралетарскага авангарду.

Парторгі на аснове агульна-генэральнай лініі партыі ў барацьбе з правым і левым ухілам і прымірэнчымі да іх адносінамі павінны ў канкрэтных умовах і абставінах работы вядомае ячэйкі растлумачыць членам партыі правільную партыйную лінію, паказаную ў рашэньнях лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, прыстасоўваць гэтыя рашэньні ў канкрэтнай барацьбе, каб перамагчы правую небясьпеку.

---

Н. Клебанаў.

# Выкананьне рашэньняў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) пра вярбоўку рабочых у партыю.

Пытаньні росту і рэгуляваньня складу арганізацыі за мінулы год стаялі перад нашай арганізацыяй, як адна з асноўных задач. Летась у студзені і жніўні месяцы бюро АК займалася вывучэньнем гэтага пытаньня і выносіла адпаведныя мерапрыемствы на далейшае ўзмацненьне росту. Цяпер праз паўгода пасьля апошняга рашэньня бюро АК па гэтым пытаньні і ў зьвязку з рашэньнем ЦК УсеКП(б) па пытаньню росту і рэгуляваньня сацыяльнага складу неабходна праверыць і прааналізаваць як выконваліся дырэктывы бюро АК, як расла наша арганізацыя, за чый лік, праверыць недахопы і вызначыць далейшыя задачы. Вынікі росту за 6 месяцаў паказваюць аб вялікім аўтарытэце нашае партыі, сувязі яе з масамі, а ад апошняга—імкненьні ў партыю. За 6 месяцаў у партыю ўступіла 496 чалавек; з іх—рабочых 351 ці 70 проц., сялян—124 ці 25 проц. і толькі 5 проц. служачых і інш. Пры чым асноўнае гэта тое, што ў гэтым складзе 351 рабочых ад варштату, 29 батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, 103 чалавекі, якія заняты ў сваёй і калектыўнай гаспадарцы. За гэты пэрыяд мы маем павялічэньне ўдзельнае вагі членаў партыі ў складзе арганізацыі з 71,27 проц. да 77,82 проц. Партпраслойка на паасобных нашых прадпрыёмствах (майстэрні „Рухавік рэвалюцыі“, „Праца“ і некаторыя іншыя) дасягае 35, 32 і 28 проц.

Трэба адзначыць, што сацыяльны склад нашае арганізацыі зьяўляецца здавальняючым, бо ў складзе арганізацыі мы маем 77,92 проц. рабочых і рабочых ад варштату 51,86 проц. Досыць зразумела, што яшчэ шмат трэба зрабіць для таго, каб урэгуляваць сацыяльны склад у адпаведнасьці з намечанымі практычнымі мерапрыемствамі ЦК УсеКП(б) у гэтых адносінах.

Аднак, пры агульным здавальняючым якасным і колькасным росьце трэба адзначыць, што дырэктывы бюро АК ад 1/VII-28 г. „Райкомам трэба прызначыць больш увагі пытаньню росту, асабліва за лік рабочых і батракоў, паставіўшы на бліжэйшых партыйных сходах пытаньні росту партарганізацыі“ у значнай частцы ня выкананы. Аб гэтым гаворыць тое, што ў другім паўгодзьдзі 1928 году ў параўнаньні з першым у партыю было прынята больш толькі на 51 чал., а батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых 29 чалавек, на 14 чалавек больш чым у мінулым паўгодзьдзі, а дырэктыва бюро АК ад 24/I-28 г. гаварыла: „Адзначаючы некаторае паніжэньне процанту жанчын у агульным складзе партарганізацыі—лічыць неабходным уцягненьне ў партыю работніц і батрачак, пры чым асаблівую ўвагу гэтаму пытаньню павінны аддаць ячэйкі КП(б)Б фабрыкі „Вэзуві“, фабрыкі „Дняпро“ і Добрускай фаб-

рыкі“. Гэта было вырашана больш чым год таму назад, а тымчасам і дасюль ня выканана.

Не ўважаючы на абсалютны рост за лік жанчын работніц, усё-ж узмацненьне тэмпу не дало павялічэньня, а наадварот, нават некаторае паніжэньне, бо ў першым паўгодзьдзі 28 г. было прынята 58, а ў другім—56, а ў процантных адносінах у складзе арганізацыі мы маем паніжэньне з 12,22 проц. да 11,86 проц. Добруская ячэйка прыняла ў партыю за ўвесь год 6 работніц. На некаторых буйных прадпрыемствах партпраслойка вельмі нязначная („Дняпро“—12,7 проц., „Сацыялізм“—13 проц., Добруш—17 проц.), таксама малая партпраслойка сярод найбольш кваліфікаваных рабочых. У акрузе ёсьць шэраг прадпрыёмстваў, якія налічваюць у сваім складзе рабочых, што жывуць у вёсцы і яны вельмі слаба ўцягваюцца ў партыю. Зроблены акругкомам досьлед па шэрагу буйнейшых ячэек акругі і вясковых ячэек выявіў цэлы шэраг прычын недастатковага тэмпу росту. Гэтыя прычыны ў асноўным бываюць ад таго, што слаба пастаўлена масавая работа, недастаткова наладжана работа з беспартыйным актывам, што адсутнічае з боку нізавых парторганаў патрэбная ўвага і сыстэматычная работа ў пытаньнях вярбоўкі ў партыю. Пастараемся коратка даць шэраг фактаў з досьледу. Не ўважаючы на неадначасовыя дырэктывы з боку АК і на такое важнае рашэньне лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) па гэтым пытаньні, рэдка дзе ў партячэйках яно прапрацоўвалася. Камісія, вылучаная Новабеліцкім РК, канстатуе, што: „пастанова ЦК аб уцягненьні рабочых і работніц у партыю знарок не прапрацоўвалася і не абгаварвалася як у партыйнай, так і ў беспартыйнай масе“. Такое становішча ёсьць і ў другіх мяйсцох, у тым ліку і ў большасьці вясковых ячэек. Там, дзе пытаньне не прапрацоўвалася, выносіліся адцягненыя рэзалюцыі, бюро ячэйкі з заводу „Сацыялізм“ пастанаўляе: „Партарганізатарам трэба ўзмацніць выхаваўчую работу і ўцягнуць рабочых у партыю, якія блізка стаяць, узмацніўшы сярод іх выхаваўчую работу, а пастанова-ж бюро аб скліканьні нарады парторгаў для прапрацоўкі дакладу і ўцягненьня ў партыю да гэтага часу ня выканана, сьледам чаго на працягу ўсяго 1928 году ў ячэйку ня было ніякага прыцёку.

Масавая работа, не ўважаючы на тое, што пра гэта мы больш за ўсё гаворым, не дае патрэбных вынікаў. Да гэтага часу мы не прыстасавалі яе да абслугоўваньня розных груп і пластоў рабочых, мала скарыстоўваем нават тыя магчымасьці, якія ёсьць, як правядзеньне гутарак у часе перапынку на сьняданьне, полудзень і г. д. Ня дзіўна, што на запытаньне да рабочых завода „Сацыялізм“ „ці праводзяцца ў вас гутаркі?“ быў такі адказ: „часам праводзяцца!“, а на запытаньне „хто ў вас апорг у цэху?“ адказалі: „ня ведаем, здаецца тав. Камека“.

Амаль зусім няма работы з рабочымі, што жывуць у вёсцы. Яны адарваны ад удзелу ва ўсёй культурна-масавай рабоце і ад усялякае грамадзкае работы. Бясспрэчна, што рэзэрвам для папаўненьня нашае партыі ў першую чаргу зьяўляецца наш перадавы рабочы, рабочы актывіст, аднак мы ня маем патрэбных вынікаў у рабоце з беспартыйным актывам. Як ні сьмешна, да гэтага часу некаторыя ячэйкі нават ня ведаюць, каго трэба лічыць актывам і лічаць, што работа з партыйным актывам—справа фракцыі фабкому. Так, напрыклад, бюро ячэйкі фабрыкі „Праца“, адзначыўшы, што да гэтага часу работа з беспартыйным актывам вядзецца слаба, выносіць такое рашэньне: „даручыць фракцыі фабкому наладзіць работу з беспартыйным актывам“. Новабеліцкі РК адзначае: „работа з беспартыйным актывам праводзіцца па ініцыятыве фракцыі фабкома без дастатковага кіраўніцтва

бюро партячэек, а пытаньні, якія абгаварваліся ў большасьці, мелі праф. кампанейскі характар. Да скліканьня актыву фракцыя фабкома падыходзіць фармальна, запрашае толькі таварышоў, якія фармальна заняты якой-небудзь работай і ня ўцягвае актывістаў блізкіх да партыі. Вельмі слаба беспартыйны актыў уцягваецца ў школу партадукацыі, як, напрыклад, на Добрускай фабрыцы, дзе ў школы ўцягнуты толькі дзесятак беспартыйных рабочых. Наогул на падрыхтоўку актыву да ўступленьня ў партыю аддаецца мала ўвагі. Партсходы слаба невед-ваюцца беспартыйнымі рабочымі, бо пра іх слаба паведамляюць. Калі справа тычыцца пра неэтычнасьць таго ці іншага камуніста, беспартыйныя на сходы не дапушчаюцца. На заводзе „Сацыялізм" рабочыя заяв лі: „ячэйка ад нас хаваецца, камуністы замкнуліся і з намі мала пра што дзеляцца". І сапраўды, на працягу году ячэйка больш займалася пытаньнямі разбору неэтычнасьці паасобных членаў ячэйкі. Беспартыйных запрашалі на сходы толькі тады, калі разьбіраліся агульныя кампанейскія пытаньні. Бясспрэчна замінае яшчэ і тое, што таварыша, які ўступае ў партыю, вельмі нагружаюць, у той час, калі, будучы беспартыйным актывістам, ён ня быў нагружаны. Старыя-ж члены і кандыдаты партыі ў некаторых арганізацыях (Добруш) зусім ня маюць ніякіх нагрузак, няўцягнуты ў школы, адрываюцца ад партыі. Хваравітыя зьявішчы ў паасобных ячэйках уплываюць на марудны рост партыі. Гэта сьцьвярджаецца на практыцы заводу „Сацыялізм", дзе рабочыя заявілі так: „Да гэтага часу ня было інтарэсу ўступаць у партыю, бо калі паглядзіш на работу нашае ячэйкі, дык яны толькі прызнаюць разьбіраць пытаньні пра п'янства і г. д." Чыстка партыі ад непажаданых элемэнтаў, якая надыходзіць, бясспрэчна дасьць значны штуршок да ўступленьня ў партыю лепшых рабочых.

Трэба адзначыць вельмі доўгі працэс прахаджэньня этапаў зацьвярджэньня анкет, калі прымаюць у партыю. Ім даводзіцца прайсьці сама менш 4—5 інстанцый. Часта гэта цягнецца да 3-х месяцаў. Вось асноўныя прычыны, якія не даюць магчымасьці ўцягнуць у партыю ўсё лепшае з рабочае клясы. Рашэньні лістападаўскага пленуму ЦК патрабуюць ад нас і ставяць перад РК і ячэйкамі наступныя асноўныя задачы:

1. Максымальная ўвага з боку РК і ячэек да пытаньняў вярбоўкі ў партыю рабочых, работніц, батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых. Трэба systэматычна адзін раз у 2—3 месяцы падводзіць вынікі, намячаць далейшыя мерапрыемствы, каб зьдзейсьніць агульна-партыйныя дырэктывы ў гэтай галіне.

2. Рашуча ўзяцца за выкананьне партдырэктыў як вышэйшых парторганаў, так і АК пра лепшую пастаноўку масавае работы, прыстасоўваць яе да абслугоўваньня адпаведных груп рабочых у адпаведнасьці з нашымі палітзадачамі і канкрэтнымі ўмовамі (тае ці іншае фабрыкі, саўгасу, калгасу, вёскі і г. д).

3. Узяць пад непасрэднае кіраўніцтва ячэек работу з беспартыйным актывам праз сыстэматычнае скліканьне нарад, дзе ставіць асноўныя палітычныя і гаспадарчыя пытаньні, даручыць ім адпаведныя партыйныя і грамадзкія заданьні. Уцягнуць у школы партадукацыі ў горадзе абсалютную частку актыву, а ў вёсцы ня менш за 30 проц. батракоў, сельска-гаспадарчых рабочых і батрацкага актыву павінна быць ахоплена ў сетку школ партадукацыі і вялікага ўцягненьня ў партшколы праз пэрсанальныя запрашэньні, лепшае апавяшчэньне і г. д.

4. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўзмацненьне прыцёку работніц праз палепшаньне работы сярод іх. Трэба ім дапамагаць падняць палітузровень, ліквідаваць няпісьменнасьць у індывідуальным

парадку, калі яны ня могуць наведваць школ, уцягваць іх у практычную грамадзкую работу. Тое самае павінна быць і ў адносінах да батрачак і калгаспадынь.

5. Трэба ўдасканаліць парадак зацьвярджэньня анкет з такім разьлікам, каб ад ячэйкі да РК анкета афармлялася ня больш аднаго месяцу.

Ясна, што сыстэматычная работа па вярбоўцы павінна быць разьлічана на ўцягненьне ў партыю сапраўды перадавых элемэнтаў рабочае клясы, асабліва рабочых і работніц з вялікім вытворчым стажам работы на буйных прадпрыемствах. Пры гэтым трэба няўхільна кіравацца і ажыцьцяўляць рашэньні лістападаўскага пленуму ЦК, дзе гаворыцца: „Самым настойлівым і рашучым чынам уцягваць у партыю тых рабочых і работніц, якія праяўляюць найбольшую палітычную стойкасьць у часы цяжкасьцяй, якія зьяўляюцца сапраўднымі пралетарскімі інтэрнацыяналістымі, якія асабістым прыкладам дапамагаюць росту вытворчасьці і трудавое дысцыпліны, горача і ўпарта змагаюцца з бюракратызмам, актыўна працуюць над сваім культурным разьвіцьцём і тым самым змогуць узмацніць ленінскія шэрагі пралетарскага авангарду“.

Мінулая работа нашае партарганізацыі гаворыць за тое, што пры належнай пастаноўцы партмасавае работы, ачышчаючыся ад чужога партыі элемэнту, мы гэтыя задачы, бязумоўна, выканаем.

---

# У ЦК КП(б)Б.

## Аб выніках перавыбараў парторганаў. Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б 25 лютага 1929 г.

1. Кампанія перавыбараў нізавых парторганаў праходзіла пад знакам разгорнутай самакрытыкі і значнага ўздыму актыўнасьці партмасы (на ячэйковых сходах выступала 40—70 проц. прысутных, на гарканфэрэнцыях у сярэднім 50 выступленьняў, на вясковых канфэрэнцыях звыш 40 выступленьняў), што сьведчыць аб значным палітычным росьце шырокіх партмас.

2. У ходзе кампаніі ў дастатковай ступені знайшла праламленьне дырэктыва аб мабілізацыі ўвагі ўсяе партмасы вакол асноўных гаспадарчых і палітычных задач партыі, пад пунктам погляду гэнэральнай праверкі вынікаў і якасьці работы ўсіх партарганізацый па ажыцьцяўленьню на справе гэнэральнай лініі, вызначанай XV зьездам УсеКП(б).

3. Пры здавальняючай і сваечасовай у агуле падрыхтоўцы і кіраўніцтве кампаніяй, як з боку парткомаў, так і ячэек, адзначыць, як буйнейшы недахоп у кіраўніцтве кампаніяй з боку парткомаў—нядосыць сваечасовае завастрэньне імі ў сваіх дырэктывах задач барацьбы з ідэолёгічнымі хістаньнямі ў шэрагах партарганізацый, у выніку чаго ў значнай частцы ячэек пытаньне аб барацьбе з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго не знайшло належнага адбітку, як у справаздачных дакладах, таксама і ў ходзе іх абгаварэньня.

4. Аднак гэты буйнейшы недахоп быў у значнай ступені выпраўлены ўжо ў ходзе перавыбараў ячэек. Да моманту-ж раённых партыйных канфэрэнцый і сходаў увага партмас была ўжо ў дастатковай ступені мабілізавана вакол задач барацьбы на два фронты з завастрэньнем асаблівай увагі на перамогу правай небясьпекі і прымірэнцтва да яе, што знайшло свой адбітак як у дакладах і спрэчках, таксама і ў пастановах перавыбарчых сходаў і конфэрэнцый.

5. У ходзе кампаніі знайшла цалком праламленьне дырэктыва аб далейшым разгортваньні ўнутры-партыйнай дэмакратыі, поўным забесьпячэньні выбарнасьці ўсіх парторганаў, у выніку чаго можна адзначыць значнае павышэньне зацікаўленасьці і сур'ёзныя адносіны партмасы да перавыбараў (актыўнае абгаварэньне кандыдатур, больш рашучыя адводы паасобных кандыдатур). Аднак заўважаецца шэраг паасобных фактаў парушэньня ўнутры-партыйнай дэмакратыі (Фрунзаўскі раён, партканфэрэнцыя, ячэйка Камвузу і інш.), а таксама настроі нецярпімасьці самакрытыкі з боку асобных таварышоў.

6. У выніку перавыбараў можна адзначыць:

а) павялічэньне нізавога кіруючага актыву (лік членаў бюро ячэек павялічыўся прыблізна на 8 проц.) і ўцягненьне новых кадраў парт. маладняка ў склад парторганаў (аднаўленьне бюро ячэек на 52,8 проц, складу сакратароў ячэек на 43,9 проц., гар. РК на 60 проц. і вяско-

вых РК на 40 проц., аднаўленьне сакратарскага складу ячэек на 42,6 проц., прайшло за лік былых членамі бюро ранейшага складу, па ўсіх парторганах павялічыўся значна % маладых па стажу 1927 г. і пазьней—партыйцаў; у складзе бюро ячэек на 19,3 проц., у складзе сакратароў ячэек на 19,2 проц., у складзе гор. РК на 2,6 проц., вясковых РК на 6,9 проц.);

б) побач са значным аднаўленьнем, новы склад парторганаў у дастатковай ступені забясьпечвае насьлядаваньне ў рабоце;

в) здавальняючы ў агуле сацыяльны склад нізавых парторганаў (рабочых у складзе бюро ўсіх ячэек 58,8 проц., у складзе бюро рабочых ячэек 86,1 проц., у складзе сакратароў ячэек 45,8 проц., у складзе сакратароў рабочых 85,2 проц., у складзе гор. РК—79,7 проц., у складзе вясковых РК—49 проц.) і склад па занятках (рабочых з вытворчасьці ў складзе бюро рабочых ячэек 61,5 проц., у складзе сакратароў рабочых ячэек 52,8 проц.);

г) павялічэньне ў складзе парторганаў жанчын (% жанчын павялічыўся ў складзе бюро ячэек на 1,9 проц., у складзе сакратароў ячэек на 1,1 проц., у складзе гор. РК на 3,1 проц. і ў складзе вясковых РК на 2,2 проц.) і батракоў і с. г. рабочых (% батракоў павялічыўся: у складзе бюро вясковых ячэек з 5,8 проц. да 6,3 проц., у складзе сакратароў вясковых ячэек навялічэньне з 5,2 проц. да 5,9проц. у складзе пленумаў вясковых РК павялічэньне з 3,2 проц. да 3,3 проц. і бюро вясковых РК з 0,3 проц. да 1,8 проц.);

д) здавальняючы нацыянальны склад парторганаў (у складзе бюро ячэек беларусоў 54.3 проц., яўрэяў 25,1 проц., у складзе сакратароў ячэек—беларусоў 67,7 проц., яўрэяў 15,8 проц.; у складзе гор. РК беларусоў 40,9 проц., яўрэяў 32,7 проц; у складзе вясковых РК беларусоў 68,1 проц., яўрэяў—10,8 проц.).

Адмоўным момантам зьяўляецца значнае пагоршаньне сацыяльнага складу гор. РК (% рабочых у складзе пленумаў РК зьменшыўся на 3,7 проц., у бюро на 4,6 проц.; % рабочых з вытворчасьці ў складзе пленумаў РК зьменшыўся на 4,4 проц., у складзе бюро на 0,1 проц.) і частковае пагоршаньне сацыяльнага складу сакратароў ячэек (зьмяншэньне % рабочых па сац. стану на 2,3 проц.) і вясковых РК (зьмяншэньне ў складзе пленумаў рабочых па сацыяльнаму стану на 1,5 проц.).

7. Акруговыя парт. канфэрэнцыі прашлі пад знакам высокай актыўнасьці дэлегатаў, шырока разгорнутай і рашучай крытыкі і самакрытыкі ўсіх недахопаў практычнай работы і кіраўніцтва парторганаў. Ідэолёгічнага згуртаваньня парторганізацыі ў барацьбе з усялякімі ідэолёгічнымі хістаньнямі ў сваіх шэрагах і вызначэньня чоткай палітычнай лініі ў барацьбе на два фронты з завастрэньнем асаблівай увагі на перамогу правай небясьпекі і прымірэнцтва да яе.

8. У выніку перавыбараў Акругкомаў можна адзначыць:

а) значнае аднаўленьне складу Акругкомаў (на 63,6 проц.);

б) павялічэньне % рабочых па сац. стану (з 61,9 проц. да 65,4 проц.) і рабочых з вытворчасьці (з 21,3 проц. да 26,6 проц.);

в) замацаваньне суадносін па нацыянальных адзнаках (48,4 проц. беларусоў і 24 проц. яўрэяў);

г) павялічэньне % жанчын (з 7,6 проц. да 11,7 проц.) і

д) значнае ўцягненьне батракоў і с.-г. рабочых (павялічэньне з 0,2 проц. да 1,1 проц.).

9. Перавыбарчая кампанія выявіла наступныя важнейшыя недахопы ў становішчы і рабоце партарганізацый:

а) недастатковае разуменьне часткай партыйцаў і нават паасобнымі нізавымі арганізацыямі (як у горадзе, так асабліва на вёсцы) сутнасьці і карэньняў абвастрэньня клясавай барацьбы і канкрэтных форм ея праяўленьня і наяўнасьць з боку паасобных партыйцаў недаацэнкі серадняка і задачы ўзмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку;

б) недастатковае разуменьне часткай партыйцаў і паасобнымі нізавымі арганізацыямі (асабліва на вёсцы) сутнасьці правай небясьпекі, яе рэальнасьці ва ўмовах уласнай арганізацыі, а таксама наяўнасьць сярод паасобных партыйцаў (асабліва на вёсцы) настрояў правага і прымірэнчага характару і іх праяўленьня на практычнай рабоце;

в) слабасьць і нездавальняючасьць пастаноўкі масава-палітычнай работы ва ўсіх партарганізацыях;

г) наяўнасьць шэрагу хваравітых зьявішчаў сярод паасобных партыйцаў, недастатковая рашучая барацьба з імі, і недастатковая работа па сыстэматычнай ачыстцы радоў партыі ад параспадаўшых элементаў.

Выходзячы з вынікаў перавыбараў парторганаў, ЦК прапануе:

а) Усім партарганізацыям непаслабна весьці барацьбу з усялякімі хістаньнямі і ўхіламі ад правільнай ленінскай лініі партыі згрупаваўшы асаблівую ўвагу на барацьбу з правай небясьпекай і прымірэнчымі да яе адносінамі, і непаслабна разгортваючы сапраўдную бальшавіцкую самакрытыку як унутры партарганізацыі, таксама і ў шэрагах рабочае клясы і шырокіх працоўных мас;

б) Усім партарганізацыям дакладна вывучыць матар'ялы перавыбарчай кампаніі (выступленьні, крытычныя заўвагі, прапановы і г. д.) і прыняць захады да выпраўленьня недахопаў і канкрэтных фактаў, выяўленых у ходзе абгаварэньняў справаздачных дакладаў;

в) Прызнаць неабходным правядзеньне ў бліжэйшы час ва ўсіх вясковых партарганізацыях спэцыяльных райпартсходаў для прапрацоўкі пытаньня аб клясавай барацьбе на вёсцы і лініі партыі ў адносінах да паасобных сацыяльных пластоў вёскі, асабліва па пытаньню ўзмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку і аб формах і мэтадах арганізацыі наступленьня на кулацка-капіталістычныя элемэнты вёскі;

г) Даручыць Аргаддзелу і Аддзелу па рабоце ў вёсцы зараз-жа па сканчэньні кампаніі перавыбараў саветаў, вывучыць пытаньне аб палепшаньні масавай палітычнай работы на вёсцы, асабліва работы з беспартыйным бядняцкім, серадняцкім актывам;

д) У зьвязі з тым, што ў ходзе выбараў выявілася адсутнасьць дастатковае яснасьці ў пытаньні аб мэтадах і формах кіраўніцтва выбарамі нізавых парторганаў ва ўмовах ажыцьцяўленьня ўнутры-партыйнай дэмократыі і поўнай выбарнасьці парт. інстанцый, а таксама наяўнасьць шэрагу недахопаў у самой тэхніцы правядзеньня выбараў, у паказаных умовах, даручыць Аргаддзелу дэтальна вывучыць увесь вопыт мінулай кампаніі і распрацаваць адпаведныя практычныя паказаньні партарганізацыям па гэтаму пытаньню;

е) У сувязі з тым, што ў ходзе перавыбарчай кампаніі выявілася, што рад работнікаў, якія зьняты з работы як не апраўдаўшыя давер'е і скампрамэтаваўшыя сябе на рабоце, перасоўваюцца ня рэдка на інш. кіруючую работу, часта яшчэ больш адказную—прапанаваць Аргаддзелу распрацаваць пытаньне аб барацьбе з „перадзьвіжэнствам" і аб парадку далейшага скарыстаньня такіх работнікаў.

## Рэзалюцыя нарады рэдактароў па пытаньню аб удзеле беларускага друку ў перавыбарчай кампаніі саветаў.

Абгаварыўшы пытаньне аб удзеле беларускага друку ў перавыбарчай кампаніі саветаў, нарада рэдактараў адзначае шэраг станоўчых бакоў у асьвятленьні ў газэтах гэтае важнае палітычнае кампаніі (сыстэматычнае асьвятленьне ходу кампаніі на мясцох, своечасовае рэагаваньне на ўсё больш значныя факты абвастрэньня клясавае барацьбы), разам з тым адзначае цэлы шэраг недахопаў па сутнасьці, якія выказваюцца ў наступным:

а) Амаль усе газэты, як цэнтральныя, так і акруговыя, пачалі падрыхтоўку да перавыбараў саветаў са спазьненьнем, дзякуючы чаму ня ўдалося своечасова і ў дастатковай ступені згрупаваць увагу ўсіх арганізацый і шырокай пралетарскай грамадзкасьці на важнейшых палітычных задачах перавыбарчае кампаніі;

б) Важнейшыя палітычныя задачы, пастаўленыя партыяй у сувязі з перавыбарамі саветаў, ня былі ў дастатковай меры канкрэтызаваны ў кіруючых артыкулах і матар'ялах;

в) Работа з рабселькораўскай масай па прыцягненьню яе да ўдзелу ў перавыбарах саветаў рэдакцыямі газэт праведзена слаба;

г) Аддаючы, у агульным, дастатковую ўвагу асьвятленьню недахопаў і адмоўных бакоў працы мясцовых арганізацый, а таксама завастраючы ўвагу на пытаньні абвастрэньня клясавае барацьбы (выступленьнях кулацтва, духоўніцтва і антысавецкіх элемэнтаў) газэты дужа мала асьвятлілі станоўчыя моманты (прыклады арганізаванасьці, зьяднаньне беднаты і выкрываньня беднатою кулацкіх учынкаў) дзякуючы чаму магло стварыцца ўражаньне, што бядняцка-серадняцкія масы вёскі пад кіраўніцтвам партыйных і грамадзкіх арганізацый ня толькі не наступаюць на кулацтва, а слаба і няўмела абараняюцца ад кулацкіх нападаў;

д) Рэдакцыі газэт ня выкарысталі ў дастатковай меры ўсіх магчымасьцяй, якія былі для атрыманьня больш поўных матар'ялаў па арганізацыі і падрыхтоўцы беднаты, удзелу батрацтва, удзелу і ролі сельскае інтэлігэнцыі ў перавыбарчай кампаніі саветаў, кіраўніцтва і палітычнае лініі мясцовых партыйных органаў і арганізацыі камсамолу і іншых;

е) Як адзін з буйнейшых недахопаў неабходна адзначыць недахоп матар'ялаў, якія асьвятлялі-б адносіны серадняков, іх актыўнасьць у перавыбарах;

ж) Газэты не праявілі ў перавыбарчай кампаніі саветаў належнае ініцыятывы ў пастаноўцы цэлага шэрагу пытаньняў (пераклічка, пасылка рабочых брыгад і г. д.);

з) Лёзунгі, якія даваліся ў газэтах, часамі не адпавядалі зьместу друкуемага матар'ялу, не заўсёды ў дастатковай ступені згрупоўвалі ўвагу на важнейшых палітычных і практычных задачах перавыбараў саветаў.

Нарада рэдактароў лічыць патрэбным улічыць усе паказаныя недахопы і прапануе ў далейшым правесьці наступнае:

1. У бліжэйшыя дні арганізаваць шырокія нарады рабкораў і насьценкораў, на якіх паставіць пытаньне аб удзеле ў перавыбарах саветаў рабкораўскае масы, прапрацаваць пытаньне адносна характару і якасьці рабкораўскага матар'ялу.

2. Усім рэдакцыям газэт накіраваць магчымую колькасьць адказных работнікаў рэдакцыі ў вёскі для ўдзелу на выбарчых сходах для асьвятленьня актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, удзелу ў

перавыбарах батрацтва, вясковае інтэлегэнцыі, рабочых брыгад, прафсаюзных і партыйных арганізацый.

3. Рэдакцыям газэт вывучыць і асьвятліць вопыт пасылкі рабочых брыгад на вёску і за ўвесь пэрыяд, які застаўся да перавыбараў сельсаветаў, паўней асьвятліць пытаньне аб уплыве на вёску з боку рабочых накіраваных на перавыбары. Зьвязацца з выехаўшымі таварышамі на вёску для атрыманьня ад іх матар'ялаў.

4. Газэтам арганізаваць конкурсы-спаборніцтвы паміж паасобнымі выбарчымі вучасткамі і сельсаветамі на процант яўкі, арганізаванасьць бядняцка-серадняцкіх мас, удзел сялянак у перавыбарах саветаў. Разам з гэтым неабходна асьвятляць работу паасобных актыўных удзельнікаў беднаты і батрацтва на перавыбарах.

5. Рэдакцыям газэты ўжыць меры да палепшаньня правядзеньня конкурсу на лепшую сэкцыю і камісію саветаў і забясьпечыць найбольш поўнае асьвятленьне станоўчых і адмоўных бакоў іхнае работы.

6. Даручыць газэтам паўней асьвятляць работу нацсаветаў і вынікі перавыбараў нацсаветаў, актыўнасьць розных груп нацменшасьцяй і г. д.

7. З дастатковаю паўнатою асьвятляючы і ў далейшым усе працэсы клясавае барацьбы, якая адбываецца на вёсцы вакол перавыбараў саветаў, газэтам разам з гэтым значна паўней, чым да гэтага часу, асьвятляць усе дасягненьні, станоўчыя моманты, прызначаць дастатковае месца асьвятленьню добрых прыкладаў і ўзораў арганізаванасьці беднаты, дружнага падтрыманьня з боку серадпякоў і наступленьня на капіталістычныя варожыя элемэнты гораду і вёскі.

8. Ужыць усе неабходныя меры для дастатковага асьвятленьня актыўнасьці і арганізаванасьці батракоў і сельгаслесрабочых, а таксама шырока асьвятліць ролю калгасьнікаў у перавыбарчай кампаніі саветаў.

9. Удзяліць значна больш увагі падбору яскравых, палітычна вытрыманых баявых лёзунгаў з тым, каб гэтыя лёзунгі адпавядалі матар'ялу, які даецца.

10. Даручыць рэдакцыям газэт правесьці нарады рэдактароў насьценных газэт для прапрацоўкі ўсіх пытаньняў, якія зьвязаны з удзелам насьценгазэт у перавыбарах гарсаветаў, а таксама правяраць ход асьвятленьня кампаніі перавыбараў у насьценных і шматтыражных газэтах.

11. Пасьля сканчэньня перавыбараў высьвятліць вынікі перавыбараў (сацыяльны склад зноў абраных саветаў і рэвізійных камісій, высоўваньне рабочых і работніц, беднякоў і батракоў на работу ў савецкі апарат і г. д.).

12. Даручыць рэдакцыям газэт усебакова асьвятляць судовыя працэсы над клясава-варожымі элемэнтамі, якія вынікаюць у ходзе кампаніі перавыбараў.

## Рэзалюцыя па дакладу тав. Гамарніка.

### „Чарговыя задачы беларускага друку".

У зьвязку з ускладненьнем задач сацыялістычнага будаўніцтва, абвастрэньнем клясавай барацьбы ў горадзе і асабліва ў вёсцы, узмацненьнем супраціўленьня клясавага ворага сацыялістычнаму наступленьню на ўсіх франтох эканамічнага і культурнага будаўніцтва, роля друку, як прылады ў рабоце па мабілізацыі ўвагі і арганізацыі мас вакол чарговых лёзунгаў партыі, набывае асабліва важнае і адказнае значэньне.

У гэтых умовах галоўнейшымі задачамі друку зьяўляецца: ідэалёгічная вытрыманасьць яе прадукцыі, сваечасовасьць сыгналізаваньня і адпору вылазак клясавага ворага, барацьба супроць усякіх ухілаў ад ленінскае лініі, як супроць рэштак трацкіскай ідэалёгіі, так і асабліва супроць правага, адкрыта апартуністычнага ўхілу і прымірэнчых адносін да іх.

Задачы гаспадарчага будаўніцтва ў БССР, якія зьяўляюцца „стрыжнем усяе работы КП(б)Б", на ўвесь надыходзячы пэрыяд набываюць асабліва актуальнае значэньне і ўвес час павінны знаходзіцца ў цэнтры ўвагі партыйнага савецкага друку Беларусі.

Асаблівая ўвага нашых газэт павінна быць зьвернута на задачы папулярызацыі 5-ці гадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці БССР і мабілізацыі шырокіх рабочых мас на выкананьне гэтага пляну, на праверку палепшаньня якасных паказчыкаў прамысловасьці (зьніжэньне сабекошту, павышэньне якасьці прадукцыі і інш.).

У адносінах сельскае гаспадаркі, нарада, у адпаведнасьці з пастановамі лістападаўскага пленуму ЦК КП(б)Б, ставіць перад усімі газэтамі Беларусі, асабліва перад сялянскімі, задачу ўсямернага разгортваньня сыстэматычнае прапаганды сярод шырокіх працоўных мас агрыкультурных мерапрыемстваў, якія дапамагаюць уздыму сельскае гаспадаркі, павышэньню ўраджайнасьці сялянскіх палёў, пашырэньню сырцовай базы нашай прамысловасьці, адначасова газэты павінны з асаблівай вострасьцю ставіць пытаньне калектывізацыі сельскае гаспадаркі, як „рашаючага асноўнага шляху ўздыму і рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, уздыму маламоцных і серадняцкіх гаспадарак".

Нарада рэдактароў канстатуе зьніжэньне за апошні час тэмпу разгортваньня самакрытыкі ў нашых газэтах. Асабліва слаба мабілізуецца газэтамі ўвага рабочых мас па барацьбе з недахопамі і адмоўнымі зьявішчамі на вытворчасьці і ў рабочым быце (прагулы, п'янства і г. д.). Пралетарская самакрытыка павінна пранізваць усе нашы газэты з пачатку і да канца. Павінна быць забясьпечана неадкладнае рэагаваньне на дзелавыя ўказаньні рабочых з боку зацікаўленых асоб і ўстаноў.

Нарада лічыць надзвычайна слабай (асабліва за апошнія месяцы) работу нашых газэт па папулярызацыі пытаньняў абароны краіны, ваенізацыі насельніцтва, асьвятленьні жыцьця і быту Чырвонае арміі. Гэта работа друку, ва ўмовах прыгранічнага становішча БССР і складанасьці сучаснага міжнароднага становішча СССР, мае першачарговае значэньне. У прыватнасьці, трэба зьвярнуць выстарчальную ўвагу на „агляд Чырвонае Казармы", што цяпер адбываецца.

Вялізнае значэньне ў БССР мае работа па практычным вырашэньні нацыянальнага пытаньня, асабліва па беларусізацыі. Выразная ленінская лінія ў вырашэньні пытаньняў нацпалітыкі, барацьба з усякім шавінізмам і нацыяналізмам, асабліва з антысэмітызмам, узмацненьне інтэрнацыянальнага выхаваньня мас — вось важнейшыя задачы, якія стаяць перад друкам БССР.

Абвастрэньне клясавае барацьбы ў краіне знаходзіць сваё адлюстраваньне і на культурным фронце (дыскусія па тэатральных пытаньнях, ліст трох пісьменьнікаў і інш.). Гэта патрабуе ўзмацненьня ўвагі партыі, а значыцца, і партыйна-савецкіх газэт да пытаньняў культурнага будаўніцтва, да правядзеньня выразнай клясавай лініі ў рабоце на гэтым фронце. Газэты павінны зьвярнуць таксама значна большую ўвагу на пытаньні барацьбы за пісьменнасьць, клюбнае будаўніцтва, школьную справу і г. д.

Нарада канстатуе слабую пастаноўку ў газэтах аддзелаў партжыцьця, запоўненых цяпер у значнай меры сухім, афіцыйным матар'ялам (рэзалюцыі, прывітаньні і г. д.). На будучы час трэба ажывіць гэтыя аддзелы, зьвязаўшы праз іх газэту з парткомамі і іх аддзеламі і арганізаваўшы вакол аддзелаў партжыцьця актыў ячэек і парткомаў.

Невыстарчальная масавая работа газэт і работа рэдакцый па арганізацыі і выхаваньні рабселькораў. На гэты бок павінна быць зьвернута ў далейшым асаблівая ўвага рэдакцый і парткомаў. Усе гэтыя вялізныя задачы, якія партыя цяпер ставіць перад друкам, могуць быць выкананы пры ўмове далейшага ўзмацненьня рэдакцый вытрыманымі працаўнікамі-камуністамі, шляхам стварэньня для цяперашніх рэдакцыйных кадраў абстаноўкі, пры якой яны маглі-б расьці і вучыцца (водпускі на вучобу), а таксама шляхам ачысткі рэдакцыйных апаратаў ад чужых элемэнтаў.

## Рэзалюцыя па дакладу т. Асьмова.

*Вынікі IV-й Усесаюзнай нарады рабселькораў і задачы рабселькораўскага руху ў Беларусі.*

Нарада рэдактароў акруговых і цэнтральных газэт Беларусі цалком і поўнасьцю ўхваляе пастановы IV-й Усесаюзнай нарады рабселькораў пры „Правде", заклікае ўсіх працаўнікоў друку і рабселькораў да вывучэньня і правядзеньня гэтых пастаноў у жыцьцё.

Спэціфычныя ўмовы Беларусі: эканамічная адсталасьць, шматнацыянальны склад насельніцтва, прыгранічнае становішча ўзмацняюць неабходнасьць для партыі і савецкае ўлады ўцягненьня ў будаўнічую работу самых шырокіх мас працоўных гораду і вёскі. Таму праблемы рабселькораўскага руху, як руху масавага, заклікенага быць адным з каштоўных памоцнікаў партыі і савецкае ўлады, набываюць у нас, у Беларусі, асабліва актуальнае значэньне.

У мэтах далейшага замацаваньня і яшчэ больш шырокага разьвіцьця рабселькораўскага руху ў Беларусі, нарада рэдактароў лічыць неабходным ажыцьцяўленьне наступных мерапрыемстваў, якія выцякаюць з пастаноў IV Усесаюзнае нарады рабселькораў.

### I. Па лініі партыі.

Партарганізцыям трэба стварыць сапраўдны пералом у справе кіраўніцтва рабселькораўскім рухам і дапамозе рабоце рабселькораў. Ячэйкі, Райкомы і Акругкомы партыі павінны сыстэматычна заслухоўваць даклады аб стане рабселькораўскага руху на прадпрыемстве, у раёне і акрузе, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на высьвятленьне фактаў прасьледваньня рабселькораў і прыняцьце адпаведных мер да абароны прасьледуемых. Неабходна, каб ЦК КП(б)Б зьвярнуўся са спэцыяльным лістом да мясцовых партарганізацый па пытаньні аб правядзеньні ў жыцьцё пастаноў IV Усесаюзнай нарады рабселькораў. Гэты ліст павінен быць дэтальна распрацаваны на адчыненых сходах усіх ячэек КП(б)Б. Партячэйкі павінны несьці поўную адказнасьць за становішча і кіраўніцтва рабселькораўскай работай.

### II. Па лініі рэдакцый.

Неабходна, каб у рэдакцыі кожнай акруговай і цэнтральнай газэты быў арганізаваны моцны рабселькораўскі аддзел. У кожным раёне павінен быць выбарны раённы арганізатар рабселькораў. Адказнасьць за стан рабселькораўскага руху і кіраўніцтва насьценгазэтамі і раб-

селькораўскай працай ў акрузе нясе рэдакцыя акруговай газэты, а дзе няма газэты—акруговы арганізатар. Пытаньньне аб арганізацыйным цэнтры кіраўніцтва рабселькораўскім рухам у рэспубліцы вырашыць па атрыманьні адпаведных дырэктыў ЦК УсеКП(б). Рэдакцыі ўсіх газэт павінны безадкладна прыступіць да работы па правядзеньню сэмінарыяў для рабселькораўскага актыву. Усім газэтам Беларусі наладзіць сыстэматычнае асьвятленьне пытаньняў рабселькораўскае працы. Пры ўсіх рабселькораўскіх аддзелах газэт павінны быць арганізаваны бюро дасягненьняў. Рэдакцыі газэт павінны больш выразна паказваць вынікі па заметках, прысьвячаючы асобныя пэрыядычныя агляды гэтай справе такім чынам, каб дапамагаць разгортваньню самакрытыкі праз друк і ўцягваць у рабселькораўскую працу яшчэ больш значныя колы рабочых і вясковага актыву. У мэтах большага ўцягненьня работніц і сялянак у рабселькораўскі рух, рэдакцыям зьвярнуць асаблівую ўвагу на захаваньне рабселькорак.

У гэтых мэтах неабходна значна палепшыць і больш рэгулярна весьці ў газэтах аддзелы аб выніках заметак („Газэта дапамагла", „Водгукі").

Адказы гаспадарнікаў і адміністратараў савецкіх установ зусім угрунтаваныя, ці якія падцьвердзіліся пры праверцы—абавязкова зьмяшчаць у газэту, зьнішчаючы нядбайныя адносіны да іх з боку рэдакцый.

Агульныя праверкі ступені разгортваньня на заметкі кожнай рэдакцыі (Бюро) рабіць адзін раз у месяц.

Сьпісы ўстаноў і прадпрыемстваў, якія доўга (больш за месяц) не адказваюць на заметкі, пэрыядычна друкаваць у сваёй газэце і перадаваць гэтыя весткі для адпаведнага рэагаваньня ў кантрольныя органы. Рэдакцыі ўсіх газэт павінны безадкладна пачаць кампанію папулярызацыі і распаўсюджаньня сярод рабселькораў і партарганізацый кіруючай рабселькораўскай літаратуры і ў асаблівасьці „Р-К К-та". Нарада лічыць неабходным выданьне кіруючай рабселькораўскай літаратуры на беларускай мове і мовах нацменшасьцяй.

Рэдакцыі друкаваных газэт, сумесна з партарганізацыямі, павінны прыняць меры да арганізацыі ў кожным калгасе, налічваючым 30 і больш членаў, насьценнай газэты.

### III. Па лініі рэдкалегій насьценгазэт.

Неабходна практыкаваць выхад насьценгазэт ня менш чым адзін раз у месяц. Пляны работы рэдкалегіі павінны ўключаць у сябе пытаньні, якія стаяць у пляне работы ячэйкі, фабзавмясцкому, установы і інш. Пры кожнай рэдкалегіі павінна быць арганізавана „Бюро дасягненьняў". Кожная рэдкалегія павінна весьці вучот сваім рабселькорам і свае работы па формах, прынятых IV-й нарадай. Кожная рэдкалегія робіць справаздачу аб сваёй рабоце перад раённым арганізатарам рабселькораў. Рэдкалегіі павінны ўзмацніць масавую работу насьценгазэт (агляды, сходы чытачоў, конкурсы і інш.), імкнучыся да ўцягненьня ў рады рабселькораў самых шырокіх пластоў працоўных гораду і вёскі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне батрацтва, рабочых савгасаў, членаў калектыўных гаспадарак і жанчын.

Насьценгазэты Беларусі, як правіла, павінны выходзіць на беларускай мове. Нацменшасьцям павінна быць забясьпечана магчымасьць абслугоўваньня іх у насьценгазэце на роднай мове.

### IV. Па лініі прафсаюзаў, Наркамасьветы і с/саветаў.

Неабходна, каб ЦСПСБ даў указаньні мясцом аб замацаваньні пэўнага проценту з культфонду спэцыяльна на патрэбы насьценгазэты. Нізавыя праворганы павінны аказваць усямерную дапамогу рабоце

рэдкалегій (прадстаўленьне памяшканьня, забясьпячэньне тэхнічнымі прыладамі і інш.). Неабходна, каб НКАсьветы з сродкаў, адпускаемых на культурна-асьветную работу, пэўны процант браніраваў для падтрыманьня і арганізацыі насьценгазэт на вёсцы. Неабходна, каб праф. арганізацыі, асабліва нізавыя (фабкомы), аказвалі сталае садзейнічаньне ў дасягненьні рэальных вынікаў па заметках і наогул стваралі атмасфэру ўвагі і дапамогі насьценгазэтам і рабселькораўскай працы. Сельсаветы і вясковыя грамадзкія арганізацыі павінны аказваць сталую ўсямерную дапамогу рэдкалегіям насьценгазэт.

### V. Па лініі РСІ і НКЮ.

Неабходна, каб ЦКК РСІ правярала выкананьне даных ім указаньняў адносна сваечасовага рэагаваньня на заметкі рабселькораў. Асобы і ўстановы, якія сыстэматычна замоўчваюць дзелавыя ўказаньні рабселькораў, надрукованыя ў насьценгазэце, або ў друкаванай газэце, павінны прыцягвацца да адказнасьці.

НКЮ павінен паскорыць працэс сьледзтва па справах аб прасьледваньнях рабселькораў, прыцягваючы да адказнасьці ня толькі саміх прасьледавацелей, але і тых прадстаўнікоў устаноў, якія ведалі аб прасьледваньні і ня прымалі адпаведных мер.

## 1401. Аб палепшаньні партаддзелу газэты „Зьвязда“.

*(З прат. № 62 Сакр. ЦК КПБ ад 2—9 студзеня 1929 г.).*

У мэтах палепшаньня партаддзелу „Зьвязды“, Сакратарыят ЦК лічыць неабходным у дадатак да пастановы Сакратарыяту ЦК ад 27/III 1928 г.

1) Практыкаваць у „Зьвяздзе“ папярэдняе абгаварэньне пытаньняў парт. будаўніцтва, шляхам сыстэматычнага асьвятленьня іх (плянавыя пытаньні Бюро ЦК, аддзелаў ЦК і г. д.).

2) Пашырыць у газэце інфармацыю аб рабоце ЦК, ЦКК, ЦК ЛКСМБ і Менскага Акругкому шляхам:

а) выдзяленьня ў ЦК КП(б)Б двух, у ЦК ЛКСМБ аднаго і ў АК аднаго таварыша, на абавязкі якіх ускласьці сталае інфармаваньне парт. аддзелу „Зьвязды“ аб рабоце аддзелаў ЦК;

б) загадчыкам аддзеламі і працаўнікам ЦК узмацніць інфармаваньне і забясьпячэньне матар' яламі „Зьвязды“ аб рабоце як сваіх аддзелаў, так і наогул розных галін партыйнае працы, інфармацыю ў газэтах аб рашэньнях Бюро і Сакратарыяту ЦК даваць з ведама Сакратара ЦК;

в) газэце дабіцца павялічэньня кадраў парткораў, у першую чаргу на буйных прадпрыемствах, за кошт ячэйковых інфарм. арганізатараў;

г) прасіць ЦКК вылучыць таварыша для інфармаваньня „Зьвязды“ і забясьпечыць газэту адпаведнымі матар'яламі аб рабоце ЦКК;

д) практыкаваць шырэй пастаноўку асобных пытаньняў у парадку абмену думкамі і ў парадку дыскусійным.

3) Партаддзелу „Зьвязды“ палепшыць асьвятленьне жыцьця мясцовых партарганізацый:

а) прапанаваць АК і РК КП(б)Б вылучыць таварышоў, на абавязак якіх ускласьці стала карэспандыраваньне ў „Зьвязду“;

б) значна больш асьвятляць ход абсьледваньня ЦК мясцовых арганізацый, прыцягваючы да асьвятленьня работы арганізацыі ня толькі інструктароў ЦК, але і камуністаў і беспартыйных рабочых абсьледаваемага раёну;

в) ажывіць парт. аддзел, шляхам большага разгортваньня ўнутрыпартыйнай самакрытыкі, узмацненьня барацьбы з недахопамі парт. апарату, прыцягваючы да карэспандаваньня ў „Зьвязду“ большы лік камуністаў, а таксама палепшыць пастаноўку парт. аддзелу (больш жывая падача матар'ялу і г. д.);

г) пэрыядычна асьвятляць жыцьцё мясцовых парт. арганізацый па матар'ялах мясцовых газэт.

д) наладзіць сыстэматычнае асьвятленьне выкананьня пастаноў ЦК і ЦКК як па пытаньнях парт. будаўніцтва, так і па іншых пытаньнях.

---

# У ЦКК КП(б)Бел.

## Аб узмацненьні рэагаваньня на крытыку ў друку і ў насьценгазэтах.

Па праверцы рэагаваньня на крытыку ў друку і насьценгазэтах [1]) Прэзыдыум ЦКК зацьвердзіў наступныя прапановы (пастанова ад 15/I-29 г., прат. № 3):

1. З мэтаю ўзмацненьня ўдзейнічаньня крытыкі ў друку ўстанавіць, як правіла, што асноўным органам, які дае рух заметкам у друку (як зьмешчаным у друку, гэтак і ня зьмешчаным) і наглядае за іх вынікамі—зьяўляюцца *Бюро Расьследваньняў пры рэдакцыях газэт;* у зьвязку з гэтым зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю гэтых Бюро пры рэдакцыях газэт у адносінах падбору адпаведных работнікаў (як асноўных, так і па лініі тэхнічнага абслугоўваньня), а таксама ў сэнсе сталай увагі гэтаму Бюро з боку кіруючых работнікаў рэдакцый газэт; устанавіць строгі *вучот* усіх заметак, патрабуючых рэагаваньня і *кантроль* за рухам расьследваньняў. Выпрацаваць адпаведныя стандартныя формы, якія-б улічвалі патрабаваньні правільна наладжанага вучоту і кантролю за вынікамі рабселькораўскіх заметак (колькасны вучот заметак, характар іх, прыкладны сьпіс адрасатаў, каму дасылаецца на расьследваньне, тэрміны, вынікі расьследваньняў, форма давядзеньня іх да ведама рабочай грамадзкасьці і г. д.). Для расьследваньня заметак і праверкі адказаў па заметках—Бюро расьследваньняў арганізаваць вакол сябе сталую групу рабкораў і селькораў (з рабселькораўскага актыву), якім даваць гэткія даручэньні з прыцягненьнем рабочых і нізавога актыву служачых ва ўстановах. У зьвязку з шэрагам фактаў разгалашэньня псэўдонімаў рабселькораў пры пасылцы заметак на расьследваньне—яшчэ раз падкрэсьліць, што адказнымі за захаваньне ў сакрэту прозьвішчаў аўтараў заметак—зьяўляюцца рэдакцыі газэт. Пры выкрыцьці фактаў злоснага разгалашэньня псэўдонімаў—неабходна ўжыць на практыцы даўно існуючыя артыкулы аб пакараньні за гэтыя злачынныя дзействы. Выпрацаваць адпаведны тэхнічны парадак, які-б забясьпечыў рэдакцыям газэт неразгалашэньне псэўдонімаў.

2. Паставіць перад рэдакцыямі газэт задачу больш выразна паказваць вынікі і дасягненьні па заметках, прысьвячаючы паасобныя пэрыядычныя агляды гэтай справе, каб гэтым самым садзейнічаць яшчэ большаму разгортваньню самакрытыкі праз друк і ўцягваць ў рабселькораўскую работу яшчэ больш значныя колы рабочых і вясковага актыву: З гэтаю мэтаю неабходна значна палепшыць і больш рэгулярна весьці ў газэтах аддзелы аб выніках заметак („Газэта дапамагла“, „Водгукі“). Агульныя праверкі ступені рэагаваньня на заметкі кожнай рэдакцыі (Бюро) вытвараць адзін раз у месяц. Сьпісы ўстаноў і прадпрыемстваў, якія доўга (больш за месяц) не адказваюць на

[1]) Вынікі гэтай праверкі асьветлены ў № 1 „Бальшавіка Беларусі“ за 1929 г. (у арт. т. М. Зярніцкага).

заметкі, пэрыядычна друкаваць у сваёй газэце і перадаваць гэтыя весткі для адпаведнага рэагаваньня ў кантрольныя органы.

3. Асноўнымі органамі на мяйсцох, якія павінны ўсямерна садзейнічаць сваечасоваму і дзелавому рэагаваньню на заметкі ў друкаваных і насьценных газэтах—зьяўляюцца фабзавмясцкомы і парт'ячэйкі.

На буйных прадпрыемствах і ва ўстановах *лічыць мэтазгодным арганізацыю суадпаведна рашэньням 4-й Усесаюзнай Нарады рабселькораў спэцыяльных Бюро Дасягненьняў пры рэдкалегіях насьценгазэт,* задача якіх—забясьпечыць узьдзейнічаньне рабселькораўскіх заметак у насьценгазэтах. Бюро дасягненьняў павінна складацца з прадстаўнікоў рэдкалегіі, рабкораў, раб. заседацеля Бюро Скаргаў РСІ, ці сябра гарсавету, фабзавмясцкому, парт'ячэйкі, а таксама прадстаўніка адміністрацыі. Асноўная работа Бюро—гэта вытварэньне расьсьледваньняў і праверка выкананьня прапаноў як па заметках у насьценгазэтах, так і па заметках у друкаваных газэтах, якія тычацца данага прадпрыемства ці ўстановы, а таксама вядзеньне вучоту ўзьдзейнічаньня заметак і асьвятленьне ў друку вынікаў заметак. Да работы па расьсьледваньню заметак Бюро Дасягненьняў прыцягваюць рабкораў, нізавы парт. і прафактыў, дэпутатаў саветаў, дэлегатак, „лёгкую кавалерыю" і інш. Расьсьледваньні, якія патрабуюць умешваньня органаў РСІ ці пракуратуры,—перадаюцца апошнім Бюро Дасягненьняў непасрэдна (падрабязнае палажэньне пра Бюро Дасягненьняў апублікавана ў рашэньнях 4-й Усесаюзнай Нарады Рабселькораў—лістапад—сьнежань 1928 г.).

4. Побач з гэтым абавязаць адміністратараў устанавіць сталы нагляд за заметкамі ў мяйсцовых і цэнтральных газэтах і весьці спэцыяльны вучот гэтым заметкам, каму, на які тэрмін даручана расьсьледваньне, ці дача адказу на заметкі і што фактычна па ёй праведзена ў жыцьцё. Кіраўніком прадпрыемстваў і ўстаноў неабходна даваць на заметкі зусім праверанныя адказы, у адпаведных выпадках рабіць жывую праверку фактаў і толькі грунтуючыся на гэткіх даных—даваць пісьмовыя адказы ў газэту (пасылка адказаў—пісьмовых—у рэдакцыі газэт бязумоўна абавязкова). Паказаць кіраўніком, што даручэньні па расьсьледваньню заметак павінны давацца толькі праверанным на рабоце работнікам, пры гэтым катэгарычна забараніць дачу такіх даручэньняў выкрываемым (разаблачаемым) у заметцы работнікам. У рабоце па расьсьледваньню заметак і дачы адказаў на іх павінна быць устаноўлена ўвязка паміж адміністрацыяй і Бюро Дасягненьняў ці іншымі нізавымі расьсьледавацельскімі камісіямі.

5. Лічыць, што *няўважлівыя адносіны да рэагаваньня на рабселькораўскія заметкі* і дача па ім беспадстаўных абвяржэньняў *павінны разглядацца, як найверная азнака загніваньня апарату,* так як гэта паказвае, што ў даным апараце бюракратычныя скажэньні прыдушаюць сабою ініцыятыву ў галіне зьнішчэньня недахопаў.

Выходзячы з гэтага неабходна *ва ўсіх выпадках сыстэматычнага ігнараваньня рабселькораўскіх заметак ці „абвяргацельства" прыцягваць да судовай адказнасьці, як за злачынства, вінаватых у ігнараваньні і фармальных і бюракратычных адносінах да крытыкі ў друку.* Таксама трэба расцэньваць, як бюракратычнае супраціўленьне крытыцы ў друку і заслугоўваючых суровых мер пакараньня, аж да прыцягненьня да судовай адказнасьці—факты адказаў на заметкі, якія абмежаваны адным толькі канстатаваньнем, ці паведамленьнем аб выніках расьсьледваньня без прыняцьця сапраўдных мер па хутчэйшаму зьнішчэньню ненармальнасьцяў, адзначаных у заметках. Прызнаць мэтазгодным *у бліжэйшы час правесьці некалькі судовых паказальных*

*працэсаў на прадпрыемствах і ва ўстановах адносна няправільных, злосных, бюракратычных абвяржэньняў на заметкі і прапановы рабочых* (у тым выпадку, калі будзе ўстаноўлена бясспрэчнасьць неабгрунтаванасьці адказу).

У тых выпадках, калі ўстанаўляецца асабістая вінаватасьць пры дачы няправільных адказаў, ці цяганіна з дачай адказаў асобнымі работнікамі апарату—адміністратары павінны ўжываць да іх адміністрацыйныя спагнаньні, паведаміўшы аб гэтым праз газэту і ў загадах.

6. Абавязаць усіх кіраўнікоў установаў і прадпрыемстваў ужыць рашучыя меры да больш хуткага расьсьледваньня і пасылкі адказаў на рабселькораўскія заметкі: па заметках, якія патрабуюць, у адміністрацыйным парадку даць адказ на працягу ня больш тыдню з моманту зьмяшчэньня ці атрыманьня заметкі; па заметках, патрабуючых расьсьледваньня на мяйсцох (па пэрыфэрыі), таксама даваць больш хуткія адказы ва ўсякім выпадку на працягу ня больш 2-3 тыдняў, з гэтаю мэтаю цэнтральным і акруговым установам трэба як мага скарачаць колькасьць перадатачных інстанцый, а ў больш важных выпадках—рабіць жывое расьсьледваньне.

7. Прызнаць абсалютна нецярпімым, што наглядаюцца няўважлівыя пасыўныя адносіны *нізавых парт. і праф. органаў* да газэтных заметак, а таксама недапушчальную бязьдзейнасьць нізавых органаў да фактаў бюракратычных адносін адміністратараў да газэтных заметак, асабліва ў адносінах да тых заметак, дзе закранаюцца пытаньні данага прадпрыемства ці ўстановы. Нізавыя органы павінны актыўна ўмешвацца ў справу рэагаваньня на газэтныя заметкі, падштурхоўваючы адміністрацыю да хуткага сапраўднага зьнішчэньня крытыкуемых недахопаў і дачы грунтоўных адказаў, а таксама абгаварваючы на сваіх пасяджэньнях даваемыя ў газэту паасобныя адказы з уцягненьнем у гэтую справу нізавых масавых органаў, даючы гэткім чынам дадатны прыклад уважлівага і хуткага рэагаваньня на крытыку ў друку. Нізавыя парт. і праф. органы павінны першымі—як самастойна, так і праз органы КК—РСІ, Пракуратуры, Суда і г. д.—*праяўляць ініцыятыву па ўзбуджэньні спраў аб прыцягненьні да адказнасьці вінаватых у бюракратычных адносінах да самакрытыкі.* Няпрыняцьце нізавымі органамі мер у гэтым напрамку павінна разглядацца як невыкананьне дырэктыў партыі аб самакрытыцы. Парт'ячэйкі павінны ўлічваць прапановы і факты з заметак у сваёй бягучай дзейнасьці ў сэнсе скарыстаньня іх у рабоце і намячэньня такіх мерапрыемстваў, якія зьнішчалі-б выкрытыя недахопы і выпраўлялі ўсю сыстэму работы прадпрыемства ці ўстановы.

8. У мэтах палепшаньня справы па рэагаваньню на газэтныя заметкі з боку *органаў пракуратуры*, а таксама дзеля зьнішчэньня роўналежнасьці ў гэтым напрамку паміж органамі пракуратуры і рэдакцыямі газэт, прапанаваць Пракуратуры Рэспублікі ўстанавіць пэўны парадак непасрэднага і вычэрпваючага рэагаваньня з боку акруговых пракурораў на ўсе заметкі з асноўных беларускіх і цэнтральных газэт. Ускласьці гэтую справу ў акругах на аднаго з пам. пракурораў, які-б забясьпечыў своечасовае рэагаваньне на ўсе газэтныя заметкі, дзе маюцца паказаньні на крымінальныя і інш. учынкі і нагляд за хуткасьцю вядзеньня сьледства па справах, узьнікшых па газэтным заметкам. Удасканаліць сыстэму вучоту і кантролю ў органах Пракуратуры за гэткімі справамі такім чынам, каб была магчымасьць мець спэцыяльны нагляд за прасоўваньнем гэтых спраў. Лічыць зусім недапушчальным факты доўгага зацягваньня сьледства з прычыны няўважлівых адносін паасобных судова-сьледчых работнікаў да газэтных

заметак, што прыводзіць у шмат якіх выпадках да страты грамадзкага значэньня спраў. Дамагчыся больш хуткага расьсьледваньня па газэтных заметках, прыцягваючы да адміністрацыйнай адказнасьці вінаватых у цеганіне. Устанавіць, каб органы Пракуратуры па заметках, прыймаемых да судовага расьсьледваньня, рабілі адпаведнае паведамленьне рэдакцыям газэт (Бюро Расьсьледваньняў). Аб выніках сьледзтва па заметках—перадачы справы ў суд, ці спыненьне яе, рашэньне судоў па такіх справах—органы Пракуратуры і Суду павінны паведамляць у рэдакцыі газэт. Апошнім (рэдакцыям) неабходна абавязкова пэрыядычна зьмяшчаць гэткія паведамленьні (куткі ў газэтах „Пракуратура адказвае на заметкі"), каб уся рабселькораўская і савецкая грамадзкасьць была ў курсе спраў аб лёсе заметак. Прапанаваць органам Пракуратуры па справах, маючых вялікае грамадзкае значэньне, не абмяжоўвацца толькі судовым іх вырашэньнем, і важнейшыя вынікі, што выцякаюць з гэтых спраў, абавязкова ставіць перад парт. і кантрольнымі органамі для прыняцьця адпаведных рашэньняў.

9. Прапанаваць АКК—РСІ ўсямерна ўзмацніць барацьбу з усялякімі праявамі бюракратычных адносін і супраціўленьня самакрытыцы ў друку, не пакідаючы так ніводнага факту поўнага ігнараваньня ці „абвяргацельства" і фармальных адносін бяз суровых мер узьдзейнічаньня і пакараньня (згодна пастаноў Жнівеньскага—1928 г.—Пленуму ЦКК УсеКП(б). Устанавіць, як правіла, што органамі КК—РСІ вытвараюцца расьсьледваньні па заметках асабліва важнага грамадзка-палітычнага значэньня ці па паасобных зваротках рэдакцый газэт і нізавых органаў па расьсьледваньням заметак. Наладзіць спэцыяльны вучот газэтных заметак, кантроль над прасоўваньнем і вынікамі расьсьледваньня

Унутры апарату ЦКК—РСІ вытвараць нагляд за ўсімі беларускімі і асноўнымі цэнтральнымі газэтамі. Па заметках ва ўсіх цэнтральных выданьнях Агр. Група праводзіць расьсьледваньні непасрэдна, ці накіроўвае выразкі для расьсьледваньня па іншых групах Наркамату ці АКК або цэнтральным установам. АКК—РСІ вытварае расьсьледваньне непасрэдна (звычайна без асобных даручэньняў Агр. Групы) па заметкам мяйсцовых—акруговых—газэт і па газэтах „Зьвязда", „Рабочий", „Сав. Беларусь". Расьсьледваньне па ўсіх іншых—цэнтральных і беларускіх—газэтах робіцца АКК—РСІ па асобных даручэньнях ЦКК—РСІ ці рэдакцый газэт.

Апроч правядзеньня асобна-важных расьсьледваньняў сваім апаратам, АКК—РСІ павінны шырока практыкаваць перадачу асобных заметак нізавым парт. і праф. ячэйкам, вытворчым і эканом. камісіям, рэв. камісіям, рэдкалегіям і г. д., у залежнасьці ад характару тае ці іншае заметкі. Лічыць недапусьціма доўгім тэрмін расьсьледваньня заметак па лініі КК—РСІ (у сярэднім да 1 месяцу), дабіцца больш хуткага расьсьледваньня заметак, дзеля чаго максымальна скараціць шляхі прахаджэньня заметак. Вынікі расьсьледваньняў па заметках, а таксама прынятыя па ім асобныя рашэньні КК РСІ павінны абавязкова накіроўваць у газэты, пры чым вынікі расьсьледваньняў, прароблены іншымі органамі, ці работнікамі па даручэньню КК—РСІ, павінны асабліва ўважліва правярацца апошнімі з боку поўнай адпаведнасьці гэтых вынікаў узьнятых у заметках і допісах пытаньням. Кантрольным органам сумесна з рэдакцыямі газэт пры ўдзеле рабвяскораўскага актыву сэкцыяў РСІ пры гарсаветах—рабіць пэрыядычныя праверкі рэагаваньня на заметкі ў друку; пэрыядычна склікаць гарадзкія нарады рабкораў і гаспадарнікаў, а ў раёнах—нарады сялькораў, дзе побач з іншымі дакладамі заслухоўваць даклады аб узьдзейнічаньні крытыкі ў друку, а таксама асобныя даклады Бюро Расьсьледваньняў пры

рэдакцыях газэт, даклады аб рабоце нізавых органаў па рассьледваньню заметак.

10. Апроч усіх вышэйпаказанных прапаноў,—*асобна ў адносінах да насьцен-газэт*, улічваючы іх вялізнае значэньне на прадпрыемствах (асабліва друкаваных) і ва ўстановах,—прызнаць неабходным:

Зьвярнуць увагу парт'ячэяк і фабзавкомаў на неабходнасьць значнага падвышэньня агульнага кіраваньня з іх боку работай рэдкалегій насьценгазэт праз пэрыядычнае заслухоўваньне дакладаў рэдкалегій, вынясеньня гэткіх дакладаў для абгаварэньня на парт. сходах і шырокіх рабочых сходах. Асабліва важна дамагчыся, каб парт'ячэйкі і фабзавмясцкомы дапамагалі рэдкалегіям у справе сваечасовага рэагаваньня на заметкі з боку адміністрацыі.

Парткомам і нізавым парт. і проф. ячэйкам павесьці рашучую барацьбу з хуліганскімі адносінамі да насьценгазэт, зрывам цэльных нумараў выкрываючага характару, ці паасобных рэзкіх заметак, карыкатур, псаваньне такіх заметак рознымі недапушчальнымі надпісамі і г. д. Ва ўсіх такіх выпадках трэба ствараць грамадзкую думку рабочых і служачых у сэнсе рашучага асуджэньня гэткіх зьявішчаў і прыцягваць вінаватых да строгай судовай адказнасьці.

Рэдкалегіі павінны больш настойліва і рашуча дамагацца рэальных вынікаў па заметках, не застанаўляючыся ў патрэбных выпадках перад зварочваньнем у вышэйшыя органы КК—РСІ, партком, пракуратура і г. д. Рэдкалегіям неабходна: устанавіць сталыя куткі ў газэтах, дзе зьмяшчаць адказы адміністрацыі і водгукі па заметках, што будзе заахвочваць да большага ўдзельнічаньня мас у рабоце насьценгазэт.

Рэдкалегіям трэба ўстанавіць шчыльную сувязь з рэдакцыямі друкаваных газэт. З боку апошніх рэдкалегіям павінна аказвацца рэгулярная інструкцыйная дапамога, садзейнічаньне ў арганізацыі і разгортваньні работы з рабселькорамі. Таксама рэдкалегіям трэба ўстанавіць сувязь з судова-сьледчымі органамі і пракуратурай праз перадачу матар'ялаў выкрываючага характару, патрабуючага рэагаваньня ў судовым парадку.

11. Насьценгазэты па шэрагу прадпрыемстваў і ўстаноў, асабліва там, дзе выдаюцца друкаваныя насьценгазэты, становяцца мацнейшай прыладай самакрытыкі.

*Сувязь і дапамога ім з боку КК—РСІ* павінна вытварацца наступным чынам: шляхам атрыманьня друкаваных насьценгазэт і сваечасовага рэагаваньня на паказаньні ў заметках, якія патрабуюць адпаведных мер з боку КК—РСІ. Усе правадзімыя органамі КК—РСІ абсьледваньні на прадпрыемствах і ва ўстановах павінны асьвятляцца інспэктарамі ў насьценгазэтах перад абсьледваньнем з тым, каб выклікаць актыўны удзел рабкораў і наогул рабочых ва ўнясеньні прапаноў і фактаў, таксама асьвятляць вынікі і пастановы КК—РСІ па абсьледваньні. Ставіць на абгаварэньне гэтых насьценгазэт такія пытаньні, якія зьвязаны з бытам і жыцьцём рабочых, хаця яны і ня зьвязаны з абсьледваньнем гэтага прадпрыемства, чым будзе дасягацца ўдзел рабочых і нізавога актыву служачых у прапрацоўваемых РСІ пытаньнях. Пры абсьледваньнях прадпрыемстваў і ўстаноў неабходна, каб усе матар'ялы насьценгазэты, у першую чаргу друкаванай газэты, былі скарыстаны і таксама праверапы з боку рэагаваньня на іх адміністрацыяй, завкомам і ячэйкай. Вынікі праверкі з боку органаў КК—РСІ і рашэньні па асобным момантам, зьвязаным з данымі прадпрыемствамі, узьнікшых па заявах рабочых і па заметках у агульным

друку і па насьценгазэтах, неабходна паведамляць і зьмяшчаць у друкаваных і іншых насьценгазэтах, што дасьць магчымасьць паведамляць аб іх усіх рабочых.

КК—РСІ Сэкцыям Гарсавету неабходна праводзіць пэрыядычныя масавыя праверкі рэагаваньня на заметкі ў насьценгазэтах з прыцягненьнем да гэтай работы рабселькораўскага актыву (згодна пастаноў Жнівеньскага—1928 г.—Пленуму ЦКК УсеКП(б).

* * *

Прэзыдыум ЦКК прапанаваў усім АКК—РСІ абмеркаваць пастанову 4-й Усесаюзнай Нарады рабселькораў аб арганізацыі Бюро Дасягненьняў пры рэдкалегіях насьценгазэт на прадпрыемствах і распрацаваць сумесна з газэтамі адпаведнае палажэньне аб гэтых Бюро, дапасавана да мяйсцовых умоў. Таксама даручана ЦКК—РСІ сумесна з рэдакцыямі друкаваных газэт прыступіць да арганізацыі Бюро Дасягненьняў буйных прадпрыемствах і ва ўстановах.

Агр. Групе ЦКК і АКК даручана арганізаваць сыстэматычную праверку выкананьня дырэктыў аб рэагаваньні на заметкі ў друку і насьценгазэтах, а таксама праверку рэагаваньня з боку мяйсцовых органаў у адносінах праяў ігнараваньня самакрытыкі ў друку і насьценгазэтах, у прыватнасьці як скончыліся справы аб хуліганскіх праявах да насьценгазэт.

Прэзыдыум ЦКК абавязаў усіх кіраўнікоў прадпрыёмстваў і устаноў парт., праф. і грамадзкіх органаў як цэнтральных, так і акруговых, гэтак асабліва ў раёнах—ужыць адпаведныя меры, якія-б забясьпечылі правядзеньне ў жыцьцё (у сваіх установах) гэтых прапаноў ЦКК—НКРСІ па рэагаваньню на заметкі ў друку і насьценгазэтах.

## Аб праходжаньні спраў у судова-сьледчых органах

*(усчатых органамі ЦКК—РСІ).*

На падставе вывадаў абсьледаваньня па гэтым пытаньні Прэзыдыўмам ЦКК (прат. № 6 ад 29-I-1929 г.) адзначаны недапушчальныя адносіны судова-сьледчых органаў і пракуратуры да спраў, усчатых органамі ЦКК—РСІ, якія часта доўга залежваюцца без усялякага руху, утрачваючы гэтым самым сэнс; беспадставнае спыненьне спраў, няўважліва фармальныя адносіны да фактаў у матар'ялах і грамадзкае значэньне спраў, асабліва па барацьбе з бюракратызмам, пратэкцыянізмам і безгаспадарчасьцю; адсутнасьць вучоту і належнага нагляду за гэтымі справамі.

Прэзыдыум ЦКК указаў Пракуратуры Рэспублікі на недапушчальнасьць гэтага ў далейшым. Судова-сьледчым органам неабходна больш рашуча завострыць барацьбу са службовымі злачынствамі, асабліва з бюракратызмам, цяганінай, безгаспадарчасьцю і растратамі, а НКЮ сачыць за тым, каб устаноўленыя тэрміны для разгляду гэтых спраў як у сьледчых, так і ў судовых органах сапраўды выконваліся, прыцягваючы вінаватых у парушэньні тэрмінаў і цяганіне да адказнасьці.

ЦКК прапанавала НКЮ устанавіць такі парадак, каб справы, усчатыя органамі ЦКК—РСІ, сапраўды былі забясьпечаны як па хуткасьці іх праходжаньня, так і па сутнасьці іх вырашэньня, для чаго завесьці ім

сталы вучот у судова-сьледчых органах і нагляд за іх рухам. Згодна пастановы ЦКК УсеКП(б), прапанавана АКК—РСІ пэрыядычна заслухоўваць даклады судова-сьледчых органаў аб ходзе перададзеных імі судовых спраў.

З мэтаю зьнішчэньня недахопаў агульнага характару ў дзяржаўным, каапэрацыйным і іншым апараце ў галіне савецка-гаспадарчай дзейнасьці, судовыя органы і Пракуратура павінна рабіць вынікі па найбольш выдатных працэсах, пра якія дакладваюць адпаведным органам і органам ЦКК—РСІ для прыняцьця суадпаведных мер у парадку кіраваньня.

Судова-сьледчыя органы абавязаны (аб гэтым НКЮ павінен даць асобнае распараджэньне) абвяшчацьорг. КК—РСІ аб галоўных этапах праходжаньня перададзеных ім спраў, маючых больш важнае значэньне; тэрмін перадачы Пракуратурай наступнай інстанцыі, Пракуратура аб тэрміну накіраваньня ў суд з копіяй абвінаваўчага заключэньня, ці пастановы аб спыненьні і суду аб канчатковых выніках (копія прыгавору, ці пастановы аб спыненьні). Усе службовыя справы, якія ўсчаты пастановамі органаў КК—РСІ і па якіх будзе ўстаноўлена адсутнасьць крымінальнага злачынства, а толькі наліччa пакараньня ў адміністрацыйным парадку і калі суд прыйдзе да думкі не заслухоўваць у судовым парадку,—абавязкова накіроўваць у органы КК—РСІ, якія канчаткова і вырашаюць іх. Больш выдатныя справы аб бюрократызьме, валакіце, безгаспадарчасьці заслухоўваць на прадпрыемствах, рабочых клюбах, сярод сялянскай грамадзкасьці, прыцягваючы на працэсы працоўных, дастаткова асьвятляючы ў друку.

Акруговым КК—РСІ пры накіраваньні спраў у судова-сьледчыя органы неабходна больш уважліва адносіцца да накіроўваемых спраў у тым напрамку, каб судова-сьледчы апарат не загружаўся такімі, якія ня маюць пад сабой крымінальнага грунту і якія могуць вырашацца непасрэдна КК—РСІ. Для кантролю за рухам і далейшага вывучэньня дзейнасьці судова-сьледчага апарату КК—РСІ па ўсіх перадаваемых справах, пачынаючы з 1-га студзеня 1929г, устанаўліваюць кантроль і нагляд.

Пракурору Рэспублікі і Акруговым Пракурорам прапанавана зараз-жа праверыць становішча ўсіх спраў, перададзеных органамі ЦКК—РСІ у судова-сьледчыя органы, прыняўшы крокі аб хуткім сканчэньні іх, пасьля чаго не пазьней як 1 сакавіка г. г. зрабіць органам ЦКК—РСІ даклад аб выніках гэтай праверкі.

---

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## Клейнборт. „Молодая Белоруссия“. Очерк современной белорусской литературы 1905—1928 г.

Ва ўступе да сваёй кнігі Клейнборт піша: „*Аўтар не прэтэндуе на працу, у якой адчуваецца патрэба ў самой Беларусі. Гэта—справа тых крытыкаў, гісторыкаў літаратуры, якіх ужо высоўвае беларуская журналістыка, маладая беларуская культура. Праца яго паслужыць справе азнаямленьня расійскіх чытацкіх колаў з літаратурай і літаратурным рухам Беларусі*“. З гэтых слоў відаць, што сам аўтар не прэтэндуе на сур'ёзную працу па гісторыі маладой беларускай літаратуры. Але таму, што гэткае працы па сутнасьці яшчэ няма, а патрэба у ёй вялікая, кніжка Клейнборта можа стаць настольнаю кнігаю кожнага, хто вывучае гісторыю беларускае літаратуры ня толькі за межамі Беларусі, але і ў самой Беларусі. У зьвязку з гэтым кніга Клейнборта павінна быць паддана ўсебаковай сур'ёзнай крытыцы.

Лепшая частка кнігі, гэта тая, дзе Клейнборт дае аналіз творчасьці таго ці іншага пісьменьніка і паэты. Можна, канечне, спрачацца, па асобных характарыстыках, асобных заўвагах, але ў асноўным Клейнборт з гэтаю працаю справіўся. Калі-б кніга была толькі з гэтае часткі—аналізу творчасьці паэтаў і пісьменьнікаў, яна была-б бясспрэчна каштоўным укладам у літаратурна-крытычную галіну беларускае культуры.

Але Клейнборт піша гісторыю беларускае літаратуры. Ён імкнецца даць нібыта філёзофію гісторыі беларускае літаратуры. І вось тут ён зрываецца, спатыкаецца. Фармуліроўкі яго становяцца няяснымі, няпэўнымі. Ён часта агаварваецца, недагаварвае, і гэта тлумачыцца тым, што Клейнборт падыходзіць да гісторыі ня так, як павінен падыходзіць дыялектык-марксыст.

Уся гісторыя, як вядома, ёсьць гісторыю клясавае барацьбы. Гісторыя літаратуры ёсьць гісторыя мастацкага адбітку клясавае барацьбы. Гэта бясспрэчная ісьнасьць для марксыста. Гэтага быццам не адмаўляе і Клейнборт. Але ў яго падыходзе да гісторыі беларускае літаратуры няма аналізу яе, менавіта з пункту гледжаньня клясавае барацьбы. Ён не разумее клясавага характару розных этапаў, якія пройдзены рэвалюцыйным рухам у Беларусі, і таму ў яго няма яскравасьці ў разуменьні розных клясавых этапаў з гісторыі беларускае культуры.

Гісторыя рэвалюцыйнага руху на Беларусі па сутнасьці дзеліцца на два этапы. Першы этап—гэта барацьба ўсяго сялянства супроць паноў, супроць самаўладзтва. Гэта этап буржуазна-дэмакратычны, галоўным стрыжнем якога было аграрнае пытаньне, сялянства. Адбіткам гэтага этапу ў беларускай літаратуры і ёсьць этап — „Нашаніўскі“. Другі этап—гэта дыктатура пралетарыяту ў Беларусі. Адбіткам гэтага этапу ў літаратуры ёсьць нараджэньне і рост пралетарскае літаратуры. Як у галіне палітычнай неабходна было весьці і сапраўды вялі барацьбу з палітыкамі беларускага „адраджэнства“ за кіраваньне сялянствам, так і ў галіне літаратурнай трэба было весьці і сапраўды пра-

водзілі барацьбу з ідэолёгамі „нашаніўскага“ этапу беларускае літаратуры, за гэгэмонію пралетарскае ідэолёгіі. Што-ж думае аб гэтым Клейнборт?

Паслухайце, што піша ён:

„Хоць у Беларусі тае вострае барацьбы, што ў Вялікаросіі, няма, але ўсё-ж Чарот хоча весьці барацьбу і са старымі пісьменьнікамі“— усё-ж Чарот хоча ваяваць... Як быццам Чарот, гэта значыць „Маладняк“, і не рабіў тое і не павінен быў рабіць у канкрэтных умовах Беларусі таго, што рабілася ва ўсёй былой Расіі. Няўжо ў Беларусі ня было барацьбы за дыктатуру пралетарыяту, супроць якой вялі барацьбу, а частка вядзе і цяпер—былыя ідэолёгі-барацьбіты беларускага „адраджэнства“, гэта значыць барацьбіты за буржуазна-дэмократычную Беларусь. Няўжо барацьба супроць „нашаніўскае“ ідэолёгіі не азначала барацьбы за ўстанаўленьне гэгэмоніі пралетарскае ідэолёгіі, пралетарскае літаратуры. Як быццам гэта яскрава, але Клейнборт ня думае пра гэта сказаць. Ён як быццам асуджвае Чарота, які „ўсё-ж такі“ хоча вясьці барацьбу са *„старымі“* пісьменьнікамі...

Вось гэтае неразуменьне клясавага характару двух асноўных этапаў беларускае літаратуры прыводзіць Клейнборта да няточнага падзелу гісторыі беларускае літаратуры на: 1) *асноўную плынь новае беларускае літаратуры* і 2) *на пасьлярэвалюцыйную плынь.* Няпэўнасьць такога падзелу яскрава. Калі пішуць гісторыю літаратуры, дык неабходна адзначыць той клясавы характар, які домінуе на дадзеным этапе разьвіцьця літаратуры. З гэтым пунктам гледжаньня трэба было першы этап беларускай літаратуры ахарактэрызаваць, як буржуазна-дэмократычны этап, у якім домінуе селянін, як барацьбіт супроць пана, супроць самаўладзтва, а другі этап, які пачынаецца Кастрычнікаваю рэвалюцыяй—як новы этап, дзе гэгэмонію пачынаюць браць ідэі пралетарыяту, які ў саюзе з сялянствам вядзе барацьбу за сацыялізм.

Але сказаць так можа толькі той, хто хоча ўжываць у гісторыі беларускае літаратуры матэрыялістычны мэтад разуменьня гісторыі. Але *„ў Беларусі—піша Клейнборт—мэтад марксызму, матэрыялістычнага разуменьня мастацтва ня можа адыграць вялікую ролю ў стварэньні новых форм“.* Чаму? А таму, бачыце,—Беларусь *„краіна па пераважнасьці сялянская“* (ст. 350). Якая, аднак, спагадлівасьць па адносіне да Беларусі! Ня будзем спыняцца на няпісьменнасьці такое заявы. Трэба толькі адзначыць, што гэта заява Клейнборта дае *гістарычнае апраўданьне ўсялякім ухілам ад марксызму, ад яго дыялектычна-матэрыялістычнага мэтаду.* Клейборт, відаць, адабрае тых, якія не зьяўляюцца прыхільнікамі гэтага мэтаду, і не адабрае барацьбы за гэгэмонію гэтага мэтаду ва ўмовах Беларусі. Для Клейнборта, відаць, зусім ня існуе Беларусі, як часткі вялікага СССР. Ён не разумее таго, што працэсы ў самой Беларусі ня ідуць адарвана ад усяго таго, што робіцца ў СССР і за межамі СССР.

Клейнборт занадта рэзка падкрэсьлівае *слабое сацыяльнае расплатаваньне беларусаў.* Ён піша: *„Самае каранное насельніцтва, беларусы, засталося па-за межамі сацыяльных груповак“* (ст. 19). *„Яскравае дыфэрэнцыяцыі тут не наглядалася“. „Дыфэрэнцыраваньне адбываецца як-бы ў баку ад асноўнае масы Беларусі—сялянства“* (ст. 20). *„Яскравае дыфэрэнцыяцыі тут* (гэта значыць, на Беларусі) *не наглядалася“.*

Вядома, што Беларусь у выніку палітыкі самаўладзтва была ў капіталістычных адносінах адсталаю часткаю былое Расіі. Таму грамадзкія адносіны ня прынялі таго яскравага характару, якія яны прынялі,

скажам, у Вялікаросіі. *Але капіталізм пусьціў глыбокія карэньні ў Беларусі, у беларускай вёсцы.* У сувязі з гэтым ішло распластаваньне сялянства на палярныя пласты: на кулакоў і беднякоў. Бо сам-жа Клейнборт піша (на ст. 21) аб тым, што ў вёсцы маюцца кулацкіх гаспадаркі. „Варта было пабыць (канечна, да вайны) на беларускія кірмашох і рынках, каб упэўніцца ў наліччы прадстаўнікоў дробнага і сярэдняга беларускага капіталу“ (ст. 19),—як бачым маюцца ня толькі беларускі кулак, прадстаўнік капіталізму на вёсцы, але і беларускі капіталіст—прадстаўнік капіталізму ў горадзе. Для чаго трэба было Клейнборту *гэта рэзкае і частае падкрэсьліваньне недэфэрэнцыраванасьці беларусаў?* А для таго, каб вывесьці наступныя заключэньні: *„Нацыянальнасьці і клясы, інтарэсы нацыянальныя і клясавыя супадалі“* (падкрэсьлена аўтарам). Польскія аграрыі прадстаўлялі сабою земляўладаньне, расійскае чыноўніцтва — царызм, яўрэі—гандляроў, дробную і сярэднюю буржуазію, беларусы-ж галоўным чынам, бядняцка-серадняцкую масу сялянства (ст. 21). Ці так гэта? Мы лічым, што няправільна. Бязумоўна правільна тое, што буйное земляўладаньне на Беларусі знаходзілася ў руках палякоў. Але з гэтага яшчэ ня выходзіць, што ў Беларусі *ня было сялян-палякаў, якія не змагаліся-б з палякамі—буйнымі земляўласьнікамі?* А няўжо *ў тым самым маёнтку пана-паляка ня было палякаў-парабкаў, якія-б не вялі клясавае барацьбы са сваім клясавым ворагам—з панам?* А калі ўзяць яўрэяў. *Няўжо ў іх клясавая барацьба ня была дастаткова разгорнута? Няўжо інтарэсы яўрэя-рабочага не супадалі з інтарэсамі сялянства супроць паноў, супроць самаўладзтва?*

І ўсю гэтую „тэорыю“ Клейнборт прывёў для таго толькі, каб даказаць арганічную сувязь беларускае літаратуры менавіта з сялянствам, а ня з іншаю якое-небудзь клясаю. Ня кажучы пра тое, што гэтая „тэорыя“ зусім няправільная і не адпавядае сапраўднасьці, яна можа прывесьці і да адмоўных палітычных вынікаў. Бо калі Беларусь ня была распластавана, калі беларусы ня ведаюць клясаў, дык адкуль было ўзяцца такім кулацкім арганізацыям, як, напрыклад, ХДЦ, як розным беларускім арганізацыям і партыям, якія вялі барацьбу з Савецкай уладай. А як наогул можна цяпер гаварыць пра клясавую барацьбу на вёсцы? *Няўжо такая „тэорыя“ нявыгадна розным кулацкім ідэолёгам...*

Мы думаем, што вышэй пададзеным можна абмежавацца ў справе асьвятленьня „філёзофіі“ гісторыі беларускае літаратуры, якая дадзена Клейнбортам. Яна няглыбокая і няправільная. Клейнборт перакручвае гісторыю беларускае літаратуры. Ён яе проста не разумее.

Цяпер для паўнаты малюнку мы зробім яшчэ шэраг паасобных заўваг.

1. Клейнборт піша: „Тыя ці іншыя адносіны і да правоў „недзяржаўных“ нацыянальнасьцяў, і да правоў акраін служылі разьмежавальнаю рыскаю паміж партыйна-палітычнымі плынямі, складалі бяз сумненьня па сутнасьці момант самага працэсу рэвалюцыі і контррэвалюцыі. Асіміліраваньне „акраін“, гвалтоўныя зьліяньні з цэнтрам складалі прадмет *мараў* адных; *ахова* нацыянальных культур, якія арганічна разьвіваліся—задачу другіх“ (ст. 7).

Няправільна, што нацыянальнае пытаньне служыла разьмежавальнаю рыскаю паміж партыйна-палітычнымі плынямі. Разьмежавальнаю рыскаю служылі клясавыя інтарэсы. Нацыянальнае пытаньне зьяўлялася толькі падуладным момантам клясавае барацьбы. Няправільна, што гвалтоўнае асіміліраваньне ўяўляла сабой толькі прадмет мараў. На жаль, ня толькі мараў, але і „рабілі“. А як рабілі гэта цары, вя-

дома-ж усім. Няправільна таксама тое, што быццам задачаю другіх была ахова нацыянальнае культуры. Напрыклад, бальшавікі ня ставілі сваёю мэтаю ахову нацыянальнае культуры. У капіталістычным ладзе бальшавікі вялі барацьбу з „нацыянальнаю", гэта значыцца, буржуазную культураю за дэмакратычныя элемэнты культуры, выступаючы адначасова супроць гвалтоўнае асіміляцыі, якая праводзілася царызмам.

2. Клейнборт піша: „Калі ў асноўных сваіх рысках і сама гісторыя Беларусі дэмакратычна, як і літаратура, дык раней усяго яна гэтым абавязана духоўнай заквасцы літаратуры, народжанае перадавым сялянствам, нараджаўшымся беларускім пралетарыятам. Бо цэнтр цяжару руху ляжаў у літаратуры" (ст. 26).

Дэмакратычнасьць гісторыі Беларусі тлумачыцца па Клейнборту духоўнаю закваскаю літаратуры. Раней за ўсё патрэбна адзначыць, што гісторыя Беларусі да пэрыяду Кастрычнікавае рэвалюцыі вядзе ня толькі рэвалюцыю, але і контррэвалюцыю. Варта хоць-бы ўспамянуць пра тую барацьбу, якую вялі беларускія дробна-буржуазныя арганізацыі, барацьбу супроць дыктатуры пралетарыяту. Але наогул дзіўна чуць у нашыя часы, што *літаратура стварае характар гісторыі*. Ці варта даводзіць адваротнае. Бо для марксыстага гэта лемантарная ісьнасьць, і яна нават вядома кожнаму радавому партшкольцу.

3. Кажучы аб стварыцелях новае беларускае літаратуры, Клейнборт піша: „Гэтае выключнасьці, гэтага „нацыяналізму" у кавычках (выходзіць, па Клейнборту, нацыяналізм без кавычак павінен усхваляваца. Так! Так!) у нашых сыноў вёскі, якія стаяць ля калыскі грамадзкае думкі, якія імкнуцца толькі фармуліраваць свае словы, канечне, няма" (ст. 26). Клейнборт не адрозьнівае нацыяналізму пануючае нацыі, які зьяўляецца прыладаю прыдушэньня дробных нацый, ад нацыяналізму прыгнечанае нацыі, які вядзе барацьбу за нацыянальную свабоду. У той час, як першы рэакцыйны, другі прагрэсыўны, у тым сэнсе, што ён вядзе барацьбу супроць нацыянальнага ўціску. Але прырода нацыяналізму адна і тая-ж самая—буржуазная. Дробны буржуй заўсёды нацыяналістычны, пралетарый інтэрнацыяналістычны. Пралетарыят вядзе барацьбу супроць усялякага нацыяналізму, якую форму ён-бы ня меў. Клейнборт гэтага не разумее, і выступае такім чынам у абарону нацыяналізму, які цяпер у сучасных умовах абвастрэньня клясавае барацьбы ў асаблівасьці зьяўляецца прыкрыцьцём для клясавага ворагу, які вядзе барацьбу супроць дыктатуры пралетарыяту.

4. Клейнборт піша: „Галоўным дзеячом руху зьяўляўся „*Бунд*", той самы, аб якім Горкі пісаў: „сьвет ўпэўніўся, што яўрэй—гэта адзін з самых вялікіх гэрояў, якіх толькі нараджаў сьвет. Нязвычайная адвага, якая паказваецца яўрэямі ў іх рэвалюцыйнай барацьбе, агульнавядома" (ст. 65). Як вам гэта падабаецца, чытач, такая характарыстыка „Бунду"? Проста дзівішся, чаму партыя вяла такую жорсткую барацьбу з „Бундам"? Калі верыць Клейнборту, дык уся гісторыя барацьбы з „Бундам" ня мае ніякага сэнсу. На шчасьце, справа абстаіць якраз наадварот. Клейнборт пісаў так толькі таму, што ён, відаць, ня ведае гісторыі нашае партыі і верны меншавізму.

5. Клейнборт піша: „Роля разначынца-інтэлігэнта ў Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе, па крайней меры, лічбовая. Усё прыкметней становіцца ў ёй селянін, рабочы, рамесьнік, які ўносіць *новы дух* у арганізацыю". Беларуская Сацыялістычная Грамада была зброяю дробнае буржуазіі. Яе ідэалёгія дробна-буржуазная. Ад таго, што ў ёй стала больш рабочых, ідэалёгія яе не зьмянілася, паколькі цэнтр важкасьці яе барацьбы ляжаў у галіне нацыянальнай. Яе клясавая база—сялянства. Цяпер гэта трэба яшчэ больш яскрава падкрэсьліць, бо

робяцца спробы затушаваць клясавую фізыяномію Беларускае Сацыялістычнае Грамады. Клейнборт у сваёй кнізе адлюстроўвае настроі тых, якія хочуць затушаваць дробна-буржуазную прыроду Грамады.

6. Клейнборт піша: „Першыя пытаньні, якія ставіць перад вёскаю 1905 год, гэта—*пытаньні чэсьці і сумленнасьці*". Ленін піша, што стрыжнем рэвалюцыі 1905 году было аграрнае пытаньне, а... Клейнборт—пытаньні „чэсьці і сумленнасьці". Трэба сказаць праўду: Клейнборт гародзіць вялікае глупства.

7. Клейнборт піша: „Па волі чыйгосьці жазла пачынаецца вайна" (ст. 320). Клейнборт аказваецца ня ведае, якія прычыны прывялі да імпэрыялістычнае вайны. І гэты чалавек бярэцца пісаць гісторыю, калі яму нават невядомы прычыны імпэр ыяістычнае вайны.

8. Клейнборт піша: „У краінах Эўропы эканамічнае пытаньне было пытаньнем ліквідацыі вайны. У нас-жа характар гэтага развалу быў зьвязаны ня толькі з вайной, але і з рэвалюцыяй, пераваротам усіх эканамічных адносін" (ст. 326). Значыць, па Клейнборту перад Захадам не стаяла задача рэвалюцыйнага нізрынуцьця капіталістычнага ладу. Ад такое заявы Клейнборта павявае сапраўдным меншавіцкім душком.

Можна было-б спыніцца яшчэ на *вялікай* колькасьці няправільных думак, якія раскіданы па ўсёй кнізе. Можна было паказаць, як Клейнборт ставіць у адзін шэраг Струвэ і Леніна, як ён скажае ўсю гісторыю „Маладняка" (мы лічым *неабходным* выступленьне „Маладняка" па гэтаму пытаньню з падрабязным асьвятленьнем сучаснага становішча „Маладняка" ў расійскіх часопісах, бо расійскі чытач можа быць кніжачкаю Клейнборта ўведзены ў блытаніну па гэтаму пытаньню і атрымаць няпэўныя веды адносна сучасных літаратурных груповак у Беларусі) і г. д. Але сказанае дае нам магчымасьць зрабіць наступны агульны вывад: *кнігу Клейнборта нельга рэкамэндаваць чытачом, якія жадаюць азнаёміцца з гісторыяй маладой беларускай літаратуры. Клейнборт скажае гэтую гісторыю, будучы рупарам нацыяналістычных і нават меншавіцкіх настрояў.*

**Р. Кугель.**



# ЗЬМЕСТ



## Наша трыбуна.



## На мяйсцох.



## У ЦК КП(б)Б.



## У ЦКК КП(б)Б.



## Крытыка і бібліяграфія.



---

